ЛіМ
# Літаратура і мастацтва

16 МАЯ 2003 г. № 20/4206 КОШТ 530 РУБ.

*Ігар ЛАПЦЁНАК:*

**"Сёлета, як ніколі раней, мяне непакоіць, што да пачатку новага навучальнага года школы могуць атрымаць не ўсе падручнікі"**

5



**Гэты сезон стаўся для Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі асаблівым, юбілейным. Тэатру споўнілася дзесяць год — круглая лічба па традыцыі вымушае агледзецца і падвесці пэўныя вынікі.**

10-11



***"ЧЫРВОНЫ СЛОН І ФРАУ ФЕМІДА"*** — **крымінальныя нататкі Навума ЦЫПІСА з Германіі.**



14-15

ВЫСТАВЫ

# «СМІ Ў БЕЛАРУСІ — 2003»

***На выставе "СМІ ў Беларусі" сваім стэндам была прадстаўлена Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва". Усе, хто прыходзіў на выставу, маглі сустрэцца з супрацоўнікамі холдынгу, пагаварыць з імі і атрымаць адказы на хвалюючыя пытанні.***




Глядзіце на стар. 2



# «МАЛАДОСЦЬ» СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

*У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна прайшла вечарына, прысвечаная 50-годдзю часопіса "Маладосць".*

Глядзіце на стар. 3

# КОЛА ДЗЁН

*9 мая наша краіна адсвяткавала Дзень перамогі*

## ІНТЭРНЕТ-САЙТ ТЫДНЯ

3 мая, у Сусветны дзень свабоды друку, Міністэрства інфармацыі Беларусі прэзентавала свой сайт у Інтэрнеце. На сайце (www. mininform. gov. by) пададзены не толькі звесткі пра дзейнасць міністэрства, але і пра выдавецка-паліграфічную галіну краіны, кніжны гандаль у Беларусі. На сайце можна знайсці звесткі пра сродкі масавай інфармацыі нашай краіны, асобны раздзел прысвечаны нарматыўна-прававым актам, якія датычацца СМІ. У будучым у Інтэрнеце будуць прадстаўлены агляды рэгіянальнай прэсы.

## ПРЭМІЯ ТЫДНЯ

9 мая ў Венскім універсітэце на ўрачыстай цырымоніі паэту Алесю Разанаву — аднаму з сямі лаўрэатаў гэтага года — была ўручана прэмія імя Гердэра Фонда Альфрэда Тэпфера (Гамбург). Алесь Разанаў стаў другім беларусам пасля Святланы Алексіевіч (1999), узнагароджаным гэтай прэміяй. Віншуем!

## ПОШУК ТЫДНЯ

Напрыканцы красавіка невядомым асобам з аддзела рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ўдалося выкрасці 12 каштоўных кніг, якія на ўнутраным рынку нашай краіны ацэньваюцца ў суму каля 22 мільёнаў 600 тысяч рублёў. За межамі Беларусі кошт скрадзеных кніг будзе намнога большы. Самая старажытная з кніг датуецца XV стагоддзем. Зараз следствам адпрацоўваюцца версіі гэтага крымінальнага здарэння і ідзе пошук злодзеяў.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Да канца 2004 года сталічны кірмаш "Дынама" знікне. Замест яго з'явіцца спартыўна-трэніровачны цэнтр, куды будзе ўваходзіць лёгкаатлетычны і футбольны комплексы і спартыўныя залы, камерцыйны цэнтр з гандлёвай выстаўкай на 120 гандлёвых кропак, а таксама сучасны фізкультурна-аздараўленчы комплекс з трэнажорнымі заламі, масажнымі кабінетамі, більярдным клубам і інш.

## ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА НА 2-ое ПАЎГОДДЗЕ 2003 ГОДА!

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на другое паўгоддзе 2003 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны. Кошты засталіся тымі ж, што і былі ў першым паўгоддзі. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.

### "Літаратура і мастацтва"

Індывідуальная (індэкс — 63856)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 63857)**
**на 1 месяц — 4000 руб.**
**на 3 месяцы — 12000 руб.**
**на 6 месяцаў —24000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 63880)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Полымя"

Індывідуальная (індэкс — 74985
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00727)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Маладосць"

Індывідуальная (індэкс — 74957)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00137)
**на 1 месяц — 3800 руб.**
**на 3 месяцы — 11400 руб.**
**на 6 месяцаў — 22800 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00731)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Крыніца"

Індывідуальная (індэкс — 74824)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
на 3 месяцы — 7500 руб.
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 74940)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00730)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Нёман"

Індывідуальная (індэкс — 74968)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 00238)**
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00728)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Всемирная литература"

Індывідуальная (індэкс — 74863)
на 1 месяц — 2500 руб.
на 3 месяцы — 7500 руб.
на 6 месяцаў — 15000 руб.
Ведамасная (індэкс — 00135)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00729)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

ВЫСТАВЫ

# «СМІ Ў БЕЛАРУСІ — 2003»

**У Мінску з 7 па 10 мая прайшла VII міжнародная спецыялізаваная выстава "СМІ ў Беларусі". Мерапрыемствы, прысвечаныя да гэтай падзеі, пачаліся яшчэ 3 мая. У гэты дзень адбылася прэзентацыя Інтэрнет-сайта Міністэрства інфармацыі. А ў сталічным Палацы Рэспублікі прайшла цырымонія ўручэння спецыяльных прэмій Міністэрства інфармацыі "За плённую работу ў беларускай журналістыцы" і "За плённую работу ў беларускім друку". Сама выстава праходзіла ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭКСПА".**



Адкрыццё выставы.

**У ёй удзельнічалі не толькі айчынныя друкаваныя выданні, але і выданні Расіі (у тым ліку і рэгіянальныя), Украіны, Кітая і іншых краін. Акрамя друкаваных СМІ на выставе былі прадстаўлены экспазіцыі Белтэлерадыёкампаніі, ЗАТ "Другі нацыянальны канал", СТБ. Прысутнічалі і грамадскія арганізацыі, якія аб'ядноўваюць рэгіянальныя тэлекампаніі. Падчас выставы прайшло шэраг семінараў, а таксама канферэнцыя распаўсюджвальнікаў друкаванай прадукцыі.**



Аўтограф ад Раісы БАРАВІКОВАЙ.

**На выставе "СМІ ў Беларусі" сваім стэндам была прадстаўлена Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва". Усе, хто прыходзіў на выставу, маглі сустрэцца з супрацоўнікамі холдынгу, пагаварыць з імі і атрымаць адказы на хвалюючыя пытанні.**





Лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір КАРЫЗНА і Алесь САВІЦКІ.

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

**Днямі ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў завіталі галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П. Броўкі, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Генадзь Пашкоў, загадчыца рэдакцыі літаратуры і мастацтва Людміла Календа, якія прэзентавалі двухтомную энцыклапедыю "Тэатральная Беларусь".**

# МУДРЫЯ АПОСТАЛЫ СВЯТЛА

Не адзін год давялося працаваць над яе стварэннем шматлікім аўтарам з розных дзяржаўных устаноў, творчых калектываў — пад агульным кіраўніцтвам і рэдакцыяй доктара мастацтвазнаўства, прафесара, акадэміка Міжнароднай акадэміі навук аб прыродзе і грамадстве А. Сабалеўскага. У выніку ў двух тамах змешчана больш за 2 тысячы артыкулаў, прысвечаных народнаму, прафесійнаму і аматарскаму тэатральнаму мастацтву, яго формам і жанрам, драматургіі, акцёрскаму мастацтву і рэжысуры, сцэнаграфіі, тэхніцы сцэны, адукацыі, навукова-даследчай рабоце ў галіне тэатра, тэатральнаму жыццю гарадоў. У ёй знайшлі месца шырока ўжывальныя тэатральныя тэрміны, а таксама артыкулы па літаратуры, фальклоры, выяўленчым мастацтве, радыё, кіно, тэлебачанні, друку, якія маюць дачыненне да тэатральнага мастацтва. У артыкулах пра буйныя тэатры прыведзены рэпертуарныя спісы... І мноства фатаграфій, малюнкаў, здымкаў — каляровых і чорна-белых.

Вялікая актавая зала акадэміі ледзьве ўмясціла ўсіх жадаючых. Некалькі пярэдніх радоў было адведзена для гасцей, сярод якіх большасць — героі энцыклапедыі, былыя выпускнікі акадэміі. Гэта заслужаная артыстка Беларусі Зоя Белахвосцік, тэатразнаўца, кандыдат мастацтвазнаўства Тамара Гаробчанка, народны артыст Беларусі Міхаіл Пятроў, заслужаны артыст Беларусі, прафесар, дэкан тэатральнага факультэта акадэміі Уладзімір Мішчанчук...

Тут жа, побач з імі, дзяржаўныя асобы, навукоўцы: памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта РБ Іван Карэнда, доктар філалагічных навук, прафесар, нам. дырэктара Інстытута літаратуры НАН Сцяпан Лаўшук, культуролаг, доктар філасофскіх навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Конан...

Пасля ўступнага слова рэктара акадэміі мастацтва, доктара мастацтвазнаўства, прафесара Рычарда Смольскага, слова бралі госці. Іван Карэнда засяродзіў увагу на гаючай жыццедайнасці мастацтва, ягонай ролі ў жыцці асобы, грамадства, краіны, аб асветніцкай і навуковай місіі друкаванага слова, і ў першую чаргу энцыклапедычнага.



**Віктар РАБКОЎ**

# "МАЛАДОСЦЬ" СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

***У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна прайшла вечарына, прысвечаная 50-годдзю часопіса "Маладосць". Сабраліся супрацоўнікі і аўтары гэтага выдання розных гадоў. З юбілеем "Маладосць" віншавалі памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван КАРЭНДА, дырэктар РВУ "Літаратура і мастацтва" Таіса БОНДАР, ранейшыя галоўныя рэдактары часопіса Генадзь БУРАЎКІН і Васіль ЗУЁНАК, рэдактар аддзела прозы Уладзімір ДАМАШЭВІЧ, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь ПАШКЕВІЧ, які перадаў прывітанне і найлепшыя пажаданні часопісу ад народнага пісьменніка Беларусі Янкі БРЫЛЯ, а таксама дырэктар Таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі Ніна ІВАНОВА, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіслаў МАЧУЛЬСКІ, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вожык" Анатоль ЗЭКАЎ, намеснік галоўнага рэдактара сумеснага праекта "Литературной газеты" і Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы "Лад" Алесь КАЖАДУБ. Свае творы на вечарыне прадставілі Эдуард Акулін, Таццяна Сівец і Валерыя Кустава. Вечарыну вялі цяперашнія галоўны рэдактар і яго намеснік — Раіса БАРАВІКОВА і Алесь БАДАК. Адкрыла свята дырэктар бібліятэкі Наталля ЧУЕВА.***



Выступае Таіса БОНДАР.



Кветкі юбілярам.



Спявае Валерыя КУСТАВА.



## "МАЛАДЗЕЧНА — 2003"

***10 гадоў таму народны артыст Беларусі Міхал Фінберг выказаў і паспяхова спраўдзіў разам з музыкантамі аркестра, які ён узначальвае, ідэю новага свята. Свята жывога слова беларускага, спакроўленага з жывой музыкай, што заняло годнае месца ў жыцці, творчасці, свядомасці людской, у гісторыі нашага нацыянальнага адраджэння. Пра тое, як ідзе падрыхтоўка сёлетняга, замоўленага на 20—21 чэрвеня, Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне, мы неаднойчы паведамлялі (гл. "ЛіМ" за 22.11.02 г., 31.01.03 г., 25.04.03 г.). А з гэтага нумара тыднёвік адкрывае і рубрыку, дзе будуць прадстаўлены не толькі матэрыялы, звязаныя з літаратурна-музычным фэстам, яго мінулымі падзеямі ды традыцыямі, але і самыя розныя штрыхі да партрэта яшчэ адной нашай "фестывальнай сталіцы", своеадметнага культурнага асяродка, якім уяўляецца Маладзечна ў блізкай перспектыве, дый нават і цяпер.***

## ПАДАРУНАК ДА ГАДАВІНЫ

26 красавіка Першы нацыянальны тэлеканал распачаў серыю дакументальных праграм, якія знаёмяць з жыццём і творчасцю абласных тэатраў. Першы выпуск аўтар праграмы Сяргей Зінкевіч прысвяціў Мінскаму абласному драмтэатру, што працуе ў Маладзечне. Сёлета гэты цікавы калектыў адзначае сваё дзесяцігоддзе.

У праграму ўвайшлі ўрыўкі са спектакляў (у тым ліку і праграмнай для тэатра пастаноўкі "Зямля" паводле паэм "Новая зямля" і "Сымон-музыка" Якуба Коласа), размовы з акцёрамі тэатра і яго мастацкім кіраўніком Мікалаем Мацкевічам, з рэжысёрамі, якім давялося працаваць у тэатры. Шэраг апошніх аказаўся надзвычай вялікім. Справа ў тым, што кіраўніцтва тэатра дбае аб павышэнні прафесійнага ўзроўню калектыву і запрашае на пастаноўкі вядомых рэжысёраў краіны: В. Раеўскага, Р. Баравіка, Р. Таліпава, А. Андросіка, Ю. Вуту, В. Растрыжэнкава. Сваімі ўражаннямі ад работы ў маладзечанскім тэатры падзяліліся Ю. Вута (з яго спектаклем "На другі дзень Сёмухі" тэатр нядаўна наведаў сталіцу), актрыса Купалаўскага тэатра М. Захарэвіч, якая разам з М. Мацкевічам паставіла ў тэатры "Апошнюю ахвяру" А. Астроўскага, і В. Растрыжэнкаў, які спачатку прыехаў у Маладзечна на адну пастаноўку і застаўся ў тэатры, бо, па яго словах, "супалі групы крыві акцёраў і рэжысёра". Узгадалі акцёры і пра заўчасна пайшоўшага з жыцця Андрэя Андросіка, які быў для трупы не толькі чарговым рэжысёрам, але і сапраўдным педагогам па акцёрскім майстэрстве. Яго "Камедыя...", перанесеная ў Маладзечна са сцэны мінскага Альтэрнатыўнага тэатра, ужо пераважыла больш за 100 прадстаўленняў і нязменна збірае аншлагі.

Старшыня БСТД Аляксей Дудараў распавёў пра сваё шматгадовае супрацоўніцтва з калектывам, якое пачалося яшчэ ў 1985 годзе, калі тады яшчэ народны тэатр адным з першых паставіў яго п'есу "Радавыя". "Дудараўяна", як з усмешкай называюць яе акцёры, працягнулася спектаклямі "Адцуранне", "Кім", "Вавілон", "Прынц Мамабук". Але тэатр не абмяжоўвае сябе выключна беларускай драматургіяй. Тут ставіліся п'есы "Каханне — кніга залатая" А. Талстога, "Жаніцьба Бальзамінава" А. Астроўскага, "Непаразуменне" А. Камю, "Правінцыяльныя анекдоты" А. Вампілава. У межах фестывалю нямецкамоўнай сучаснай драматургіі, якую ладзіў у 1998 г. Інстытут Гётэ, тэатр ажыццявіў пастаноўку п'есы вядомага нямецкага драматурга Танкрэда Дорста "Гер Пауль". Асаблівую лірычную атмасферу гэтаму спектаклю надае музыка кампазітара Алега Залётнева, які таксама распавёў журналістам пра свае ўражанні ад працы ў Маладзечне. Быў узгаданы і спектакль "Дзяген" Б. Рацара і У. Канстанцінава, які стаў лаўрэатам фестывалю "Маладзечанская сакавіца". Гэтае свята тэатральнага майстэрства з 1994 года ладзіцца менавіта на сцэне Мінскага абласнога тэатра.

Будзем спадзявацца, што новы цыкл перадач, прысвечаны жыццю правінцыйных тэатраў, прыцягне ўвагу дзяржаўных людзей да шматлікіх праблем абласных калектываў, менш разрэкламаваных, але не менш цікавых за сталічныя.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

## ГЭТА НЕЗАБЫЎНА!

З кожным годам на беларускай эстрадзе з'яўляюцца новыя таленты. А спрыяюць гэтаму шматлікія фестывалі і конкурсныя праграмы. І вельмі прыемна і важна, што ў нашай краіне ёсць Нацыянальны фестываль беларускай паэзіі і песні, народжаны ў Маладзечне, які раскрывае перад шырокай публікай багацці роднай культуры. Гэты фестываль набыў другое жыццё пасля невялікага перапынку і цяпер зноў дае магчымасць маладым талентам заявіць пра сябе.

Свята беларускай паэзіі і песні праводзіцца, як вядома, пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга. Ужо разгарнулася вялікая праца па падрыхтоўцы фэсту, у якім возьмуць удзел не толькі ўзыходзячыя зоркі, але і самыя вядомыя і таленавітыя музыканты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра. Маладзечанскія імпрэзы заўсёды праходзяць на высокім узроўні, што робіць сам фестываль вельмі цікавым, а галоўнае — прафесійным.

А зараз мы прыгадаем пераможцу мінулага конкурсу ў Маладзечне — спевака Дзмітрыя Качароўскага.

Творчая дзейнасць яго пачалася пасля ўдзелу ў тэлевізійным конкурсе "Зорная ростань". Удалае выступленне Дзмітрыя заўважыў М. Фінберг, які прысутнічаў у журы і адзначыў маладога спевака. Вось так і пачалося прафесійнае ўзыходжанне новай беларускай эстраднай зоркі.

На сённяшні дзень Дзмітрый Качароўскі — пераможца ўжо многіх фестываляў і лаўрэат міжнародных прэмій. Ну, а ўдзел у Нацыянальным фестывалі беларускай паэзіі і песні не толькі прынёс спеваку перамогу, але і адкрыў перад ім новыя магчымасці. Дзмітрый пазнаёміўся з вядомымі кампазітарамі і паэтамі, запісаў шмат новых песень, сярод якіх — "Косы твае", "Летняя гісторыя", "Тайна", "Позабытый мир" ды іншыя. Акрамя таго, рыхтуе да выхаду свой сольны альбом, у якім будуць як беларускія, так і рускія песні.

І, канечне ж, спявак не забывае пра Маладзечна, і ўжо рыхтуецца да сёлетняга фестывалю. Як мінулагодняму пераможцу яму дадзена права адкрываць праграму фестывалю. Ён выканае знаную песню "Лодка белая", якая і прынесла Качароўскаму перамогу. Ну, а ўсім маладым удзельнікам свята ў Маладзечне Дзмітрый жадае добрага настрою, веры ў свае сілы, а галоўнае — творчых перамог.

**Марыя КАСЦЮКЕВІЧ**



НА ЗДЫМКУ: Д. КАЧАРОЎСКІ

# «РАДАВОД» — З ПЕСНЯЙ ДВАДЦАЦЬ ГОД!

Не так даўно наш штотыднёвік паведамляў пра тое, што на Мінскім заводзе халадзільнікаў ЗАТ "Атлант" ўбачыў свет зборнік твораў заводскіх паэтаў "Прыналежнасць", пра прэзентацыю гэтай кнігі на прадпрыемстве. І вось зноў прыемная падзея – выдадзены кампакт-дыск з запісамі фальклорнага ансамбля "Радавод", які ўжо дваццаць год працуе на "Атланце" і радуе прыхільнікаў народнай творчасці сваімі цудоўнымі апрацоўкамі беларускага фальклору.

Гэтая падзея стала магчымай дзякуючы адміністрацыі прадпрыемства, прафсаюзнаму камітэту МЗХ, якія шмат увагі аддаюць развіццю самадзейнай творчасці на прадпрыемстве, беларускай культуры ўвогуле. Што ж тычыцца фальклорнага ансамбля "Радавод", то яго творчы ўзлёт стаў магчымым пасля таго, як кіраўніком і салістам "Радавода" стаў знакаміты спявак, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Міхась Пацук, а акампаніятарам – дыпламант




міжнароднага конкурсу баяністаў Сяргей Баевіч.

Але асноўным творчым здабыткам фальклорнага ансамбля з'яўляюцца галасы самадзейных спявачак ансамбля "Радавод" – працаўніц Мінскага завода халадзільнікаў. Менавіта дзякуючы іх любові да беларускай народнай песні, фантастычнай працалюбівасці атлантаўскіх жанчын ансамбль набыў рысы і ўзровень прафесіянальнага фальклорнага ансамбля.

Слухачы па-сапраўднаму могуць ацаніць выканаўчы ўзровень ансамбля "Радавод", калі праслухаюць знакамітыя беларускія песні "Ой, аралі хлопцы ніву", "Як хацела ж мяне маці", "Ой, дзяўчына, куды ідзеш"...Але праграму ансамбля і новага фанаграфічнага дыска складаюць не толькі знакамітыя народныя "хіты", але і беларускія народныя песні, спецыяльна запісаныя і аранжыраваныя для "Радавода". Такім выдатным творам на дыску з'яўляецца меладычная песня "За сонцам не бачу", якая была запісана ўдзельніцай ансамбля А. Б. Букатай у роднай вёсцы, што знаходзіцца ў Лельчыцкім раёне. Цяпер дзякуючы таму, што твор трапіў на дыск, мелодыя песні стане больш вядомай шматлікім аматарам беларускай песні па ўсёй Беларусі.

Асобны падарунак аматарам беларускай песні – трэк з запісамі сучасных беларускіх прыпевак. Іх аўтар – удзельніца ансамбля "Радавод" Валянціна Кудзі. Менавіта дзякуючы яе цудоўнаму голасу, нявымыслівому і вясёламу характару беларуская прыпеўка стала жаданым госцем на дыску фальклорнага ансамбля. У іх ёсць усё, што трэба для таго, каб не замаўкалі слухацкія апладысменты, – дасціпнасць, народны гумар, цудоўная сакавітая мова, каранi якой у шырокай народнай душы...

Ну, а завяршае праграму дыска твор беларускага кампазітара І. Гвоздзіка на верш У. Карызны "І ў вас, і ў нас", які пастаянна выконваецца ансамблем "Радавод" падчас унутрызаводскіх мерапрыемстваў, на гарадскіх і рэспубліканскіх канцэртах і фестывалях. Гэты ўдалы і аптымістычны твор вельмі падабаецца атлантаўцам і служыць напамінам пра тое, што калі будзе добрая праца, то будуць і песні. Таму прыемна ўсведамляць, што на "Атланце" не толькі ствараюць якасныя, вядомыя ва ўсім свеце халадзільнікі ды маразільнікі, але і цудоўна спяваюць. А гэта пад сілу толькі таленавітым людзям. І імі багатая Беларусь!

**Вікторыя БАРТКЕВІЧ**



# НАШЫ СУСВЕТНЫЯ СКАРБЫ

***Нашыя чытачы добра памятаюць пачатак дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, калі выдавецтва "Мастацкая літаратура" распачало выпуск фундаментальнай серыі "Скарбы сусветнай літаратуры" па-беларуску. Цяпер выданне перакладных раманаў становіцца справай непрыбытковай. Але, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, мы можам паставіць на свае кніжныя паліцы і "Біблію" ў перакладзе В. Сёмухі, творы Дж. Р.-Р. Толкіена, Ф. Дастаеўскага... Адным з такіх падарункаў беларускім чытачам стала нядаўнае выданне знакамітага рамана Генрыка Сянкевіча "Quo Vadis", які быў перакладзены ў Рыме ксяндзом Пятром Татарыновічам і выдадзены ім у 1956 годзе. Пра тое, як гэты пераклад дайшоў да беларускіх чытачоў, чым ён розніцца ад ужо існуючых, мы просім распавесці ініцыятара выдання ў Беларусі, аўтара прадмовы і каментарыяў да рамана, журналіста Вітаўта Мартыненку.***

Калі я быў у свой час у Канадзе, пісьменнік Кастусь Акула прэзентаваў мне проста унікальны экземпляр гэтага твора пабеларуску ў перакладзе ксяндза Татарыновіча. Гэтая кніга была выдадзена ў Рыме ў 1956 годзе лацінкай. Экземпляр кнігі стаў унікальным кніжным рарытэтам, бо трапіў да мяне з аўтографам перакладчыка. Ксёндз Татарыновіч вядомы тым, што ў Рыме на "Радыё-Ватыкан" стварыў беларускую службу, працаваў там дыктарам, быў аўтарам перадач... Скажу шчыра, нават мне, які добра валодае лацінскай транскрыпцыяй, напачатку было даволі цяжкавата і нязвыкла чытаць гэты раман.

Напрыклад, у маёй дачкі Альдоны ёсць кніжка, якая называецца "Мядуза і чарапаха". У назве ейнай выкарыстана яўная калька, нават без нейкіх адаптацый. У Татарыновіча ж ёсць цікавае слова "лямпрыска". Гэта акурат і ёсць беларусізаваны пераклад слова "мядуза". Не ўсім пакуль падабаецца гэта слова з-за яго нязвыкласці, але пасля выхаду ў свет рамана яно побач з іншымі моўнымі дыяментамі вяртаецца з небыцця. А знаёмаму пісьменніку Алесю Наварычу, напрыклад, падабаўся свеэй вобразнасцю іншы выраз з Татарыновічавага перакладу: "Дзяўчына стаяла ў касулях сонца". "Касулі сонца" — гэтым сказана ўсё, цэлая карцінка намалявана! Такімі вось моўнымі шэдэўрамі поўніцца ўвесь раман.

Але я не хачу сцвярджаць, што перад намі ідэальны тэкст. Ёсць у перакладзе Татарыновіча русізмы, паланізмы. Мне ўжо выказваліся наконт гэтага пэўныя рэлігійныя функцыянеры, маўляў: "Як можа падабацца пераклад, калі там царква ці касцёл называецца субожняй"? Я ж, пачуўшы слова "субожня", акурат захацеў пачытаць біблейскія пераклады, якія рабіў у свой час Татарыновіч, бо чалавек стварыў новае слова, якое аб'ядноўвае сэсе азначэнні культавых паняццяў розных канфесій!

І гэта нягледзячы на пэўныя недахопы ў перакладзе, дзе побач са словам "кашуля" можна прачытаць і "рубашка". Але ў перакладзе рамана "Quo Vadis", які зрабіў для нас ксёндз Татарыновіч, пануе натуральная беларуская мова. А тое, што ў ім "выплылі" паланізмы і русізмы, — гэта адзнакі той мовы, на якой размаўлялі ў яго на радзіме, усюды, дзе ён бываў і чуў жывое беларускае слова.

***— Як табе працавалася над пераўвасабленнем рамана, які быў перакладзены пабеларуску Татарыновічам? І ўвогуле, як цяпер можна назваць — транслітаратарам ці рэдактарам тэксту рамана?***

— Сапраўды, я выконваў такую унікальную функцыю, як транслітарацыя з беларускай лацінкі на кірыліцу. Але я напісаў прадмову, каментарый да тэксту, а таксама рэдагаваў гэты пераклад. Такіх выпадкаў транслітарацыі, відаць, было няшмат. Але перада мной ляжаў глабальны тэкст, у якім пераплялiся розныя граматычныя нормы, якія ўжываліся Татарыновічам.

У выдавецтвах мяне ж прымушалі ўсе імёны падаваць паводле энцыклапедыі ды захаваць усе памылкі ў тэксце перакладу Татарыновіча.

***— Вітаўт, як нарадзілася гэтая ідэя — перавыдання сусветна вядомага рамана Генрыка Сянкевіча па-беларуску, што стала штуршком да ажыццяўлення гэтага унікальнага для беларускай культуры праекта?***

— Дзіўная рэч, але ініцыятарам выдання рамана Г.Сянкевіча "Quo Vadis" сталі літаратары, а выдаўцамі — музычныя прадзюсеры. Памятаю, першы такі покліч да выдання гэтага рамана па-беларуску кінуў вядомы перакладчык Васіль Сёмуха. Аднойчы ён сказаў мне: "Адзін пісьменнік узяўся перакладаць раман Г. Сянкевіча "Quo Vadis", і ўсе тэрміны прад'яўлення гэтага перакладу прайшлі" .

Я пачаў даводзіць спадару Сёмуху, што ў прыродзе ўжо існуе пераклад рамана, які належыць ксяндзу Татарыновічу. На што Васіль Сёмуха дастаў з шуфляды такі ж томік і сказаў: "Дык ён жа лацінкай выдадзены!" Потым наша дыскусія завяршылася прапановай спадара Сёмухі ўзяцца за транслітарацыю тэксту гэтага рамана. Я спачатку адмовіўся, але потым падумаў, што ніхто больш за гэтую справу не возьмецца, і згадзіўся. Тэрміны падціскалі, і над першым варыянтам транслітарацыі я папрацаваў каля трох месяцаў: сеў за друкарку і 600 старонак "адбухаў", як кажуць, адну ў адну. Сёмуха пачытаў і кажа: "О, нармальны пераклад! А што ж вы не зрабілі каментарый?"

Каментарыі? Я ж не навуковец... Але Васіль Сёмуха падштурхнуў мяне на гэты шлях, і Бог, відаць, вырашыў так: на гэты момант знаёмыя журналісты, дзеячы беларускай эміграцыі ў Канадзе, ЗША прадставілі такія першакрыніцы, якія вельмі дапамаглі мне ў працы, усялілі ў мяне ўпэўненасць, што яе я выканаю на дастатковым навуковым узроўні.




Я карыстаўся натуральнымі першакрыніцамі: я не магу прыдумваць дату нараджэння Нерона, але я арыентаваўся на польскамоўны тэкст, рускі і ўкраінскі пераклады, дадаючы тыя нюансы, што былі заўважаны Татарыновічам.

Васіль Сёмуха сваёй аўтарытэтнай думкай падштурхнуў мяне таксама і да напісання прадмовы.

Калі я працаваў над гэтай кнігай, то прыйшоў да высновы, што, нягледзячы на пэўныя хібы, мы маем плён геніяльнай перакладчыцкай працы ксяндза Татарыновіча. Беларускі пераклад рамана Г.Сянкевіча "Qvo Vadis" — самы поўны, выверваны хрысціянскім святаром, тэкст пра першыя гады хрысціянства. Калі я адчуў магію тэксту, то і ўбачыў беларускі кантэкст рамана Сянкевіча. Мяне, напрыклад, уразіла тое, што адну з дзеючых асоб рамана звалі Калінай. А гэта ўжо на сто адсоткаў — імя гераіні беларускага фальклору. Тым больш, што радзіма Каліны была там, дзе шумелі дрымучыя пушчы і вадзіліся магутныя зубры. Гэты нюанс тэксту не пакідае сумневу — гераіня рамана Г. Сянкевіча родам з зямляў Беларусі. Мы павінны пра гэта ведаць, аналізаваць, спрачацца, нават з польскімі літаратуразнаўцамі ды даследчыкамі...

Калі ж пасля дзесяці гадоў бадзяння па рэдакцыях я запатрабаваў вярнуць маю працу, мне ветліва адказалі: "Прабачце, але вашага тэксту ў нас няма!" І вось настаў такі час, што здавалася, ідэя перавыдання рамана Сянкевіча па-беларуску была пахаваная... Але музычныя выдаўцы ВМАгруп Віталь Супрановіч, Сяржук Сахараў, кіраўнік ГА "Дыярыуш" Ларыса Андросік, вядомы прадзюсер нацыянальнага бардаўскага руху Кастусь Елісееў звярнулі ўвагу на існаванне гэтага перакладу. Калі яны пазнаёміліся з ім больш дасканала, то былі ў захапленні, узялі гэты тэкст і пачалі шукаць зацікаўленых у выданні рамана па-беларуску. Лёс склаўся так, што мы пазнаёміліся з прадстаўнікамі уніяцкай царквы. З іх дапамогай мы выйшлі на вернікаў і святароў парафіі святых Рымскіх Першапакутнікаў у Рыме, якія былі радыя прыняць удзел, дапамагчы таму, каб беларусы атрымалі пераклад гэтага рамана на іх роднай мове — паспрыялі выданню фінансава. Таму хачу праз газету выказаць удзячнасць усім ахвярадаўцам і, у прыватнасці, архімандрыту С. Гаеку за дзейную дапамогу ў гэтай справе.

***— Дык якую вартасць мае гэтае выданне для беларускага літаратурнага і мастацкага кантэксту, чым яно розніцца ад штампаваных перакладаў мінулых гадоў?***

— Беларусы, на жаль, яшчэ не ўсвядомілі пакуль значнасці падзеі, бо часта паўтараюць: "Я чытаў раман па-польску, я чытаў парускy і мне, маўляў, хопіць і гэтага". Яны ніколі не адчуюць таго, што можна адчуць, калі чытаеш раман на роднай мове. Гэтага няма ў чужамоўных каментарыях і прадмовах. У расійскіх выданнях усе спасылкі робяцца на расійскія крыніцы і пераклады. У беларускім жа выданні каментары паводле Сакрата ўзяты з тэкстаў Яна Пятроўскага — беларускага перакладчыка-эпіліста, які жыў у ЗША і перакладаў з арыгінала творы Марка Аўрэлія, Платона, зрабіў шмат цікавых даследаванняў старажытнагрэчаскай літаратуры.

А ў прадмове я звярнуў увагу чытачоў на беларускі кантэкст падзей рамана і пахаджання ягоных герояў. Я ўжо ўспамінаў пра Каліну і яе служку, волата Урсуса (відавочна, продка палякаў — памятаеце трактары "Урсус"?). Але ж нацыянальнасць Каліны — лігія. Хто такія лігі? У сваіх каментарыях я патлумачыў, хто такія лігі, хто такія свевы, прасачыў прысутнасць гэтых народаў у этнагенезе сучасных еўрапейцаў, у тым ліку і беларусаў. Акурат, свевы — анямечанае племя, якое трапіла ў этнагенез прусаў. І такіх каментарыяў не было ні ў адным з выданняў рамана Г. Сянкевіча "Quo Vadis". Няхай навукоўцы спрачаюцца, магчыма, я недзе памыляўся! Але ў мяне былі першакрыніцы, на якія я мог абапірацца, робячы такія высновы. Сянкевіч, дарэчы, нарадзіўся на беларуска-польскім памежжы, і гэтыя фальклорныя ўплывы таксама не маглі не быць заўважанымі, і пісьменнік скарыстаўся гэтым, блізкім яму вобразам. Таму і сімвалічны вобраз каліны супадае з кантэкстам рамана. Беларуская прысутнасць у творы Г. Сянкевіча не аналізавалася ні ў расійскіх, ні ў польскіх выданнях.

У перакладзе Татарыновіча няма эратычных эпізодаў, якія ў свой час не віталіся Ватыканам, у тым ліку і ў рамане Сянкевіча. Цяпер Папа Ян Павел II больш лаяльна ставіцца да такіх момантаў, бо Ісус Хрыстос казаў: "Пладзіцеся і памнажайцеся". І ў гэтым няма нічога агіднага, калі юнак закаханы ў дзяўчыну і глядзіць на яе як на дзяўчыну. І гэтыя пачуцці апісаны ў рамане. Таму я аднавіў іх паводле лексікі і стылістыкі Татарыновіча. Пра гэты мой крок архімандрыт Гаек сказаў: "Вы мелі на гэта права, і добра, што вы аднавілі адсутныя старонкі рамана". І цяпер я магу з поўнай упэўненасцю заявіць, што беларускі пераклад рамана Г. Сянкевіча, які ажыццявіў ксёндз Татарыновіч, — найбольш поўны, адпаведны арыгіналу з усіх, што рабіліся ў іншых мовах. Цяпер слова за чытачамі!

**P.S. Не так даўно выдаўцы рамана атрымалі асабістае пасланне з Ватыкана наступнага зместу: "Ад імя яго Свяцейшасці Яна Паўла II дзякую за новае беларускае выданне кнігі "Quo Vadis" Г. Сянкевіча. Святы Ойча дзякуе ўсім, хто спрычыніўся да выдання ўзгаданага рамана "Quo Vadis". Яго Свяцейшасць просіць Божай узнагароды за гэтую працу і ад уласнага сэрца дае гэтай працы Апостальскае багаслаўленне.**

**Асэсар канцылярыі Папы Рымскага Падра Лопэс Квінтана,**

**Ватыкан, 29.11.2002 года".**

**Гутарыў Анатоль МЯЛЬГУЙ**



*На фота: Вітаўт Мартыненка (справа), Анатоль МЯЛЬГУЙ і брытанскі беларусіст Гай дэ Пікарда (злева) падчас правядзення І З'езда беларусаў свету.*

**ФОТА У. ПАНАДЫ**

***Нараканняў на беларускія падручнікі апошнімі гадамі выказвалася шмат: і бацькамі, і навукоўцамі. Крытыкаваліся тэксты, выдавецкія і паліграфічныя хібы. Шмат якія праблемы вырашаюцца, але, на жаль, з'яўляюцца і новыя, пра што сведчыць гутарка з дырэктарам выдавецтва "Народная асвета" Ігарам ЛАПЦЁНКАМ.***

*— Ігар Мікалаевіч, бясспрэчна, выдавецтва "Народная асвета" — прадпрыемства са сталымі традыцыямі, з калектывам высокіх прафесіяналаў, работа якіх заслугоўвае самых добрых слоў. Але прэтэнзіі да беларускіх падручнікаў чуюцца пастаянна. У гэтым годзе, напрыклад, кніга "Чалавек. Грамадства. Дзяржава" для 11 класа пад*

школьнікам патрэбна было з чаго вучыцца. Дарэчы, аўтары згаданай вамі кнігі не паспелі тады ў тэрмін. Недзе ў ліпені прынеслі ў выдавецтва толькі накіды, задумы падручніка для 8 класа, адсутнічалі ілюстрацыі. Рэдактарам выдавецтва не было там над чым працаваць. Пакуль рукапісы давялі больш-меньш да ладу, пакуль знайшлі ілюстрацыі і выканалі рэдактарскую працу, прайшоў час. Да таго ж, для выпуску такіх выданняў і патрабуецца зацвярджэнне камісіі грамадскіх навук, што таксама займае ні адзін дзень. Адным словам, выдалі кнігу толькі ў снежні. А навучальны год ужо пачаўся. Таму ў "Настаўніцкай газеце" друкавалі яе часткамі. Гісторыя паўтарылася і на наступны год, і летась рукапіс здалі толькі ў ліпені. Праўда, мы чакалі такога і выпусцілі падручнік змаглі на месяц раней — у лістападзе. Ды й тут чакала бяда: Міністэрства адукацыі не разлічылася за работу. Таму мы не мелі з чаго заплаціць паліграфістам за паслугі. Сабраўшы неабходныя сродкі, выдалі падручнікі пазней, чым маглі б, — пры выкананні нашымі партнёрамі сваіх дамоў. Гэткі стан спраў і сёлета.

— Тое, што ад нас залежыць, мы выконваем. Існуе афіцыйная дамова, паводле якой выдавецтва павінна атрымаць усе рукапісы да 1 кастрычніка папярэдняга года. Але на сёння мы не атрымалі яшчэ ажно сарака назваў падручнікаў. Я нават не бачыў у вочы рукапісаў, а 1 жніўня трэба выдаць кнігі! На жаль, даводзіцца сутыкацца з такімі адказнымі за гэту справу работнікамі, якія абсалютна не абазнаныя ў выдавецка-паліграфічнай працы. Яны не разумеюць, што напісаць тэкст мала, шмат часу займае рэдактарская работа, часта даводзіцца рукапісы проста перапісваць. Навучаныя горкім папярэднім вопытам, мы нейкія захады для страхоўкі робім. Але, выбачайце, з паліграфістамі выпуск кніг распісаны на кожны месяц. Нават калі ўсё будзе добра, на паліграфпрадпрыемства ў жніўні паступіць 97 падручнікаў. Выпусціць іх чыста тэхналагічна ў час немагчыма. І я пра гэта папярэджваў кіраўніцтва Міністэрства адукацыі. На чалавека можна паўплываць, каб ён працаваў і пасля рабочага дня, а машыну не прымусіш...

***— Сапраўды, Ігар Мікалаевіч, з такімі варункамі апошнімі гадамі часта даводзіцца сутыкацца. Таму ў нас з***

*Ігар ЛАПЦЁНАК:*

# «СЁЛЕТА, ЯК НІКОЛІ РАНЕЙ, МЯНЕ НЕПАКОІЦЬ, ШТО ДА ПАЧАТКУ НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА ШКОЛЫ МОГУЦЬ АТРЫМАЦЬ НЕ ЎСЕ ПАДРУЧНІКІ»



***рэдакцыяй Ю. Харына ў школы трапіла толькі зімою, а настаўнікі вымушаны былі нават наведваць адмысловыя курсы, каб пасля, паводле праграмы, выкладаць урок дзецям. Няўжо нельга абысціся без такіх накладак? Я разумею, што гэтыя прэтэнзіі датычаць вас можа ў апошнюю чаргу, але растлумачце як прафесіянал, чаму так адбываецца штогод.***

— Гэта праблема мае сваю гісторыю. Калі Беларусь атрымала суверэнітэт, паўстала пытанне па стварэнні нацыянальных падручнікаў. І высветлілася, што хоць ёсць добрыя навукоўцы і настаўнікі, адмысловых спецыялістаў для такой работы няма. Пры Савецкім Саюзе лепшыя кадры збіраліся ў Маскве. Акадэмія навук СССР ствярала тыповы школьны падручнік, які ў рэспубліках перакладаўся на нацыянальную мову. (Зразумела, гутарка не ідзе пра беларускую мову і літаратуру, дзе змены рабіліся нязначныя). У школе выкарыстоўваецца прыкладна 1300 назваў, таму задача стала вельмі няпростая. З сусветнай практыкі мы ведалі, што лепшы варыянт, калі творчы калектыў складаецца з трох састаўных частак: навуковец, метадыст і практык. Але бракавала часу і напрацовак. Усе гэтыя праблемы напачатку і зваліліся на наша выдавецтва. Аўтарскіх калектываў было мала, а падручнікаў патрабавалася шмат. Працавалі ў вельмі сціслыя тэрміны. Першым часам аўтарам давалі 3-4 месяцы для напісання, столькі ж нам для падрыхтоўкі, а паліграфістам для друку. Міністэрства адукацыі ставіла задачу выпусціць кніг як мага болей, пры гэтым афармленне адыходзіла на другі план. І такая пазіцыя была зразумелая:

Штогод дзяржава з бюджэту выдзяляе сродкі на выпуск падручнікаў. У 1980-х гадах дзеля эканоміі вырашылі выдаваць камплекты на чатыры гады. Першы год – 110%, праз два – 50%. Ведаеце, напэўна, — друкавалася картка, дзе ўладальнікі запісваюць прозвішча, а кніга перавыдаецца з году ў год. Бацькі плацяць арэндную плату – палову кошту...

***— Прабачце, што перапыняю. Мо вы растлумачыце мне, калі зайшла такая гутарка, адну незразумелую рэч. Кажуць, што адукацыя ў нас бясплатная, але ці так яно? За падручнікі я плачу палову кошту. Маё дзіця вучыцца толькі год, а за карыстанне плацяць ажно 4 чалавекі. Значыць, дзяржава вяртае сабе грошы ў двайным памеры.***

— Гэтыя пытанні ў кампетэнцыі Міністэрства адукацыі, таму не хацеў бы даваць нейкія каментары. Магчыма, тут улічваецца інфляцыя і іншыя фінансавыя шчыгулы... Міністэрства адукацыі складае спіс падручнікаў і праграму, а пасля абмеркавання з Міністэрствам інфармацыі робіцца дзяржзаказ. Напрыклад, ёсць 150 адзінак, якія пачынаюць дзяліць паміж выдаўцамі. У нас сёлета 45 % кніг для агульнаадукацыйнай школы і 100% — для дзяцей з нейкімі парушэннямі. (На жаль, кожны трынаццаты вучань мае нейкія паталогіі. Такія падручнікі вельмі працаёмкія, але з малымі накладамі, таму дарагія). Але вернемся да затрымкі з аплатай за нашу працу. Мы нияк за шмат гадоў прызвычаіліся да такога стану, але ж выдавецтва застаецца вінаватым пастаўшчыкам паперы і паліграфістам. Бо яны просяць хаця б палову ў якасці перадаплаты. З намі не могуць своечасова разлічыцца, а падаткі ж мы вымушаны плаціць у любым разе. І выходзіць, што выдавецтва, адпрацаваўшы на высокім узроўні, выканаўшы ўсе абавязкі, не мае сродкаў для наступнай работы. Летась з'явілася яшчэ праблема. Штогод выпуск падручнікаў падзелены на прыярытэты: да першага належаць тыя, без якіх нельга пачынаць вучэбны працэс і на якія ёсць сродкі, да другога і трэцяга — так бы мовіць, патрэбныя, але неабавязковыя кнігі. Міністэрства адукацыі прапанавала: ёсць грошы, давайце выпусцім кнігі другога прыярытэту. Мы своечасова выканалі работу за свае сродкі, якія, я думаю, вы ўжо здагадаліся, нам не вярнулі. На 1 студзеня 2003 г. Міністэрства адукацыі было вінавата выдавецтву мільярд рублёў. Пацыху цяпер вяртаюць, але ж мы жывём у дзяржаве з планавай эканомікай. Разлічваем тэрміны і суаднносім рэальныя планы з паліграфістамі.

***— Ігар Мікалаевіч, выданне падручнікаў — дзяржаўная справа. Няўжо нельга наладзіць сістэму больш разумна? Бо тыя, хто пастаянна сутыкаецца з арфаграфічнымі памылкамі выходзяць газеты і кнігі, не кажучы ўжо пра стыль...***

— Гэта жахлівае становішча. Новыя выдавецтвы думаюць больш пра барышы, эканомяць на штатных супрацоўніках, таму й выпускаюць брак. У нашым выдавецтве працуе каля 20 высокапрафесійных рэдактараў, якіх зараз чакае аўральны рытм. А ўявіце, каб іх было меней? Звалілі б работу...

***— Вы сказалі пра такую колькасць рэдактараў... Наколькі ведаю, выпускам падручнікаў цяпер займаецца некалькі іншых выдавецтваў. Прызнаюся, я быў здзіўлены, калі некалькі месяцаў назад даведаўся, што ў адным з іх працуюць тры рэдактары, хаця прэтэндуюць яны на выпуск амаль 50% падручнікаў.***

— Адсутнасць прафесіяналізму мяне вельмі непакоіць. У Пушкіна і Талстога былі рэдактары, у Салжаніцына — гэту работу выконвае жонка. Што ўжо казаць пра іншых. Я здагадваюся, пра якое прадпрыемства вы гаворыце...

***— Тайны няма — пра выдавецкі цэнтр пры БДУ. Можа, праўда, сітуацыя там цяпер змянілася.***

— Я – за здаровую канкурэнцыю, таму з майго боку будзе нетактоўна крытыкаваць іх. Адно магу сказаць: пасля размеркавання выпуску падручнікаў, убачыўшы іх планы, кіраўніцтва нашага міністэрства дало гэтаму прадпрыемству адказ, сэнс якога зводзіўся да таго, што ім трэба сыходзіць са сваіх магчымасцяў. Нашаму выдавецтву – 50 гадоў. Мы перажылі складаны час па стварэнні нацыянальных падручнікаў, калі ставілася задача ў першую чаргу забяспечыць імі школы. Цяпер мы працуем над удасканальваннем. Мы ведаем цяжкасці, імкнёмся іх вырашаць. Канечне, можна зрабіць некалькі кніг высокай якасці. А астатнія? Ідэй і жаданняў мала. Неабходны рэальны пагляд на рэчаіснасць. Я – дзяржаўны чалавек, таму сітуацыя, якая склалася, не можа не турбаваць. Пасля скажуць: ты ж – прафесіянал, чаму не папярэджваў? Папярэджваў, ды й цяпер гэта раблю. Мяне вельмі непакоіць, што сёлета на пачатак навучальнага года школы могуць не атрымаць усе патрэбныя падручнікі. Непакоіць, як ніколі раней. Да таго ж, упэўнены, шмат хто будзе абвінавачваць і наша выдавецтва, не ведаючы, што мы заложнікі заганнай практыкі.

***— Ігар Мікалаевіч, дзякуй за гутарку. Будзем спадзявацца на лепшае. І, вядома, на рэакцыю адказных за гэту важную справу асоб.***

Гутарыў Міхал ТАЛОЧКА

ЗАХАРАВА, 19








8 мая адбылася чарговая сустрэча сяброў суполкі "Літаратурны квартал". Кварталаўцы чыталі свае новыя творы, выказвалі меркаванне пра пачутае. У гэтым працэсе бралі ўдзел Ягор Конеў, Аксана Спрынчан, Таццяна Будовіч, Таццяна Барысюк, Віка Трэнас, Эдуард Дубянецкі, Мікола Кандратаў, Мікола Касцюкевіч, Мар'я Усава, Аксана Бязлепкіна, Рагнед Малахоўскі, Віктар Іваноў, Сяргей Патаранскі, Наталля Дзянісава, Святлана Кананові́ч, Алена Багамолава, Усевалад Гарачка, Наталля Кучмель і Кацярына N, і, зразумела, кіраўнік суполкі Людміла Рублеўская і галоўны рэдактар "ЛіМа" Віктар Шніп. Гучалі не толькі вершы — Ягор Конеў прачытаў сваю новую п'есу. Напрыканцы адбылося традыцыйнае складанне рэйтынгу пачутых твораў. Лідэрамі сталіся вершы Міколы Кандратава, Аксаны Спрынчан, Усевалада Гарачкі, Вікі Трэнас, Рагнеда Малахоўскага, Таццяны Будовіч, называліся і іншыя імёны.

Наступнае пасяджэнне 15 траўня, мусіць быць прысвечана абмеркаванню прозы Аксаны Бязлепкінай. Нагадваем, што "Літаратурны квартал" збіраецца штосчацвер а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі. Праўда, сустрэча, з чацвярга 22 мая, магчыма, будзе перанесена на сераду 21. Удакладніць можна па тэл. 284-66-73 і 284-79-65.

# ЖЫВЕ ПАЭЗІЯ Ў НАРОДЗЕ

**Зборнік вершаў брэсцкай паэтэсы Надзеі Парчук "Жыццёвыя плыні" — яшчэ адна нагода звярнуць увагу на таленавітасць нашага люду. Простыя чалавек, лічы, без адукацыі — а якія творы! Ёсць, ёсць тут што пачытаць. Нарадзілася аўтарка кнігі на Піншчыне, скончыла сярэднюю школу, уліkова-крэдытны тэхнікум, працавала звычайным бухгалтарам, потым загадчыцай ашчаднай касы ў сябе на радзіме — у вёсцы Ладараж. Банкаўскай справе аддала 25 гадоў. Але ж усё гэта — на інваліднай калясцы... Так што, можа, не заўсёды было весела, ды прымушала сябе паэтэса і весяліцца, і смяяцца, і запісваць думкі, якія прыходзілі ў галаву. Думак у вершаваным выглядзе назбіралася на цэлую кніжку. Пра што піша Надзея Парчук? Сваё немудрагелістае жыццё, аднавяскоўцаў, прыроду сельскага наваколля. Паводле прыроды свайго таленту яна хутчэй рэаліст. Трывала стаіць на паэтычнай глебе. І добра ўдаюцца ёй г.зв. "прынагодныя" вершы. Шмат з іх прысвечана сяброўцы па няшчасці і паэзіі, Тамары Лазнюка.**

**Увайшлі ў зборнік гумарыстычныя вершы. Яны высмейваюць разнастайныя заганы нашага жыцця. Асабліва смешна чытаць пра тое, як устае з вогнішча і ўцякае яшчэ жывы вяпрук падчас свайго смалення. Традыцыі народнага гумару**

Надзея Парчук

ЖЫЦЦЁВЫЯ ПЛЫНІ

Зборнік паэзіі

ААТ «Брэсцкая друкарня» 2003

**выказваюць сябе пры гэтым ва ўсёй сваёй паўнаце:**

***Гарыць салома у нас, палае,***
***І іскры сыплюцца з яе,***
***А мы ўсё новай падкідаем,***
***Бачым... япрук наш устае.***

**Многа любоўнай лірыкі, часта ўспамінае паэтэса пра маладыя гады. Хапае патрыятычных вершаў, твораў пра сваіх знаёмых і аднавяскоўцаў. А наогул зборнік чамусьці змушае падумаць пра тое, што ад свайго лёсу не ўцячэш, колькі ні імкніся. І хаця будзе знямоглым цела, душа, змешчаная ў ім, застанецца той жа, сябе пакажа, выявіць. Шкада толькі, што разам з "якаснымі" творамі ў зборніку хапае і дужа слабых. Тым не менш, уражваюць колькасць вершаў, таўшчыня кнігі і, як сказала б, "бяскрыўднасць" натуры паэтэсы. А колькі энергіі спатрэбілася Надзеі для таго, каб напісаць, скласці і выдаць уласную кніжку!**

**І ў здольнасці ёй таксама не адмовіш. Бо асобныя вершы даволі-такі ўдалыя. Ды і назву свайму зборніку паэтэса знайшла адпаведную, гарманічную ў дачыненні да зместу. Самыя лепшыя вершы — на рэлігійную тэматыку. У іх адлюстраваны філасофія быцця паэтэсы, яе стаўленне да такіх паняццяў, як любоў і святасць. А як не павучыцца ў Н. Парчук уменню бачыць за ўсіх з'яваў святло, а не цемру?**

***На добрых мне людзей шанцуе***
***Заўжды, куды б я ні пайшла,***
***Іх, як гасцінцы, лёс даруе,***
***Бо імі поўніцца зямля.***
**("Шанцуе мне")**

**Хочацца дадаць: і гэта правільна! Інача — як жа?**

**С. Я.**

# У ПАЛОНЕ ВЫСОКАГА ДУХУ

Валянціна Коўтун — пісьменніца адметная. І не таму, што творыць у жанры дакументальна-мастацкай прозы, піша пра далёкую і блізкую гісторыю (пра гэта ў нас цяпер многія пішуць), а найперш таму, што адметна спасцігае філасофію гэтай гісторыі — *праз выяўленне індывідуальнага* высокага духу, які з'яўляецца адбіткам уласна нацыянальных жыццесцвярджальных ідэалаў. Як адну з галоўных у працэсе гісторыка-культурнага фармавання гуманістычных прыярытэтаў аўтарка вылучае ідэю хрысціянскай этычнай духоўнасці. Да гэтай ідэі яна наблізілася яшчэ ў рамане "Крыж міласэрнасці". Але — толькі наблізілася. Бо галоўным для яе тады было адмаўленне класічнай гуманістычнай свядомасці. Пісьменніца заставалася ў палоне гэтага адмаўлення. Ідэя хрысціянскай самасвядомасці як асновы духоўнага абнаўлення зямлі беларускай загучала дамінантна ў рамане "Пакліканыя" (першая кніжка рамана ўбачыла свет у мінулым годзе). В. Коўтун звяртаецца да эпохі станаўлення на Полацкай зямлі хрысціянскай культуры.

Хрысціянства несла славянскаму свету *выпрацоўку новага стылю паводзін*, трансфармацыю ранейшых этычных арыенціраў.

Полацкая зямля знаходзілася на старажытным шляху з варагаў у грэкі. Гэта садзейнічала хуткаму распаўсюджанню ў ёй хрысціянскай веры і развіццю духоўнай культуры. *Візантыя везла чарнігаўскім*, полацкім і пскоўскім князям, як сведчыць В. Коўтун, "вялікую хрысціянскую сяўбу", яна несла народам "збавенне ад сляпога невуцтва". У XI-XII стст. Полацк становіцца цэнтрам кніжнасці: тут перапісваюцца кніжкі, вядзецца летапісанне. Гэта быў перыяд росквіту культурнага жыцця на Полацкай зямлі.

Разам з тым, працэс хрысціянізацыі славянскіх народаў быў досыць складаным. Паганская вера моцна трымала ў сваім палоне свядомасць чалавека. В. Коўтун, застаючыся вернай у адлюстраванні рэальнай гісторыі, не абыходзіць моманты такога процістаяння.

Чым болей мацнела хрысціянская вера, тым больш пралівалася людской крыві, барацьба паміж Полацкам, Ноўгарадам і Кіевам за вярхоўную княжацкую ўладу рабілася ўсё больш жорсткай і бязлітаснай. *Дванаццатае стагоддзе пачыналася* "трывожна і неміласэрна".

Гісторыя Полачыны пададзена рэтраспектыўна, праз успаміны галоўнай гераіні твора Еўфрасінні Полацкай. Яна, ігуменя, напрыканцы свайго доўгага манаскага жыцця апынуўшыся на святой зямлі Галілеі, просіць у таго, каму амаль усё жыццё аддана служыла, дазволу "пусціць кола памяці праз жыццёвы круг". Ёй гэта было край неабходна для нейкага свайго ўнутранага падсумавання: ці так пражыла? Ці ўсё зрабіла як трэба? І не толькі для гэтага — ёй хацелася, перш чым навечна растварыцца ў вялікім духоўным космасе, яшчэ раз дакрануцца да таго зямнога, "чалавечага", людскога, што моцна трымала яшчэ душу і сэрца гераіні. І яна азіралася... Усё глыбей і глыбей — у тыя далёкія часіны, калі яна, князёўна са слаўнага роду Ізяслававічаў, лёгка хадзіла па яркай раскошы *травы, слухала раку, спевы птушак*. Яе, манахіню, нібыта нехта гукаў, клікаў у далёкую маладосць, калі яе, юначку, збіраліся выдаць замуж за смаляніна Яраполка, то вяртаў у вузенькія сцены сафійскай галубіцы, дзе яна прызвычайвалася да свайго цяжкога манаскага жыцця.

Мастацкая плынь зменлівая, яна — у руху: то спакойная і павольная, то вогненна-выбуховая. Апавядальная плынь віруе, уцягваючы ў сябе ўсё новыя часавыя і прасторавыя сферы, мяжуючы жыццё рэальнае, рацыянальнае і ірацыянальнае, трызненні, відзежы. Апошнія бесперапынна ўліваюцца ў свядомае жыццё гераіні. Але дынаміка апавядання не перашкаджае выразна перадаваць атмасферу і філасофскую глыбіню гістарычнага часу і, нароўні з гэтым, акрэсліваць аблічча чалавека, яго унікальнасць. Такім чынам, форма цэлага ў В. Коўтун узнікае не столькі на ўзроўні *мастацкага вобраза*, колькі на ўзроўні твора. У рамане "Пакліканыя", як было раней у "Крыжы міласэрнасці", пісьменніца паядноўвае ў адным эпічным малюнку рух народа, дзеі вялікіх мас людзей з рухам індывідуальнага лёсу і далей — з тым, што адбываецца ў духоўным развіцці асобнага чалавека і народа ўвогуле. Кожны з гэтых элементаў неабходны, каб склалася эпічнае цэлае. У мастацкай прозе В. Коўтун трагічны пачатак сінтэзуецца з пачатк*ам эпічным. Ствараецца панарамная* карціна нацыянальнага быцця ў кантэксце Сусвету.

Непаўторна-настраёвае, глыбінна-пачуццёвае адлюстраванне зыходзіць ад гераіні. Але тут побач прысутнічаюць і элементы аўтарскага гістарычнага даследавання, аб'ектыўная ацэнка падзей. Гераіня свой час адчувае душою і сэрцам. Яна глядзіць на падзеі нібыта знутры, як іх сведка і ўдзельніца. Аўтарка адлюстроўвае гісторыю аб'ектывавана, больш стрымана і ўжо з пазіцыі дня сённяшняга.

Над Полацкай зямлёй навісла рэальная пагроза страты сваёй самастойнасці. Незалежнасць Полачыны не ўсіх задавальняла. Полацк стаў "парушынаю ў воку" кіеўскіх князёў, асабліва магутнага Мсціслава. Ішлі таемныя перамовы Кіева з князямі дрыгавічанскімі і палянскімі. З *другога боку крывічоў падціскалі ноўга*радцы. З захаду каралеўскія дарадцы ціснулі на напалову паганскую суседнюю дзяржаву. А яшчэ быў хан Ваняк, нахабныя атрады якога набліжаліся да межаў Полацкага княства. Не лепшай была сітуацыя і ўнутры Полацка: памацнела варажнеча паміж полацкімі князямі Давы*дам і Барысам. Такім чынам, Полацк* спешна рыхтаваўся да абароны.

Атмасфера напружання змяняецца выразнымі малюнкамі трагічных падзей вайны, калі, кажучы словамі аднаго з персанажаў, "сам іспра з пекла вылез і ўсё перавярнуў на свеце". Крывіцкая зямля ўсеяна акрываўленымі трупамі ратнікаў Рагвалода і Давыда. Здаецца, па ўсёй зямлі распаўзлося адно зло, і гэта было страшней за чуму, хваробу цялесную, якая таксама забірала ў той год тысячы чалавечых жыццяў.

Барацьба дабра і зла, па В. Коўтун, закладзена ў прыродзе, створанай Самім Творцам: "Калі семя Божае прымаецца, нараджаецца прага знішчыць яго...". Дабро і зло — пачаткі субстанцыяльныя, узаемазалежныя. На тэзу павінна быць антытэза. Гэта закон, і ён пакладзены ў аснову Сусвету: "Усё знаходзіцца ў лучнасці з таго часу, як Сусвет утрымліваецца Боскай воляю, і моры на зямлі абмежаваныя пяском, і пяском ачышчаюцца рэчышчы рэк, вялікіх і малых, і сонца гарыць няспынна, і са страхам свеціць начны месяц...". І толькі любоў можа процістаяць злу, бо "ласкаю Боскаю напоўнена зямля. Любоўю Ягонаю... Як і кожны з нас...".

У рамане В. Коўтун улада — гэта зло абсалютнае. Праблема ўлады — адна з цэнтральных у творы. Перагортваючы адну за адной старонкі крывавых бітваў за княжы сталец, пісьменніца імкнецца высветліць тую вялікую таямніцу, якую тоіць у сабе "д'ябальская спакуса ўлады і ўсялякая магчымасць быць мацней за іншага чалавека. І мацней настолькі, што можа нават забраць у таго дар Боскі — жыццё". Рух гісторыі — гэта таксама барацьба за ўладу.

Свет і чалавека ў стане ўратаваць толькі безумоўныя хрысціянскія імператывы: старазапаветнае "не забі" і евангельскае "не супраціўляйся злу". Любоў супраць зла — так можна вызначыць адзін з галоўных момантаў этычнай праграмы аўтара "Пакліканых". І гэта не абстрактная філасафема, праграма гэтая "матэрыялізуецца" ў вобразе галоўнай гераіні Еўфрасінні Полацкай — адной з "пакліканых".

В. Коўтун з самага пачатку адмовілася ад ідэалізацыі сваёй гераіні. Яна — спрэс проціборства зямнога і духоўнага. Зямное, цялеснае моцна трымала яе ў сваім палоне, але яна ўпарта адмаўлялася ад усіх радасцей зямных, бо "іншае маю зрабіць". Ды і наогул, "што з таго, калі жаніліся людзі, выходзілі замуж, княжылі?!" Усё гэта праходзіць бясследна, "слава зямная, быццам попел, рассейваецца". Яшчэ юніцай Еўфрасіння (у міры Прадслава) далучылася да кніжных навук, вывучала мовы, у тым ліку і грэчаскую — у пісца Даніла. Яна з асаблівай пашанотай ставілася да вялікай святой Еўфрасінні Александрыйскай, і наогул яе думкамі валодалі людзі моцныя духам, "жанчыны даўніх летаў", якія, "прыняўшы моц мужчынскую, адсеклі ад сябе грахі зямныя мячом, але не з жалеза, а — з духу", І яна ўбірала ў сябе гэты дух, ён уліваўся ў яе з высокага неба, з роднай зямлі, яны былі "роднаснія".

Яшчэ ў 12-гадовым узросце юная князёўна пакінула шыкоўны бацькаў палац і *прыняла манаскі пострыг. З гэтага моманту* і пачаўся яе цярністы шлях — шлях бясконцых выпрабаванняў і бесперапыннай малітвы. Шлях самаахвярнасці і самаадрачэння.

Сілы нябесныя зрабілі Еўфрасінню вядушчай, а повязь з зямлёй зрабіла яе адчувальнай да болю чужога. Яна чула гэты боль — боль людзей жывых і нават памерлых. Душы памерлых таксама звярталіся да яе, яны крычалі, прасілі ў яе дапамогі. І Еўфрасіння малілася, ратавала іх ад паганскага агню, маліла Бога аб літасці да ўсіх, "гвалтам загубленых і ледзяной ракой хрышчаных". Нібыта ўвесь боль свету ўліваўся ў яе спакутаваную малітвай душу. І гэты востры чужы боль станавіўся яе ўласным. Ён паласаваў яе цела з усё новай і новай сілай. А яна прасіла ўсё новых і новых выпрабаванняў, бо менавіта ў іх бачыла сваё і ўсяго роду чала*вечага ратаванне*: "Ратуй мяне, ратуй, Міласэрны...І дай выпрабаванне, як выпрабоўваў некалі палестынскіх пакутнікаў сваіх — постам, бяссоннем і працаю. І ўзнагародзь моцаю егіпецкіх пустэльнікаў і затворнікаў афонскіх Тваіх, каб змагаць мяцяжы душы, і пустаслоўе, і аблудлівасць праз доўгія леты".

Любоў і ўсёдаравальнасць — *вось галоўная* існасць, за якую змагаецца гераіня В. Коўтун. Менавіта ёю яна і кіравалася тады, калі прасіла епіскапа вызваліць "смердаў тых, якія на капішчы не ведалі, што дзеюць", і калі заступалася за Кірыка, народнага бунтара, што асмеліўся яе, манахіню, узяць у полацкі поруб, у знакамітую на ўсёй Полачыне вязніцу, дзе сядзелі самыя жорсткія забойцы і рабаўнікі...

Гераіня В. Коўтун — гэта сакральны вобраз у беларускай літаратуры (калі разумець пад сакральнасцю якасць, што валодае абавязковым станоўчым маральным зместам. Нароўні з вобразамі Міхала ("Новая зямля"), Васіля Дзятліка ("Палеская хроніка"), Сцепаніды Багацькі ("Знак бяды") В. Коўтун прапануе грамадскасці "мадэль" беларускага хранатопа, які мае сваю сістэму каштоўнаснага вымярэння — абсалютную арыентацыю *на хрысціянскае светаадчуванне*, калі быццё і небыццё ўспрымаюцца як манада ў манадзе. Еўфрасіння Полацкая — асоба адраджэнскага кшталту. З шэрагу сусветна вядомых: Скарына, Будны, Цётка. Яна — "пакліканая" асоба, пакутніца, якая, падобна Настаўніку, бярэ на сябе грахі чалавека. І пры ўсім гэтым яна захоўвае "непадзельную сутнасць",

Сон, трызненне, відзежы — структурная аснова вобраза Еўфрасінні. Але ўсё гэта не зніжае рэальна-жыццёвага напаўнення гераіні. Нават наадварот, толькі падкрэслівае яе канкрэтна-гістарычнае аблічча.

Калі працягваць гаворку пра адметнае, трэба адзначыць і мову: яна стылізавана пад узоры старажытныя, што стварае эфект адмысловага першабытнага душэўнага настрою, эфект прысутнасці гістарычнага часу.

У свой час А. Сямёнава, маючы на ўвазе *раман* "Крыж міласэрнасці", *адзначала*, што ў прозе В. Коўтун "усё па максімалісцкай сістэме каштоўнасцяў, дзе мастацкае павінна сысціся з даследчым, дакументальным, фактаграфічным, дзе строгая логіка думкі павінна спалучацца з натхнёнымі фарбамі і мелодыямі душы, увасобленымі ў канкрэтных радках і адчувальнымі ў водары часу, у сувязі галоўнага і нібыта нязначнага, што, аднак, стварае непадробнасць і вышыню жыцця. Жыццё ў розных яго праявах". Гэтым жа мастацкім крэда кіравалася пісьменніца і пры напісанні "Пакліканых".

Раман "Пакліканыя" В. Коўтун адкрывае новыя магчымасці дакументальна-мастацкай прозы. Гэты твор *паядноўвае*, сінтэзуе ў адно мастацкае цэлае гісторыю, дакумент, літаратурнае ўяўленне як "волю да звышбыцця" (Г. Башляр) і элементы "Жыцця". Толькі пра наватарства кнігі лепш сказаць пазней, калі раман будзе закончаны (цяпер пісьменніца працуе над другой кнігай "Пакліканых"). Сёння можна сцвердзіць толькі адно: кніга гэта адметная, і стасуецца яна не толькі з той літаратурай, якая была, але і з той, што яшчэ будзе.

**Валянціна ЛОКУН**

Валянціна Коўтун. "Пакліканыя". Раман. Кн. 1, "Полымя", 2002, № 2.

# ДОСВЕД МАСАВАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў СУЧАСНЫМ ТЭКСЦЕ

Пэўна, так ужо ўладкаваны чалавек, што яму проста неабходна бачыць нешта — ці то свет, ці то сябе, ці то мінулае, etc. – праз прызму ідэальнага. Без нейкага адмоўнага значэння, гэта такія своеасаблівыя ружовыя шкельцы, погляд праз якія не дазваляе патануць у хаосе нашае сучаснасці. Зрэшты, беларусы, узрошчаныя рамантыка-гістарычнай прозай Уладзіміра Караткевіча, заўсёды былі схільныя да абагаўлення нацыянальнай мінуўшчыны. Мяркую, менавіта таму ім так цяжка вызначыцца ў сваіх адносінах да аповесці Андрэя Федарэнкі "Нічые", бо, як жа так, страчваецца ці не апошняе — магчымасць бачыць (няхай і ў мінулым) сваю дзяржаву моцнай, незалежнай (чытай "ідэальнай"), а яе народ здольным паўстаць на змаганне. Гэтае імкненне ўяўляць мінуўшчыну Беларусі як цалкам ідэальнае ўтварэнне надзвычай натуральнае і заканамернае (зрэшты, яно вядома кожнаму з нас: найчасцей мы проста жывем у створанай, у сваім уяўленні, сваёй краіне, у якой іншая мова, іншыя святы, іншая гісторыя), таму што на этапе празмерна маруднага станаўлення беларушчыны чалавек мусіць шукаць таго апірышча, на якім і будуць мацавацца яго ідэі, перакананні і, вядома ж, вера. Менавіта таму такой актуальнай застаецца для нас праблема вяртання гістарычнае памяці, а творы на тэму беларускай мінуўшчыны становяцца надзвычай папулярнымі, асабліва калі яны напісаныя на мове масавай літаратуры. Узгадайма ўсё таго ж У. Караткевіча, які раскрыў перад намі легендарнасць беларускае гісторыі. Зрэшты, у сучаснай літаратуры ў гэтага слыннага празаіка ёсць свае спадкаемцы, сярод якіх вылучым Людмілу Рублеўскую з яе гістарычнымі творамі. Менавіта яна ў сваіх аповесцях ("Сэрца мармуровага анёла", "Пярсцёнак апошняга імператара" і інш.) падае пазітывы беларускае сітуацыі, у якіх адчуваюць такую патрэбу многія з чытачоў (узгадайма палеміку на гэтую тэму, распачатую Кастусём Траўнем у "Нашай ніве"). Пры гэтым аўтарка надзвычай удала спалучае, звязвае ў адзінае цэлае мінулае і сучаснае, імкнучыся вылечыць беларусаў ад "гістарычнага малакроўя". Адметна, што працэс выдалення хваробы не пераўтвараецца ў пакутлівае стацыянарнае лячэнне з балючым упырскваннем ненавісных лекаў-унушэнняў пра тое, што беларуская гісторыя слаўная, багатая і г.д. Чытанне гістарычнага тэксту становіцца прыемным задавальненнем (што ні ў якім разе не выключае глыбіні зместу), бо ён, тэкст, а ў дадзеным выпадку гэта аповесць "Пярсцёнак апошняга імператара", увасоблены ў займальнай дэтэктыўнай форме. А дэтэктывы як найбольш папулярны жанр масавай літаратуры чытаюцца лёгка і з цікавасцю. Тут дарэчы будзе ўзгадаць Хорхэ Луіса Борхеса, які лічыў, што добры мастацкі твор ёсць заўсёды дэтэктыўны твор. І з гэтай думкай нельга не пагадзіцца, асабліва, калі ўспомніць тэксты Уладзіміра Караткевіча, Фёдара Дастаеўскага, Франца Кафкі ды інш. Магчыма, што менавіта шлях напісання твораў у займальнай, у тым ліку дэтэктыўнай форме і ёсць адным з выйсцяў для беларускай літаратуры, якая зараз апынулася ў замкнёным коле літаратуры для саміх жа літаратараў, да якіх далучаюцца хіба што прафесійныя філолагі ды навучэнцы. Тым больш, што скласці формулу папулярнага, але ДОБРАГА (!) тэксту не так ужо і цяжка. Дастаткова добра ведаць тое кола сродкаў, якія ўжо былі апрабаваныя папярэдняй, найперш класічнай літаратурай і ўмела выкарыстоўваць іх для выражэння новага зместу або ідэі. А ўжо ў веданні гісторыі культуры і літаратуры Л. Рублеўскай адмовіць нельга.

Навідавоку зацікаўленасць аўтаркі ў тым, каб яе твор стаў цікавым не толькі філолагам. Аповесць сапраўды прыцягвае, і найперш таму, што ў ёй прысутнічае фабула і інтрыга. А гэта якраз тое, чаго чакае непрафесійны чытач ад добрага мастацкага твора. Чалавека з вуліцы, стомленага надзённымі праблемамі, мала цікавяць такія катэгорыі, як ідэя, сімвалічнасць, адметнасці стылю і г.д. Яму неабходны найперш сюжэт. І менавіта ён ляжыць на паверхні аповесці Л. Рублеўскай. Тут ёсць тайны, каханне, унутраная і знешняя барацьба. Героі твора знаходзяцца па розныя бакі мяжы, калі выразна абазначаны станоўчыя і адмоўныя вобразы, што не дэзарыентуе рэцыпіента, як у выпадку з элітарнымі мадэрнісцкімі творамі. Да таго ж, рамантычная эстэтызацыя назвы, якая ёсць тэндэнцыяй для творчасці пісьменніцы, таксама прыцягвае немалую долю ўвагі. Першаснае ўражанне вельмі моцнае, і фармуецца яно якраз у момант прачытання назвы твора, якая заўсёды трапляецца на вочы. Дарэчы, менавіта тады і здзяйсняецца просты выбар: чытаць або не чытаць. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што "Пярсцёнак апошняга імператара", калі мець на ўвазе сюжэт, пабудаваны паводле канонаў масавай літаратуры.

Улічваючы ўсё вышэй адзначанае, трэба сказаць, што менавіта фабульная дэтэктыўнасць дазволіла пісьменніцы ў яе аповесці спалучыць нязмушанасць формы з сур'ёзнай ідэяй пра неабходнасць перадачы і захавання гістарычнай памяці. Як вынік, здымаецца традыцыйная для нашай прозы апазіцыя паміж "сапраўднай" і "несапраўднай" літаратурай.

Асноўная думка твора, сфармуляваная вышэй, не новая для нашага мастацкага слова. Яна з'яўляецца рамантычнай па сваёй прыродзе. Таму мы можам гаварыць аб наяўнасці рамантычнага дэтэктыву ў сучаснай беларускай літаратуры, які, дарэчы, быў распаўсюджаны ў творчасці ўсё таго ж У. Караткевіча ("Дзікае паляванне караля Стаха", "Чорны замак Альшанскі"). Навідавоку пераемнасць твораў гэтага пісьменніка з творамі Л. Рублеўскай. Але ж ёсць і істотнае адрозненне. Яно выяўляецца ў тым, што аповесці аўтаркі, і ў прыватнасці "Пярсцёнак апошняга імператара", больш скіраваныя да сучаснасці, чым звернутыя ў мінулае. Гэта выяўляецца як на ўзроўні фабулы (а большая частка твора распавядае пра набліжаны да нас час), так і на ідэйным узроўні, бо вяртанне гістарычнае памяці важнае менавіта для нас і менавіта сёння, таму што забыцца на ўсё, што было, гэта значыць "як у буру не злавіць кінутую на бераг з чаўна вяроўку. І бура паглыне човен разам з тымі, хто на ім. Але яны — гэта і мы". Але ў падтэксце ўсяго твора і ў наступных радках адчуваецца думка пісьменніцы: "яны — гэта і я". Яна, гэтая думка, абсалютна натуральная, бо знікненне цэлага (народа) нясе і смерць яго часткі (індывіду). І тут мусіць спрацоўваць інстынкт самазахавання, таму паглыбляецца індывідуальная адказнасць за свае ўчынкі, скіраваныя на захаванне гісторыі. Агульнанацыянальнае становіцца асабістым — і ў гэтым выратаванне ўсіх — народа і сябе. Ці не таму Магдаліна Дарбут забываецца на рацыю ды голас розуму і насуперак усяму працягвае пошукі гістарычнае праўды. І гэтыя поўныя рызыкі пошукі прыносяць не толькі ісціну і справядлівасць, але і захаванне Асобы гераіні. Суіснуючы побач з Маркам Магдаліна мусіла ўвесь час трымаць уласнае "Я", якое прагнула волі, нязмушанасці ва ўчынках, прыгодаў, у глыбокім сутарэнні. А гэта, як вядома, найлепшы шлях да страты самой сябе. Каханне да Кастуся для Магдаліны сталася сапраўдным выратаваннем, бо яно не патрабавала адпавядаць нейкім стандартам і нормам, а, наадварот, прынесла свабоду думак і ўчынкаў. Такім чынам, Магдаліна знайшла не толькі вершы свайго дзеда (а значыць і частку нашае гісторыі), але і самую сябе.

Паняцце пераемнасці становіцца ключавым для аповесці "Пярсцёнак апошняга імператара". Прычым яно гучыць не толькі ў закліку да захавання і ўзнаўлення забытай гісторыі. Важнай становіцца праблема пераемнасці духу, годнасці продкаў (Вінцэсь Дарбут — Кастусь Сташынскі). У аповесці выкладзены асноўныя накірункі беларускага сармацтва, ідэальнымі ўвасабленнямі якога становяцца вобразы мужчынаў Дарбутаў, для якіх Радзіма і воля былі найперш. Не ваяваць за свой край было проста ганьбай, мірыцца з быдлячай, няхай сабе і шляхтай — таксама. Яны не баяліся парушыць звычаю (аналаг сучасных нормаў, якія скавалі Магдаліну), калі яны былі супраць іх перакананняў. І ўсюды, заўсёды захоўвалі сваю годнасць. Сімвалам жа гістарычнай і духоўнай пераемнасці становіцца пярсцёнак, зроблены са звычайнага металу — без прэтэнзіяў на радавое багацце, таму і яго сімвалічнае значэнне становіцца яшчэ больш выразным і глыбокім. Ён нагадвае нам пра палатно нашае гісторыі, асобнымі нітачкамі якога з'яўляецца кожны з нас. Але ткалі яго ўсё ж не мы, таму і не нам знішчаць або забывацца на яго, бо "хто мы такія, каб ірваць і зблытваць ніты ў тым, што саткана не намі?".

**Алена АЎЧАРЭНКА**



## КАХАННЕ... ДА ШЭФА

**З усімі нюансамі гэтага шчымлівага пачуцця вы зможаце пазнаёміцца, прачытаўшы кнігу Вольгі Куртаніч "Залюстрэчча для**




**Алісы". Назваць безгустоўнай такую спробу прасачыць за ўсімі перыпетыямі жыцця галоўных герояў неяк не выпадае. Таму што праблема ўзаемадачыненняў з шэфам, закаханым у сваю супрацоўніцу, актуальная не толькі для нашага часу і не толькі для Беларусі (узгадаем хаця б адносіны Біла Клінтана з Монікай Лявінскі). Вольга Куртаніч паказвае, як складваецца службовы раман, што робяць персанажы са сваёй кар'ерай і вольным часам, апісвае кульмінацыю любоўных адносін.... Аматарам эротыкі кніга В. Куртаніч не проста спадабаецца — яна захопіць іх складанай фантазіяй. Службовыя інтымныя адносіны — заўсёды сенсацыя: і ў жыцці, і ў літаратуры. У кнізе В. Куртаніч, акрамя сенсацыйнага рамана-парафраза, ёсць яшчэ і аповесці, п'еса і апавяданне. Крытычны артыкул І. Шаўляковай, які ўводзіць чытача ў сваёй творчасці В. Куртаніч, падагульняе агульнае ўражанне ад гэтай неардынарнай для беларускай літаратуры чытальнай жаночай прозы.**

**С. Я.**



# ПРЭМІІ ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ 2003 ГОДА Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, ЖУРНАЛІСТЫКІ І САМАДЗЕЙНАЙ ТВОРЧАСЦІ

**24 красавіка Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прысудзіў прэміі 2003 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці з наданнем звання лаўрэата, уручэннем Ганаровага знака, дыплома і грашовай узнагароды:**

### *І. У галіне літаратуры і мастацтва*

**За творы прозы, паэзіі і драматургіі (дзве прэміі):**

**Карамазаву Віктару Філімонавічу,** пісьменніку — за кнігу "З вясною ў адным вагоне", апублікаваную ў 2002 годзе;

**Сакалоўскаму Рыгору Васільевічу**, паэту, заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь, першаму намесніку старшыні ГА "Беларускі саюз журналістаў" — за кнігу паэзіі "Счастье земное", апублікаваную ў 2002 годзе.

**За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць (адна прэмія):**

**Карэтнікаву Валерыю Іванавічу**, кампазітару — за вакальна-інструментальную лірычную паэму на вершы Э.Агняцвет "Флейтыст" для сапрана, флейты, фартэпіяна, скрыпкі, альта і віяланчэлі; і 12 характарыстычных п'ес;

**Кісель (Суседчык) Святлане Іванаўне**, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь, салісткі ансамбля народнай музыкі "Бяседа" Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь — за высокае выканальніцкае майстэрства ў канцэртных праграмах ансамбля "Бяседа" і стварэнне сольнай праграмы "Маміна вішня".

**За работы ў галіне тэатральнага мастацтва (адна прэмія):**

**Башавай-Івановай Наталлі Алегаўне** (рэжысёру-пастаноўшчыку) і **Рулёвай Ларысе Ільінічне** (мастаку-пастаноўшчыку) — за пастаноўкі спектакляў Д.Разумоўскай "Сястра мая Русалачка", С.Кавалёва "Дарога на Віфлеем", П.Васючэнкі "Рыцар Сонца" ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача.

**За работы ў галіне кінамастацтва (адна прэмія):**

**Яфрэмаву Аляксандру Васільевічу**, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь, мастацкаму кіраўніку тэатра-студыі кінаакцёра РУП "Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" (рэжысёру-пастаноўшчыку) і **Цімашэнцы Людміле Мікалаеўне** (дырэктару здымачнай групы) — за мастацкі фільм "Поводырь".

**За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва (адна прэмія):**

**Кірэеву Мікалаю Уладзіміравічу**, мастаку, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесару кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — за цыкл жывапісных твораў 2002 года;

**Сідаравай Валянціне Сцяпанаўне**, мастаку-графіку, дацэнту кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — за стварэнне высокамастацкай серыі ілюстрацый у 1999-2002 гадах.

### *ІІ. За дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці*

**За актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных (адна прэмія):**

**Смольскаму Генадзю Анатольевічу** — дырэктару Палаца культуры вытворчага аб'яднання "Беларускі аўтамабільны завод".

**За высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (для дарослага і дзіцячага калектываў) — дзве прэміі:**

народнаму самадзейнаму калектыву "Бліскавіца" Гродзенскіх электрычных сетак (кіраўнікі — **Сіповіч Аляксандр Купрыянавіч і Дзмітрук Зоя Сцяпанаўна,** кіраўнік аркестра — **Карповіч Аркадзь Іванавіч**);

узорнаму ансамблю танца "Мішутка" клуба РУП "Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання" (мастацкі кіраўнік — Радчанкава Таццяна Мікалаеўна).

### *ІІІ. У галіне журналістыкі (адна прэмія)*

**Юнчыку Леаніду Мікалаевічу**, рэдактару аддзела журналісцкіх расследаванняў і крымінальнай хронікі газеты "Рэспубліка" — за публікацыі на тэму "Защищая простого человека" ў 1999-2002 гадах у газеце "Рэспубліка".

**Грашовая ўзнагарода прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2003 года ўстаноўлена ў памеры 100 базавых велічынь кожная, а дзвюх калектыўных прэмій за высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці — у памеры 170 базавых велічынь кожная.**

# ВУЧНІ ПРАЧЫТАЮЦЬ КЛАСІКАЎ І СУЧАСНІКАЎ

Вучэбны дапаможнік "Беларуская літаратура", адрасаваны вучням 5 класа (выдавецтва "Народная асвета"), стварылі Алесь Бельскі, вядомы даследчык роднай літаратуры, празаік, і Людміла Цітова, вопытны метадыст, аўтар школьных падручнікаў і дапаможнікаў.

У чым жа навізна навучальнай кнігі? А ў тым, што аўтары-складальнікі заклалі ў яе аснову ідэю радаводу, якая набывае развіццё з кожнай новай тэмай, агульны прынцып уладкавання Сусвету: я – мой род – народ – родная зямля – чалавецтва. Што яшчэ кідаецца ў вочы, дык гэта тое, што ўпершыню вучням прапануецца для вывучэння фантастыка. Вельмі займальнае апавяданне Дзінтры Шулцэ з Латвіі "Роберцік" (пераклад Э. Садаўнічага), з цікавасцю падлеткі прачытаюць урыўкі з аповесці Міхася Зарэмбы "Рыжая ластаўка". Вучні пазнаёмяцца з Бібліяй, асобнымі паданнямі з яе, з героямі беларускай міфалогіі і апавяданнямі пра іх, не толькі з народнымі, але і шыракавядомымі літаратурнымі песнямі, старадаўнім лялечным тэатрам – батлейкай...

Кнігу адкрывае раздзел "Мой род. Родная зямля. Народ". Гаворку пра сямейны радавод, родныя вытокі, повязь чалавека з іншымі людзьмі і светам цікава распачынае У. Ліпскі (урывак з кнігі "Я"). Далей змешчаны творы пісьменнікаў, у якіх услаўляецца моц, мужнасць і працавітасць нашых продкаў, адданасць роднаму краю і свайму народу. Раздзел "Свет загадак і цудаў" знаёміць са старажытнымі вераваннямі і ўяўленнямі беларусаў, іх ладам жыцця і маральнымі каштоўнасцямі.

Беларуса немагчыма ўявіць без песні, яна – яго душа, у чым вучняў красамоўна пераканае раздзел "Сэрцам народжаны спеў".

Раздзел "Біблія – вечная і дзівосная кніга" знаёміць з гісторыямі пра стварэнне свету, першых людзей, блуднага сына, сусветны патоп і выратаванне нашчадкаў Адама і Евы. У Бібліі славуты Ф. Скарына бачыў выток добрых думак, чалавечай мудрасці, ён скіроўваў людзей да адвечных запаветаў, таму вучням і прапануецца пазнаёміцца са скарынаўскім выказваннем пра Біблію, пераклад якога зрабіў паэт А. Разанаў. Беларусы пачыналіся, як вядома, і са Скарынавай кнігі. Затым дзеці прачытаюць паэтычныя малітвы Я. Коласа і М. Танка.

Раздзел "Радасць красы адгукнецца ў душы" складаюць творы пра хараство беларускай зямлі, разнастайнасць станаў прыроды. Вершы і проза З. Бядулі, П. Труса, А. Коршака, К. Чорнага, І. Мележа, Я. Брыля, П. Панчанкі, А. Вялюгіна, А. Пысіна, В. Зуёнка, Р. Барадуліна, Д. Бічэль, Г. Бураўкіна, В. Вярбы вельмі маляўнічыя, настраёвыя, багатыя на яркія сродкі мастацкай выразнасці. Змешчана тут і апавяданне І. Грамовіча "Воблакі", якое абуджае адухоўлены, паэтычны погляд на свет.

З раздзела "Чалавек – гэта цэлы свет" вучні даведаюцца пра жыццё раўналеткаў, асэнсуюць іх характары, паводзіны. Літаратура якраз і дапамагае глыбей спазнаць сябе і іншых людзей. У гэтым плане вельмі каштоўным будзе чалавеказнаўчы змест твораў К. Чорнага, Я. Маўра, І. Мележа, А. Васілевіч.

Раздзел "Покліч мінулых стагоддзяў" пазнаёміць вучняў з гістарычным радаводам, вобразамі нашых славутых продкаў, створанымі ў беларускай і замежнай літаратуры: Еўфрасінняй Полацкай, Рагнедай, князем Вітаўтам...

А далей вучні пазнаёмяцца з ваеннай і экалагічнай тэмамі ў літаратуры (раздзелы "Вайна – боль і памяць зямлі" і "Зямля мая – зялёны дом").

Ну а напрыканцы года вучні атрымаюць магчымасць павесяліцца, захапіцца незвычайнымі прыгодамі і памарыць. Святам гумару і смеху стане вывучэнне баек Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Звонака, У. Корбана, М. Скрыпкі, чытанне апавядання Я. Брыля "Ветэрынар" (раздзел "І досціп, і мудрасць"). А завяршае кнігу фантастыка (раздзел "Святло далёкай зоркі"). Вучням, напрыклад, будзе цікава пачуць, што сёння існуюць версіі пра касмічнае паходжанне чалавека, а пасля яны ў думках перанясуцца на далёкія загадкавыя планеты, дзе жывуць дзівосныя істоты і разгортваюцца неверагодныя падзеі.

Кніга прыгожа афармлена, ілюстрацыі падабраны ў адпаведнасці з яе тэматыкай. На вокладцы змешчаны партрэт Ф. Скарыны і выява карціны В. Сумарава "Зямля маці", на развароце вокладкі – рэпрадукцыі карцін А. Марачкіна "Еўфрасіння Полацкая", "Рагнеда", "Купальскія чары". Усярэдзіне ёсць таксама ўклейкі, дзе вучань мае магчымасць разгледзець творы жывапісу мастакоў Ф. Рушчыца, В. Бяльніцкага-Бірулі, Я. Драздовіча, П. Масленікава, П. Данеліі, І. Карасёва, Г. Шапялевіч і інш.

Застаецца дадаць, што гэты вучэбны дапаможнік з наступнага навучальнага года стане падручнікам для 12-гадовай агульнаадукацыйнай школы.

Яўген НІКАЛАЕНКА



Яўген ХВАЛЕЙ



•

*Разліўся Нёман...*
*Чайкі над вадою —*
*Як ветразь белы ў маладосць,*
*Калі я жыў*
*У маці, дома,*
*Калі я быў*
*Яшчэ не госць...*

*Я тут*
*У гэткую ж паводку*
*На зыбкім чоўне веславаў...*
*О як гайдала лёсу лодку*
*Пасля на многіх з пераправў*

*Ды дзе б ні быў*
*Дасюль далёка —*
*Імкне да Нёмна*
*Човен мой,*
*Дзе пойма —*
*Не акінуць вокам,*
*І ветразь чаек над вадой...*

•

*Жанчыну трэба любіць,*
*Народжаную для кахання.*
*Жанчыне трэба дарыць*
*Штодзень букеты прызнанняў.*

*Жанчыну трэба любіць,*
*Пяшчотную чарацінку.*
*Жанчыну трэба любіць,*
*Як любіць колас расінку.*

*Жанчыну трэба любіць*
*Заўжды — ўзімку і ўлетку.*
*Жанчыну трэба любіць,*
*Як чмель — палявую кветку.*
*Жанчыну трэба любіць,*
*А не казаць літанні.*
*Жанчыну трэба любіць,*
*Як птушка любіць світанне.*

*І каб мужчынам быць —*
*Жанчыну трэба любіць!*

•

*На маім стале —*
*хрызантэмы.*
*Твой партрэт на сцяне.*
*І няма больш тужлівай тэмы:*
*Я жыву без цябе!*

*Там, дзе пушча адкідвае цені,*
*Як былыя нашыя дні,*
*Быццам юнымі летуценнікамі*
*Мы з табою пайгода былі.*

*Снежань нас парадніў,*
*Ну а травень*
*Знёс на розныя берагі.*

*Паміж намі —*
*высокія травы,*
*Паміж намі —*
*сумёты-снягі...*

## ЦЁМНА Ў ВЁСЦЫ СВІДНА...

Памяці Міхася ЗАРЭМБЫ

*Бяда прыйшла на вуліцу Бяды*
*У горадзе...*
*А ў вёсцы Свідна*
*Цябе чакалі, як заўсёды,*
*Твае над Гайнай краявіды*

*І хата, дзе быў першы ўскрык,*
*Каля самой гары-пагоста...*
*Тут быў твой родны мацярык,*
*А горад — як часовы востраў.*

*Таму ляцеў сюды, бы птах,*
*Які пакінуў шумны вырай...*
*Часнок тваёй радзімай пах,*
*Што на градзе ля Гайны вырас.*

*Ён быў амаль што талісман,*
*Дарыў ты светла і спагадна...*
*А сёння цёмна...*
*І туман*
*Ахутаў Свідна, рэчку Гайна...*

•

*Малады быў і я...*
*Маладыя*
*Дзе ж гады мае,*
*дзе ж вы, дзе?*
*Праляцелі, нібыта гнядыя,*
*Па вясновай талай вадзе.*

*Толькі пырскі ўбакі,*
*толькі пырскі,*
*Быццам дні мае нарасхоп...*
*Ля якое апошняе рыскі*
*Гэты спыніцца мой галоп?..*

Мікалай ВІНЯЦКІ

## ХМАРЫ ПЛЫВУЦЬ...

*(элегічны тэтраверш)*

*Хмары цяжкія плывуць*
*над маёю радзімай старонкай,*
*Чорнаю навіссю крыл*
*хмары цяжкія плывуць...*
*Шарай імгі каламуць*
*далягляд засланяе таропка,*
*Кроў мне выцягвае з жыл*
*шарай імгі каламуць.*

*Сонейка б трошкі глытнуць...*
*А святло недасяжнай скарбонкай,*
*Горкі ўладае ім пыл...*
*Сонейка б трошкі глытнуць;*
*Нельга па ім не ўздыхнуць,*
*прыгадаўшы яго промень звонкі,*
*Як без святла свет не міл —*
*нельга па ім не ўздыхнуць!..*

## ЗЯЗЮЛЯ

*(лэ-двурым)*

*Прадвосеньскай парой*
*З вячэрняю зарой*
*Я чую,*
*Як за крутой гарой*
*Лясун сваёй сурмой*
*Вяшчуе*
*Аб тым, што баравой*
*Зязюлі пець журбой*
*Прачула..*

*Прасекаю старой*
*Туды,*
*дзе клёнаў строй,*
*Лячу я*
*Да птушкі шэрай той*
*Лінчуе*
*Сама сябе з жальбой,*
*Як дух сіроцтва ў ёй*
*Вякуе...*

## ТАНКА

*Салавей пяе*
*Для закаханых сэрцаў*
*А хто адкахаў —*
*Слухай роспач зязюлі*
*У яе пакаянні...*

## ХОКУ .

*Не губляй пяро*
*Агню, жар-птушка — зорка,*
*З блакітнай высі.*



Аліна пазірала на акварыум. Дзень таму яго паставілі ў гастраноме, каля бабулькі, што прымае на захаванне авоські. Сёння ў ім была ўжо вада, і пакуль Аліна разам з пакупнікамі стаяла ў чарзе, нават паспелі запусціць туды... карпа. Толькі нашы людзі здагадваюцца замест дэкаратыўнай рыбкі апусціць у новы акварыум звычайную, якая хутка апынецца на чыёйсьці патэльні. Ды яна, можа, зусім туды і не патрапіць, бо мае такі аблезлы выгляд, што наўрад ці хто на яе пакваліцца.

— Ну, я ж цябе вучыў: адзін бачыць пусты акварыум, іншы — цудоўную Атлантыду па-за яго сценамі, — павучальна гаварыў Міхась.

— Каб стаць сакратаркаю ў нашым офісе, трэба не толькі ўмець усміхацца, але і бачыць ва ўсім станоўчае. Нават калі перад тваімі вачыма — адна брыдота. Вось, што добрага ў гэтым акварыуме?

— Выдатна тое, што яго ніхто, акрамя наведвальнікаў гастранома, не ўбачыць.

Аліна жыла ў "спальным" раёне, дзе не адно пакаленне рабочых праспала сваю шчаслівую будучыню. Шчасце з гэтага раёна кудысьці скіроўвалася ў іншы бок, напэўна, бліжэй да апартаментаў, дзе ў акварыумах плавалі залатыя рыбкі. А не адзін пасівелы карп. І ўвогуле яна была А-лі-на-ю! Яе імя пабацьку не тое што ніхто не прамаўляў — проста ў гэтым не было патрэбы. Усім выглядам маладзіца паказвала: да Сяргееўны ёй яшчэ вой як далёка! І раптам — на табе! У адзін дзень так састарэць! Дзеля таго, каб атрымаць новае месца працы, яна ПАВІННА была стаць Сяргееўнай.

— Цьфу!.. — Міхась крыху разлаваўся, але зразумеў: суразмоўніцы цяпер цяжка захоўваць раўнавагу. Яе дасягаеш толькі тады, калі ўсё ладзіцца. Без працы — без грошай і самапавагі — быць спакойным немагчыма.

— Разумееш, галоўнае патрабаванне ў нашай фірме — каб былі аптымістамі, умелі весці гаворку, "трымаць" субяседніка.

Міхась спадзяваўся, што зможа ўгаварыць свайго Патрона — сябра дзяцінства — узяць Аліну, каб працавала на фірму.

— А таго, хто прыходзіць да нас, каб падпісаць дзелавы кантракт, трэба "злавіць". Увагаю, удзячнасцю. Тым, што ты лічыш яго адзіным вартым жыцця на гэтым свеце. Распытай субяседніка пра яго ж — і ён будзе твой назаўсёды! Каб ты ведала, колькі спраў рашыў наш Патрон, маючы такі рэдкі дар — хваліць людзей і іх рэчы! Шчыра хваліць!

Міхась у фірме быў "цэлаахоўнікам". Хто бачыў яго шырокія плечы, на якіх трашчалі ўсе кашулі, і сціснутыя ў кулакі далоні, далей ні пра што не пытаўся. Міхась доўга вучыўся хадзіць нетаропкімі цяжкімі крокамі, расставіўшы рукі ўбокі, крыху "надламаўшы" іх у локцях, як спартсмен-гіравік. Праўда, шыя яго плаўна не пераходзіла ў патыліцу, а галава была стрыжаная пад "ноль-пяць", як ва ўсіх "крутых". Яго доўгія валасы прыгожа апускаліся на плечы, ён збіраў іх гумкаю: стыльна! Патрон не мог сабе такога дазволіць, а ён мог. І гэта выгадна яго вылучала! Па ім сохлі дзяўчаты, акрым той, адной, пра якую марыў. Заставалася адзіная надзея — прымусіць раўнаваць. Яму была патрэбная легенда. Маладзіца, "як вады напіцца" на ролю каханкі. Міхась добра прыгледзеўся да Аліны: яна ва ўсім падыходзіла! Таму, абяцаючы Аліне працаўладкавацца, параіць Патрону кандыдатку на месца сакратаркі, ён памагаў і сам сабе. Бо ўсе падумаюць: калі ён, Міхась, прывёў у фірму та-ку-ю "фіфу", то, значыць, без сумненняў яна яго добрая знаёмая. Вельмі добрая...

Патрон прызначыў першую сустрэчу а палове дзевятай. Правёўшы з Алінай "заняткі па фарміраванні аптымістычнага погляду на жыццё", купіўшы ёй у модным буціку за свае грошы строгі дзелавы касцюм, Міхась лічыў дзяўчыну амаль што залічанай у штат, на пасаду сакратаркі.

— Ты толькі не забудзься: садзіцца трэба на крэсла з левага боку ад суразмоўцы, — вучыў Міхась па дарозе, супраываджаючы дзяўчыну на фірму. — Я дзесьці чуў, што левае паўшар'е мозгу адказвае за рацыянальны пачатак у чалавеку. Правае выдае эмоцыі. Навошта табе паказваць, што ты хвалюешся? І яшчэ — не бяры нічога ў рукі. Нават аловак. Бо захочаш яго пакруціць. Гэта не будзе характарызаваць

*І раней, у савецкім, і цяпер, у "новым" кіно нямала сцэн, дзе ў розных установах пры вялікіх кабінетах дзейнічаюць розныя сакратаркі. Тады гэта былі сціплыя, малагаваркія, паслухмяныя жанчыны, хоць яны на самай справе вырашалі нямала чаго не толькі для знаёмых, але і начальнікаў розных узроўняў; зараз, як паказваюць, гэта экстравагантныя дамачкі, якія могуць, як кажуць, грудзьмі біцца за шэфа ці, наадварот, падвесці яго альбо, бывае, намагаюцца выконваць свае сумленна і ў выніку маюць нямала непрыемнасцяў. Усё, як і ў іншых людзей.*

*Ірына Тулупава ў 1980-х скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, працавала ў многіх установах, у тым ліку і міністэрствах, на радыё (цяпер у часопісе "Гаспадыня"), на свае вочы пабачыла многія нашы структуры, столаначальнікаў і іхніх наведвальнікаў, адчула, што можа значыць асоба, якую мы па-былому ўяўляем сакратаркай, гаспадыняй прыёмнай, уваходнай у кабінет, асэнсавала, як гэта ўсё патрэбна і ў той жа час цяжка. Ей, жанчыне. Чалавеку. І па-мойму, аўтарка здольная спасцігнуць адмысловую філасофію і псіхалогію вышэйназванай службы, напісаць пра гэта зусім не па стэрэатыпе, а па-свойму і, галоўнае, светла, пераканаўча. Адно з яе апавяданняў раю "ЛіМу", лічу, чытач з задавальненнем пазнаёміцца з прозай, напісанай па-сучаснаму і ярка.*

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

цябе як сур'ёзнага чалавека. Ды ўсміхайся паболей. І... нешта я хацеў яшчэ сказаць...

— "Шукай станоўчае ва ўсім!" — гэта твае словы, я іх запомніла. Не хвалюйся.

Аліна запаволіла хаду перад дзвярыма офіса. Дзіва: яны самі адчыніліся, спыняцца не прыйшлося, і самая каштоўная хвіліна была страчана. Міхась не паспеў нагадаць, каб пры знаёмстве яна называла не толькі сваё імя, але і імя па-бацьку. Патрон якраз праходжваўся па калідоры.

— Добры дзень! — усміхнуўся ён. — Як завуць фею, што да нас завітала?

— Аліна! — яна не чакала такога хуткага пачатку. Імя па-бацьку страцілася дзесьці ў напалоханай свядомасці. "Мінус адзін бал", — падумаў быў Міхась.

І далей знаёмства не пайшло сваім ходам. Прамаўляў Патрон. Ён працягнуў руку, каб "фея" паклала на яе сваю — для пацалунку. Яна ўбачыла прывітальны жэст, зрабіла такі ж сустрэчны, упэўнена сціснула ў сваёй далоні далонь Патрона, патрэсла руку, чаго рабіць было не варта. "Мінус два".

— Ну што ж, раю далейшую гутарку весці, так бы мовіць, "на месцы дзеяння".

Патрон павярнуўся і рушыў да дзвярэй з шыльдаю "Прыёмная".

Патрон смяяўся хвіліны са дзве, пакуль Аліна не даўмелася сэнсу таго, што сказала.

— Не падумайце чаго дрэннага, я мела на ўвазе, што крэсла якраз той вышыні, якая трэба для чалавека, каб той зручна адчуваў сябе: і калі піша, і калі размаўляе з наведвальнікам.

— Не перапрашайце: слова — не верабей! — усё яшчэ смеючыся, Патрон расстаўляў кропкі над "і". — Сапраўды, раней гэтая офісная мэбля была ў маім кабінеце. Ну, а калі справы пайшлі больш удала, мы змаглі паабстаўляцца з бляскам.

Шчырасць дзяўчыны яму спадабалася.

— Ага, і касцюм ваш бэжавы на фоне светла-карычневых сцен выглядае бездакорна! — дадала падбадзёраная Аліна.

Навісла неспадзяваная паўза.

"Мінус сем!" Міхась, палічыўшы справу прайгранай выйшаў з прыёмнай.

— Ну, хопіць жартаў. Давайце нанова знаёміцца! Як вам, напэўна, Міхась ужо сказаў, мяне завуць Аляксандр Віктаравіч.

— А мяне Аліна Сяргееўна! — яна ўстала, прыбрала паперы з левага крэсла, прысела на ім, не абапіраючыся на спінку. Бос яшчэ распытаў пра яе звычайную сям'ю, пра стары дом, і непрэстыжны мікраён, у якім яна жыве, пра неіснуючых сяброўак, што толькі заміна-

У жанчын усё па-іншаму. Напачатку яны сціплыя і паслухмяныя, а пасля, як пазнаёмяцца бліжэй... Пачынаецца нейкае лёгкае панібрацтва: Сашка! Альбо Шурык! Які з яго Шурык?! Вось і выпадае, каб не пераходзілі мяжу, трымалі абавязковую на службе дыстанцыю, цярпець афіцыйнае "Аляксандр Віктаравіч".

Цікава, а як Міхась называе сваю суседку: таксама Сяргееўнай? Мабыць не! І чаму яна ўсё пазірала на акварыум у прыёмнай? Вядома, назіранне за рыбкамі робіць чалавека больш спакойным, але яна, здаецца, яшчэ больш пасля гэтага нервавалася. Дзівачка!

Міхась таксама бачыў, што акварыум адцягваў шмат Аlінінай увагі, раздражняў яе. Суседка засяродзілася на ім, а не на гутарцы з Патронам. І таму прайграла. Відаць, "заняткі" ў гастраноме не дапамаглі, а нашкодзілі. Хто б ведаў, што нейкі карп можа вырашыць лёс чалавека! Нашкодзіць яму! І чаму жаночы розум такі ўважлівы да дробязяў? Ну, супала так, што і ў прыёмнай, як у тым гастраноме, рыбкі! Назірай за імі замілавана, калі ўжо зусім не можаш не заўважаць інтэр'ер... Успомніла б урок

**Ірына ТУЛУПАВА**



# АКВАРЫУМІСТЫКА

Аліна параўнялася з ім. Пераступаючы праз парог, мужчына проста абавязаны быў прапусціць наперад жанчыну! Яна не прапусціла яго першага, як кіраўніка.

"Мінус тры!" — мабыць, працягнуў быў сумны падлік балаў Міхась.

— Гэта будзе ваша рабочае месца, калі прымем вас у наш калектыў, — зазначыў Патрон і сеў за паўкруглым сталом на вінтавое крэсла. На крэслах, што стаялі справа і злева ад стала, бязладна валяліся розныя паперыны, Аліна мусіла апусціцца на стул, што стаяў якраз насупраць начальніка. "Мінус чатыры".

"Не зусім так, як вучыў Міхась, не злева, але ж і не справа ад Патрона, значыць, мае хваляванні ніхто не ўбачыць. Залатая сярэдзіна!" — зазначыла ў думках Аліна, пакрысе адыходзячы ад першага стрэсу, рашылася нават сказаць камплімент.

— А вы добра выглядаеце за гэтым сталом, і крэсла нібыта пад вас падбіралі!

Патрон засмяяўся. Шчыра, весела. Зірнуў, урэшце, на Міхася, нібы прапануючы яму зрабіць тое самае: ну ці не цуд гэтае наіўнае стварэнне?!

Першы раз Патрон адвёў позірк ад кандыдаткі на пасаду, і яна скарыстала момант, каб разгледзець таго, з кім давядзецца працаваць. Каб, урэшце, сказаць самой сабе — ці хоча сюды ўладкоўвацца. Крыху высакаваты, але меншы за Міхася. А вось па ўзросце гадоў на пяць старэйшы. На пяць... Напэўна, ён і працуе на пяць, калі мае ўжо сваю справу. А Міхась — толькі на чатыры. Выдатны чалавек, усё ў яго выходзіць, спагадлівы і добры, але — на чатыры. Няма таго бляску, які вызначае натуры валявыя. А ў гэтага нават падбародак — востры, крыху ўперад. Уважлівы позірк. Ад вачэй да скроняў ідуць па дзве глыбокія маршчынкі. Відаць, часта ўсміхаецца. Няшчыра? Пасада вымагае?

юць у жыцці, і сказаў сваё рэзюме. На дзіва, яно гучала так:

— Галіна Сяргееўна, вы агледзьцеся тут тыдзень-другі, пазнаёміцеся са справамі, і, калі вам спадабаецца, мы залічым вас у штат.

Нічога сабе! Гэта значыць, яна ім падыходзіць? І цяпер усё залежыць ад яе? Збянтэжаная, яна нават не паправіла імя. Што ўжо выпраўляць: калі Сяргееўна, дык няхай — Галіна!

Аляксандр Віктаравіч чамусьці не адважыўся перапытаць: Галіна альбо Аліна. Калі яна прамаўляла сваё імя, Міхась зачыніў за сабою дзверы. Патрон бачыў, як той нерваваўся, калі Галіна (яна не запярэчыла, значыць, імя правільнае) штосьці гаварыла. Можа, яна Міхасю не проста суседка, як казаў. Каханая? Так, у ёй ёсць штосьці вельмі прыемнае. Няўлоўнае. Голас ціхі і спакойны, яе прыемна слухаць. Нават калі хвалюецца. Так, яна хвалявалася, таму і няўзгабна ўсё выйшла. Але ж этыкет ведае. Гэта Аляксандр Віктаравіч зразумеў, калі дзяўчына апускалася на крэсла — не на ўсё, а на яго дзве трэція, калі падымала паперу — дзвюма рукамі, на лістку адна каля адной, калі падала руку не для пацалунку, а для поціску. Яе жэсты былі прадуманыя — яна не зрабіла ніводнага лішняга. Значыць, усё астатняе "прыкладзецца". Галоўнае, працаваць зможа.

За свае няпоўныя трыццаць пяць Аляксандр Віктаравіч пабачыў людзей, і разбіраўся ў іх. Здаралася, памыляўся, асабліва з маладымі кабетамі. Спярша яны імкнуцца паказаць сябе добрымі ды адукаванымі, а пасля аказваецца: пустыя бурбалкі. Вось і зараз на фірме сем мужчын і дзве жанчыны: Тацьцяна і Наста. Хлопцаў знайсці было проста, а жанчын — колькі "перабралі", пакуль спыніліся на гэтых! Ды і тыя... незамужнія! Праўда, недахопам гэта не назавеш — ён таксама нежанаты. Але ж...

— пра тое, што трэба ўмець бачыць прыгожае.

Гаспадыняй імкнулася стаць Тацьцяна. Яна з настойлівасцю кошкі, якую як ні адкідвай, усё роўна стане на ногі, дамагалася месца сакратаркі. Уявіце: працуе спецыялістам у аддзеле, а хоча — сакратаркай. Бо даўно пралічыла: ад сакратаркі ў прыёмнай да гаспадыні ў кабінеце Патрона — усяго толькі адны дзверы, якія пры належным спрыце можна адчыняць насцеж альбо шчыльна зачыняць. А спрыту ў яе хопіць! Як цэлаахоўнік Аляксандра Віктаравіча, Міхась бачыў ліслівыя захады гэтай бессаромніцы да Патрона. Акрамя жадання мець як мага больш грошай, за імі анічога не было.

Да гонару Аляксандра Віктаравіча, ён ніяк не зважаў на заляцанні Тацьцяны, што ж да Міхася, дык яго думкі займала Наста. Яна хоць і была ў гурце, але трымалася паасобку ад усіх. Міхась толькі для Насты прыдумаў легенду пра сябе і Аліну. Можа, хоць бы крыху прыраўнавала, і тады... Для яго, урэшце, пачнася б цудоўная казка пад назваю КАХАННЕ!

Аднак, легенды не выйшла. Чым завяршылася ўчарашняя размова Патрона з Алінаю, Міхась не ведаў. Але здагадваўся, што нічым добрым. Каб не расчароўваць дзяўчыну, ён знарок не пайшоў да яе распытвацца. А сёння, прыдумаўшы мудрае выслоўе, перад тым, як ісці ў офіс, пазваніў у яе дзверы:

— Прывітанне! Не засмучайся: у жыцці, ведаеш, бывае так, што лепшыя людзі мусяць прайграваць!

— Ну, як я выглядаю? — замест адказу шчаслівая Аліна пакруцілася перад ім у новай сукенцы. — За ноч пашыла з чорнага паркалю. Доўга ён чакаў свайго часу!

— Гэта што: "чым горай на душы, тым лепш выглядаць хочацца?" — начы-

таўшыся афарызмаў, Міхась ніяк не мог уцяміць, што за перамены адбыліся з Алінаю.

— Ды не! Не магу ж я і сёння паказацца твайму Патрону ва ўчарашнім касцюме. Гэта правіла дрэннага тону! Таму і карпела ўсю ноч над швейнаю машынкаю.

— Ты хочаш сказаць...

— Што ты, Міхаська, самы лепшы чалавек на свеце! Ты на працу? — яна ўзяла яго пад руку, зачыніла дзверы і па дарозе ўжо распавяла пра ўсё, што адбылося ў прыёмнай. Асобна — пра "запрашэнне" Патрона. — Вось, цяпер, значыць, усё залежыць ад мяне: захачу ў вас працаваць — буду, а не — дык вычакайце! Тыдзень мне на роздум!

Калі яны разам, пад руку, увайшлі ў офіс, Наста якраз уздымалася па лесвіцы з папкаю дзелавых папер, падрыхтаваных для Патрона. Паклала, як звычайна, на сакратарскім стале, кінула вокам на Міхася з незнаёмкаю і выйшла.

Тацьцяна каралеваю прайшлася праз прыёмную, адчыніла адзіныя дзверы, якія па-ранейшаму аддзялялі яе ад Патрона і... сумеўшыся, выскачыла адтуль. Хоць, як заўсёды, "стала на ногі".

— Аляксандр Віктаравіч сказаў патлумачыць вам сутнасць пытання, з якім я да яго іду... Каб вы, даражэнькая, хутчэй увайшлі ў курс спраў. — Яна да таго мякка спала, што Аліна зразумела: з такою на працы не заснеш. Толькі паслабіш увагу — абавязкова напаскудзіць.

"Ну, не патлумачыць сутнасць пытання, а далажыць! Пэўна, табе так сказалі!" — усміхнуўся сам сабе Міхась, добра ведаючы характар Патрона.

Патрону ж вельмі надакучылі Тацьцяніны візіты ў яго кабінет. Ён міжволі супрацьўляўся націску гэтай тыгрыцы, разумеў, што калі дапусціць промах, то прайграе: і ў справах, і ў асабістым жыцці. Бо яна, дай толькі зачэпку — жэніць на сабе, і не агледзішся. Ён пачынаў верыць, што ўсе жанчыны такія скваплівыя, ліслівыя, празмерна рацыянальныя. Нікуды не хадзіў, нічога, акрамя работы, не бачыў, і нават на месца сакратаркі гатовы быў узяць хлопца, калі б такі знайшоўся. Аліна хутка асвоілася. Пакуль ішла ранішняя планёрка, яна парасстаўляла рэчы так, каб ёй было зручна імі карыстацца, развесіла дэкаратыўныя пано, якія прынесла з сабою і... прыёмная адразу стала ўтульнаю. "Вось, і ў мяне ёсць невялічкі кабінет", — Зазначыла ў думках, хоць і разумела, што пакой, праз які увесь дзень будуць шморгаць людзі, цяжка зрабіць "свайм". Ды яна пастараецца. Аліна была з тых людзей, якія любілі камфорт, але хутка прыстасоўваліся да іншых. Яе характар быў насамрэч вытканы з супярэчнасцяў. І таму вельмі баялася, каб яны, гэтыя супярэчнасці, неспадзявана не праявіліся на фірме.

Так і адбылося. Калі пачалі прыходзіць наведвальнікі, Аліна зноў успомніла пра акварыум. Мітусня ў офісе нагадвала пра яго. Людзі, быццам кінутыя ў адну вадкасць, павінны былі плаваць у ёй, змагацца за выжыванне, адстойваць сваё... Акварыум тут, у пакоі, быў размешчаны ў такім месцы, што станавіўся своеасаблівай "рамкаю" для дзелавых партнёраў, калі яны падыходзілі да сакратаркі, называлі сваё прозвішча. Шкляныя сцэны былі вялікія, людзі "памяшчаліся" ў шкляной пасудзіне, як той карп. У сваёй большасці сівыя і шэрыя, кампаньёны не выклікалі сімпатый і не надавалі аптымізму... Таму акварыум з яго напамінам пра гастраном, пра простых, зашмальцаваных жыццём пакупнікоў, пра шэрасць і здольнасць людзей нават прыгожае зрабіць абыякавым, у прыёмнай перашкаджаў.

А тут яшчэ ў Патрона пашкодзілася ўнутраная радыёсувязь, і кожнага новага субяседніка дзяўчына павінна была называць, уваходзячы ў яго кабінет. У адзін з такіх момантаў, калі яна затрымалася больш звычайнага, вярнуўшыся да свайго стала, не знайшла на ім... тэлефона. Апарат нехта знёс, акуратна адключыўшы яго ад сеткі.

Гэта Тацьцяна далажыла Патрону, што новая супрацоўніца не спраўляецца. "Бачыце, Аляксандр Віктаравіч, а калі б не я — хто-небудзь іншы знёс тэлефон?! Яна не вытрымала нават першай праверкі!" "Бач, якая пільная! Спачатку ўкрала, справакавала непрыемную сітуацыю, а пасля падала гэта за клопат пра фірму і маёмасць!" — Патрон зазлаваў, але, як заўсёды, не падаў выгляду, што зразумеў сапраўдныя прычыны такой "праверкі". І, не звярнуўшы ўвагі на Тацьцяніны перасцярогі, у канцы рабочага

(Заканчэнне на стар. 12)

гуле стала вялікай праблемай. Тэатр рупліва сочыць за творчасцю маладых драматургаў – лепшыя іх творы імгненна атрымліваюць сцэнічнае ўвасабленне. Прыклад з апошняга часу: п`еса пяцікурсніка Беларускай акадэміі мастацтваў Андрэя Шчуцкага "Каласнікі", якая заняла другое месца на конкурсе п`ес для драматычнага тэатра, што праводзіўся Міністэрствам культуры пад дэвізам "Чалавек і грамадства". Прычым на пастаноўку гэтай п`есы ў тэатр быў запрошаны адзін з самых цікавых сучасных рэжысёраў Вітаўтас Грыгалюнас. (У адным з наступных нумароў мы абавязкова падзелімся ўражаннямі ад гэтай прэм`еры).

Вечарына такога мабільнага і маладога тэатра не магла не стацца яркай і сапраўды творчай. Узяўшы за аснову Воландаўскі баль са славутых "Майстра і Маргарыты" і пазычыўшы персанажаў са "Звычайнага цуду" Яўгена Шварца, акцёры на чале са сваім каранаваным мастацкім кіраўніком прымалі віншаванні гасцей: дэлегатаў ТЮГа, Тэатра кінаакцёра, Тэатра імя М. Горкага, Лялечнага, Маладзёжнага тэатраў; Саюза тэатральных дзеячаў, пасольства Арменіі і гарадскога клуба аматараў тэатра "Таленты і прыхільнікі". Як на любым дні нараджэння, не абышлося без падарункаў: самым незвычайным з іх стаў кубаметр лесу, выдзелены спонсарамі на пастановачныя патрэбы тэатра, а самым ганаровым – граматы Міністэрства культуры, якія атрымалі вядучая актрыса тэатра Людміла Сідаркевіч і дырэктар-распарадчык Павел Палякоў, і вышэйшая ўзнагарода міністэрства за вялікі асабісты ўклад у развіццё тэатра, уручаная ўлюбёнцу гледачоў Ігару Сігову. Звыш таго, намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, які, дарэчы, таксама ў свой час стаяў ля вытокаў гэтага тэатра, паабяцаў яму ад імя міністэрства грант на новую пастаноўку і чэрвеньскія гастролі ў Румыніі.

Далучаючыся да віншаванняў і ўсіх цёплых слоў, што прагучалі падчас вечарыны, я ў сваю чаргу хацела бы таксама пажадаць творчага плёну свайму ўлюбёнаму тэатру, яго цудоўным маладым акцёрам і дзейнаму кіраўніку. Не губляйце і надалей свайго запалу і вялікага жадання працаваць. І тады мы, гледачы, заўсёды будзем ад вас у захапленні.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Жанчыны Бергмана".*

---

**ГУРТЫ**

# СЯРЭДНЯВЕЧНАЯ... ДЫСКАТЭКА

**Адным з адметных і знакамітых гуртоў, што граюць сярэднявечную беларускую музыку, лічыцца "Стары Ольса", і гэта невыпадкова. Сабраўшыся ў 1999 годзе, музыкі адразу ж пачалі актыўна і прадуктыўна дзейнічаць. Удзел у міжнародных фэстах "Белы замак", "Наваградак-2000", "Наваградскі замак", у І-м Нацыянальным рыцарскім турніры, фестывалі "Рок-каранацыя"; запіс альбомаў "Келіх кола", "Вір", "Verbum"; удзел у зборніку "Легенды Вялікага Княства", – усё гэта і многае іншае толькі за чатыры гады!**

"Стары Ольса" – адзіны на Беларусі і па складзе інструментаў, і па стылі аранжыровак. Удзельнікі гурта граюць на старажытных беларускіх дудках, дудзе, ліры, кантэле, гуслях, лютні, варгане, акарыне, берасцяной трубе, мандаліне, арабскім барабане ды інш., спалучаючы іх з гітарай, флейтай і барабанамі. І на ўсіх гэтых інструментах, уявіце сабе, граюць толькі пяць чалавек: стваральнік і кіраўнік гурта Зміцер Сасноўскі, Ілля Кубліцкі, Кацярына Радзівілава, Аляксандр Чумакоў і Андрэй Апановіч.

Зміцер Сасноўскі ўдакладняе:

**— Некаторыя з нашых інструментаў – дакладныя копіі старажытных аналагаў. Напрыклад, у нас ёсць лютня, якую зрабіў майстра Юры Дубнавіцкі. Ён выкарыстоўваў той жа матэрыял і тыя ж тэхналогіі, што і майстры XVI ст. Ёсць і сапраўдныя інструменты, на якіх калісьці гралі старажытныя прыдворныя музыкі.**

"Стары Ольса" вядомы як у нас на Беларусі, так і за мяжой, бо даваў сольныя канцэрты ў Маскве, Сыктыўкары, Вільні, у краінах Захаду. А гэтай вясной удзельнікі гурта правялі канцэрт, падобнага якому ў іх гісторыі яшчэ не было. Яны наладзілі так званую сярэднявечную дыскатэку ў мінскім клубе "Тунель".

Кіраўнік гурта кажа:

**— Мы назвалі гэтае мерапрыемства сучасным словам "дыскатэка", каб людзям было зразумела, што іх чакае. 5 стагоддзяў таму гараджане і шляхта танцавалі пад гэтую музыку, і сення іх нашчадкі таксама маюць магчымасць пад яе таньчыць. Увогуле, гэтая вечарына для нас — адкрыццё, бо мы ніколі не рабілі канцэртаў, разлічаных на тое, каб людзі танцавалі, пілі піва і адлачывалі такім чынам.**

Музыкі пачалі граць, і ўжо ніхто не змог утрымацца ад танцаў. І ў хуткім часе на пляцоўцы вадзілі карагоды, таньчылі па парах і ў гуртах. А дапамагалі развучыць старажытныя танцы ўдзельнікі клуба "Майстат" пад кіраўніцтвам Арыны Вячоркі. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты былі апранутыя ў сярэднявечныя строі, якія пашылі самі. Ужо некалькі гадоў яны займаюцца ў рыцарскім клубе, дзе вывучаюць і старажытныя танцы.

Сяргей Голік, удзельнік клуба "Майстат", тлумачыць:

**— Мы невыпадкова ўзялі ўдзел у гэтай вечарыне. Такія імпрэзы для нас звычайныя. Мы часцяком наведваем розныя сярэднявечныя фэсты, турніры і канцэрты. Напрыклад, нядаўна былі на рыцарскім фестывалі "Белы Замак". А ў клубе "Тунель" сабраліся, каб навучыць усіх, хто прыйдзе, выконваць сярэднявечныя танцы.**

Дыскатэка прывабіла неверагодную колькасць моладзі, сярод якой можна было заўважыць сапраўдных аматараў сярэднявечнай культуры: доўгія валасы, скураны абутак, прасторнае адзенне з ільну ды іншых натуральных тканін, што імітуе старажытнае, адпаведныя бранзалеты, кулоны, брошкі...

Зміцер Сасноўскі дадае:

**— На самай справе сярод нашых аматараў шмат даволі сталых людзей, але на гэтую дыскатэку прыйшла маладзейшая частка нашай аўдыторыі. Мы вырашалі, што будзем арганізоўваць такія дыскатэкі як мага часцей. Час падзіць не толькі фолкдыскатэкі, але і такія вось гарадскія сярэднявечныя.**

Гучалі творы з "Віленскага сшытка", беларускія цырыманіяльныя танцы, застольныя песні і старажытныя балады. Некаторыя з кампазіцый услаўлялі Бога, іншыя апявалі ВКЛ і яго князёў, а былі творы, прысвечаныя піву. Бо, як кажуць удзельнікі гурта, нашы продкі любілі піва нават больш чым мы, і ў кожным доме абавязкова была хаця б адна бочка папулярнага напою.

Апошнім часам у Мінску праходзіць усё больш імпрэзаў такога кшталту. Прычым вялікую частку аўдыторыі складае моладзь, якая цікавіцца беларускімі традыцыямі і звычаямі. Вось і атрымліваецца, што старажытная культура — не толькі наша мінулае, але і наша будучыня.

**Юлія ПАПОВА**



**НА ЗДЫМКУ: "Стары Ольса".**

---

звычайны. Перадусім таму, што рэжысёр запрасіў у карціну не сваіх, "фірменных" акцёраў (Л. Ахеджакаву, В. Волкаву, А. Басілашвілі і інш.), а вельмі папулярных, "раскручаных" цяпер у Расіі маладых артыстаў Я. Крукаву, М. Фаменку, С. Макавецкага, С. Бязрукава, Н. Шчукіну, У. Сіманава, якія цудоўна ўвасобілі на экране камедыю "палажэнняў". І яшчэ, самае цікавае, што сам Разанаў сыграў у сваім фільме эпізадычную ролю са словамі (у папярэдніх сваіх стужках рэжысёр з'яўляўся ў кадры амаль заўсёды моўчкі, толькі на некалькі хвілін). Атрымалася смешна, лёгка, відовішчна, з экскурсам у папярэднія разанаўскія стужкі (сюжэтная мітусня якраз і пачынаецца з таго моманту, калі адзін з герояў, падвыпіўшы, трапляе не ў сваю кватэру). Пасуе "Ключу ад спальні" і тое, што ён зроблены ў стылі нямога кіно, з цікавымі экраннымі каментарыямі да большасці падзей (напрыклад, абрыў паказу палкай эратычнай сцэны стваральнікі фільма з гумарам тлумачаць павольнасцю камеры, якая не паспела "падглядзець" самае галоўнае ў віры сюжэтных калізій).

І хаця ўсе героі фільма, стылізаванага пад нямое кіно, размаўляюць, акцёры ўсё ж імкнуцца больш да гульні мімікай і жэстамі, вымаўляючы свае маналогі часам штучна, патэтальнаму. Як і ў папярэдніх разанаўскіх фільмах, большасцю герояў захапляешся: у "Ключы ад спальні" з цікавасцю сочыш за ўчынкамі і бясклапотнага паэта-дэкадэнта Іваніцкага (С. Макавецкі), і летуценнага, наіўнага прафесара-арнітолага Марусіна, знешне падобнага на Чэхава (С. Бязрукаў), і нахабнага, баязлівага мануфактуршчыка Вахлакава (М. Фаменка), і прыгажуні Аглаі (Я. Крукава), якая шукае шчасця і кахання ў абдымках ці то мужа, ці то Вахлакава, ці то Марусіна, выбіраючы ўсё ж... інтэлігента ў акуляра. На гэты раз Э. Разанаў не шукае недахопаў у рэчаіснасці, а, як і заўсёды, — у чалавечай душы. І гледачы зноў смяюцца (скрозь слёзы) над сабой пад гукі меланхалічных рамансаў (музыка А. Пятрова), напісаных на вершы паэтаў Срэбранага стагоддзя.

Хочацца адзначыць цудоўную работу мастакоў-пастаноўшчыкаў А. Барысава і Л. Свінціцкага (у другой частцы фільма дзеянне разыгрываецца на дачы, на беразе Фінскага заліва, будучы аздобленым маляўнічымі, настраёвымі кінакадрамі) і мастака па касцюмах Н. Іванову, якія разам з рэжысёрам зрабілі даволі вясёлую "фільму"...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

---



# СВЕТЛАЦЕНІ АЛЕГА ДРАБЫШЭЎСКАГА

Трэба адзначыць тое, што Алегу Драбышэўскаму з самага ранняга дзяцінства было наканавана лёсам стаць мастаком-пейзажыстам. Гэтаму спрыялі маляўнічыя мясціны ў Гудагаі на Астравеччыне, дзе ён нарадзіўся і вырас.

Як ні дзіўна, таленавітаму ад прыроды юнаку, самародку з далёкай вёскі, што была на "краі свету" не знайшлося месца ў вышэйшай мастацкай навучальнай установе, куды ён двойчы імкнуўся паступіць у 1970 і 1971 гадах.

Свой працоўны шлях Алег Драбышэўскі пачаў як мастак у Астравецкай раённай мастацкай майстэрні. Потым ён становіцца студэнтам БДУ, каб жыць у Мінску, каб наведваць, хаця б у якасці вольнаслухачога, заняткі па малюнку, кампазіцыі, жывапісу ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Вялікі ўплыў на творчасць А. Драбышэўскага аказалі тагачасныя мастакі, мастацтвазнаўцы і асабліва яго зямляк, мастак, выкладчык БДТМІ В. Александровіч.

Затым А. Драбышэўскі працягнуў вучобу ў іншых навучальных установах, атрымаў прафесію кіраўніка выяўленчай студыі, мастака, выкладчыка сусветнай мастацкай культуры.

У выстаўках мастак пачаў удзельнічаць яшчэ ў 1970 годзе, а персанальныя яго выстаўкі пачаліся толькі з 2000 года.

А. Драбышэўскі жыве і працуе ў Мінску. Аднак мастак наведаў са сваімі карцінамі многія куточкі Беларусі, адраджаючы тым самым традыцыі мастакоў-перасоўнікаў. З вялікай цікавасцю, цеплынёй і ўдзячнасцю прымалі пейзажы А. Драбышэўскага ў Астраўцы, Маладзечне, Заслаўі (вернісаж быў арганізаваны ў рамках Першага фестывалю камернай музыкі "Заслаўе 2001"), Глыбокім, Рымдзюнах .

У сакавіку 2003 года амаль месяц у галерэі "Імкненне да гармоніі" Беларускай дзяржаўнай акадэміі фізічнай культуры праходзіла выстаўка пейзажаў А. Драбышэўскага "Прыроды вечнай чараванне...", якая мела статус міжнароднай.

У прэзентацыі выстаўкі прынялі ўдзел паслы і консулы, супрацоўнікі прадстаўніцтваў васьмі краін свету.

"Творчасць Алега Драбышэўскага, — адзначыў прафесар, доктар філалагічных навук, зямляк мастака Адам Мальдзіс, — прасякнута аптымізмам, святлом, сонечнасцю, празрыстасцю, цеплынёй. І колеры ў яго нясуць дабро і супакаенне, што вельмі важна ў наш крызісна-дыскамфортны час. І колеры-фарбы мастак пераважна бярэ з канкрэтных мясцін — сваёй Малой Радзімы Астравеччыны, агульнай для нас абодвух. І таму гэта — увасабленне патрыятычных пачуццяў. Здзіўляе, чаму Алег Драбышэўскі, які мае столькі твораў, удзельнічаў у стольких выставах, яшчэ не сябра нашага Саюза мастакоў".

Спецыялісты, аматары жывапісу характарызуюць творчасць мастака як "прасветла-чыстае мастацтва". Аналізуючы пейзажы А. Драбышэўскага, мастацтвазнаўца Г. Багданава адзначыла, што ён піша не проста карціны — ён піша паэзію сваёй зямлі (часопіс "Беларусь", 2001, № 10).

У выдавецтве УП "Тэхнапрынт" выйшлі альбом твораў А. Драбышэўскага і каляровы шырокафарматны каляндар, буклет. У гэтых выданнях прадстаўлены многія пейзажы аўтара. Альбом знаходзіцца ў буйнейшых бібліятэках Беларусі, ЗША і краін Еўропы.

Галоўнымі рысамі творчасці Алега Драбышэўскага з'яўляюцца непасрэднасць успрымання прыроды, лірызм і тонкасць увасаблення яе прыгажосці. Яго рэалістычныя пейзажы прасякнуты рамантычным настроем, элементамі імпрэсіянізму. Мастаку ўдаецца дасканала перадаць каляровую гаму, дэталі, што робіць яго карціны непаўторнымі.

**Н. К.**



Малінавы звон



Астравец. Кладка Зарэцкіх

# ПРЫМІЦЕ ВІНШАВАННІ

**Аднаму са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Васілю Уладзіміравічу Івашыну 9 мая споўнілася 90 гадоў. Доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік АПН СССР, ён нарадзіўся ў в. Ляхавічы Дзяржынскага раёна на Міншчыне. Закончыў Мінскі транспартна-эканамічны тэхнікум, літаратурны факультэт Мінскага педінстытута. Выкладаў у Віцебскім педвучылішчы, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Быў выкладчыкам Рэспубліканскай партшколы, закончыў аспірантуру Інстытута літаратуры АН БССР (у 1949). Працаваў у гэтым інстытуце, быў дырэктарам НДІ педагогікі Міністэрства асветы БССР (1967—1978), старшым навуковым супрацоўнікам-кансультантам гэтага інстытута. Мае шматлікія ўрадавыя ўзнагароды. Член Саюза пісьменнікаў з 1954 года.**

**Напісаў манаграфіі, прысвечаныя творчасці Я. Купалы, М. Горкага, даследаванню метадаў сацыялістычнага і крытычнага рэалізму, літаратурных узаемасувязей, і інш. Аўтар падручнікаў для школ. Удзельнік некалькіх Міжнародных з'ездаў славістаў. Паэт-лірык, які пачаў пісаць вершы ў сталым узросце.**

**Віншуючы вядомага літаратуразнаўца і педагога з юбілеем, лімаўцы зычаць яму яшчэ доўга працаваць на літаратурнай ніве.**

•

**20 мая сваё 80-годдзе адсвяткуе пісьменнік Анатоль Кузьміčоў. Ён нарадзіўся на Тульшчыне, удзельнічаў у падзеях Вялікай Айчыннай вайны. Быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Литературная Грузия" (1957—1959), вучыўся ў Літінстытуце імя М. Горкага ў Маскве. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Сябра Саюза пісьменнікаў з 1952 года. Піша на рускай мове. Празаік і драматург. Аўтар п'ес "В нашем полку", "Возвращение", "Орлиный перевал", "Одиннадцатый класс" і інш. Дэбютаваў у друку вершамі. Працуе ў жанры дакументалістыкі, піша нарысы ваенна-гістарычнай тэматыкі, перакладае з грузінскай і армянскай моў на рускую.**

**Віншуем з юбілеем, жадаем здароўя і плёну.**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

**Шмат цікавага чакае слухачоў у традыцыйных аўтарскіх праграмах "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне". Іх вядучыя Навум Гальпяровіч, Святлана Шаліма, Галіна Шаблінская, Ірына Шаўлякова пазнаёмяць са сваім поглядам на падзеі літаратурнага, тэатральнага жыцця, далучаць да сустрэчы са слухачамі вядомых і пачынаючых літаратараў. Пачатак аўтарскіх праграм — як звычайна, у 22 гадзіны 30 хвілін, пачынаючы з аўторка. Штодзень пасля паўночы — "Кароткія гісторыі". У суботу, у 10.45 — "Літаратурны праспект" (навіны літаратурнага жыцця разам з Алесем Бадаком), у нядзелю ў 17.00 — у праграме "Клас і К" — сустрэча ў жывым эфіры з пісьменнікам, які адказвае на пытанні Маргарыты Прохар.**

**Насычана літаратурнымі перадачамі і праграма канала "Культура". У панядзелак у 11 гадзін у "Клубе дамаседаў" на працягу тыдня — чытанне ў жывым эфіры аповесці У. Караткевіча "Лісце каштанаў". У аўторак з 14.10 і да 17.00 Галіна Шаблінская будзе мадэратарам аўтарскіх праграм і ўласнай праграмы "Гаспода". У 17 гадзін — "З фондаў радыё". Прагучаць радыёкампазіцыя па творы А. Астрэйкі "Прыгоды дзеда Міхеда" і старонкі аповесці З. Бядулі "Салавей". У пятніцу, у 17 гадзін — радыёспектакль. І. Катлярэўскі "Анеіда". У суботу паўтор праграм "Сентыментальнае паляванне" (9.00), "Гаспода" (10.10), "Брама" (15.45). У нядзелю ў 19.00 — "Тэатр перад мікрафонам". В. Вітка "Шчасце паэта". Радыёспектакль. Я. Колас. "Дзядзькаў сведка". Апавяданне.**

**Н. К.**

# АКВАРЫУМІСТЫКА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8)**

дня сабраў усіх, падзякаваў Галіне Сяргееўне: яна ўпарадкавала рабочы дзень кіраўніка, "дзякуючы гэтаму ён разгледзеў больш пытанняў і ўвогуле, не так стаміўся!."

Але назаўтра Аляксандр Віктаравіч усумніўся ў сваіх спадзяваннях на Галіну Сяргееўну, яна падалася зусім іншаю, не падобнаю на той вобраз, які ён намаляваў у думках. І, як гэта часта бывае, сам сябе паўшчуваў за тое, што не надаў значэння словам пільнай Таццяны. "Можа, дзяўчына, сапраўды не можа засяродзіцца" Ва ўсякім разе, зараз яна глядзела невідушчымі вачыма ў акварыум і зусім не займалася сваім. Паперы былі параскіданыя па кабінеце, як быццам сакратаркі тут не было зусім. Вось без дзвюх мінут дзевяць — пачатак прыёму. Дазволіць жа беспарадак у такі час — значыць, страціць самае малое аднаго кліента. Па правілах этыкету ўсе наведвальнікі павінны прыходзіць за пяць мінут да прызначанага часу, каб прывесці сябе да ладу. А тут, у прыёмнай, такі бедлам! Віктар Аляксандравіч як гаспадар не мог паказацца непадрыхтаваным да размовы.

— Галіна Сяргееўна! Добрай раніцы! — каб быць пачутым, ён яшчэ памахаў рукою перад яе тварам. Дарэмна: дзяўчына была нібыта за шкляной заве-сай.

Віктар Аляксандравіч зірнуў у запісы: у 9-00 прыйдзе кампаньён, які паабяцаў танную сыравіну. Наступнай, на 9-20 запісаная Таццяна! Зноў будзе паказваць сваю адданасць фірме! Як гэта надакучліва, калі без выкліку да цябе прыходзяць твае ж супрацоўнікі. Таццяна яна з заўсёднымі парадамі ўсё заблытвае. А яе нататкі "Па паляпшэнні работы аддзела" з'яўляюцца, як апалонікі ў сажалцы. Як і ад хвастатых пачвар, шуму ад такога вышуку няшмат, але патрабуюцца высілкі, каб усё гэта спачатку выслухаць, затым праверыць, абдумаць. І самае брыдкае, што "рацпрапанова" прыдумваецца дзеля таго толькі, каб Таццяна магла яшчэ паказацца яму, Патрону, на вочы.

Здаецца, быць лісьлівай, імкнуцца, каб упадабаў Патрон, павінна была б Галіна Сяргееўна. Ёй патрэбна работа, гэта ясна. Вельмі разгублена яна выглядала пры першай сустрэчы. Але дзяўчына, здаецца, нічога не робіць, каб пра яе складвалася добрае ўражанне. Вось і сённяшні позірк у нікуды. У нікуды? Ды не, яе ўвагу ўвесьчасна займае гэты акварыум! Залатыя рыбкі ў ім, як сплюшчаныя камбалы. Што ж там цікавага? Трэба будзе пераставіць яго ў іншае месца.

"Як страшна боўтацца ў скаламучанай вадзе, тануць у тым, чаго не разумееш, і быць выцвілай — толькі ад таго, што нехта замест рачное вады наліў табе хлараванай..," — разважаючы пра сэнс свайго быцця, Аліна пачынала новы дзень на гэтым месцы. І ведала: у яе ёсць незычліўца! Ну і няхай. Рэдкія цені ад распін у паглыбленнях акварыума нагадвалі пра іншы, прыхаваны і нябачны, свет сярод жывых істот. Як было б добра, каб не было дваістасці! Калі ў кожнай рэпліцы трэба чуць не тыя словы, што прагучалі, а нявыказаныя.

— Будзем сяброўкамі! — прапанавала, знаёмячыся, Таццяна. — Нас, дзяўчат, на фірме так мала: будзьма трымацца разам!

— За што трымацца? Ці за каго? — пасмяялася тады Аліна.

У сяброўкі Галіна Сяргееўна выбрала сабе Насту. Так ёй і сказала, як Патрон назваў:

— А можна проста Галіна!

— Не, да вас трэба звяртацца афіцыйна, вы ж сакратарка! Калі што, Галіна Сяргееўна, я ў кабінеце нумар тры, побач з Міхасёвым.

— Каб ведалі вы, як ён надакучае мне дома! Мой сусед курыць на лесвічнай пляцоўцы, і дым ад яго цыгарэт прасочваецца ва ўсе кватэры!

Аліна пакрыўдзілася на Міхася, што той зрабіў яе "легендаю" для Насты, і тым самым пазамінаў дзявочаму сяброўству. Таму зараз сваім выглядам і рэплікамі імкнулася паказаць: яна зусім не пасягае на сэрца целаахоўніка, яны проста сябры! — Галіна Сяргееўна, паклічце, калі ласка, Міхася! — вызірнуў са свайго кабінета Патрон. Аляксандр Віктаравіч упершыню, здаецца, быў удзячны лёсу за тое, што Міхась павінен быць амаль увесьчасна пры ім. Таму забаўляцца размовамі з дзяўчатамі, і з Галінай Сяргееўнай таксама, не зможа. Такім чынам, яго, Аляксандра Віктаравіча, шанцы, і шанцы Міхася былі амаль роўныя. Аляксандр Віктаравіч наўмысна адключыў мікрафон унутранай сувязі, зрабіў выгляд, нібыта яна, радыёсувязь, не працуе. — І распарадзіцеся, каб гэты акварыум (ён кіўнуў туды, дзе праз мільгатлівую ваду былі ледзь бачныя абрысы сонных рыбак) пераставілі ў пакой майго целаахоўніка! — гэта была першая "пстрычка" Міхасю. Калі ЯЕ акварыум раздражняе, то разам непрыязнь перанясецца і на гаспадара гэтага "раздражняльніка".

Аліна пачала ахвотна працаваць. Яна ў імгненне вока — па жэстах, міміцы, па рэпліках — ацэньвала намеры наведвальнікаў, і была б яе воля... палову з дармаедаў не дапускала б да Патрона. Ад іх толькі шум ды тлум. Поспех фірмы ад іх не залежыць, і яны анічым не могуць памагчы. Навошта ходзяць?

Інача паводзіліся супрацоўнікі. Яны ішлі "па-за рэгламентам". Асабліва ж Таццяна, якая вымагала Патрона прымаць яе кожны дзень, а, бывала, і па некалькі раз на дні. Наста зрэдку падыходзіла, каб нешта ўдакладніць, і аддалялася ў свой пакой. Паперы перадавала з поштай, праз прыёмную, у якой, падавалася, вельмі баялася сустрэцца з Міхасём. Міхась хадзіў за Аляксандрам Віктаравічам, амаль ступаючы яму на пяты (пасада вымагала).

Міхась, як толькі прынеслі ў яго кабінет акварыум, адразу здагадаўся пра намеры Аляксандра, і ўсміхнуўся, радуючыся за Аліну. Гэта ж трэба: заўзятага халасцяка прываражыла! Што ж, калі тут, здаецца, усё нападжваецца, трэба і самому пра сябе паклапаціцца: нешта Наста засумавала, яшчэ больш аддалілася.

Калі пасля работы Міхась зайшоў да Насты, з ёю ўжо было Аліна. Дзяўчаты пілі каву і весела смяяліся. З таго яшчэ, што цяпер целаахоўнік Міхась па штаце і за рыбкамі павінен назіраць. Што ж, няхай ахоўвае ўсю нашу жыццёвую прастору!

— Дык ты, Міхаська, галоўны вадзяны!

— Будзеш рыбай-меч у нашым офісе-"акварыуме"!

— А пакуль паназірай за звычкамі рыбак ды навучыся шукаць у іхнім свеце нешта прыгожае! — Аліна брала рэванш, і Міхась здагадаўся: дзяўчаты пасябравалі, і яго асабісты "план", магчыма, выкрыты.

— Дарэчы, ці ведаеш ты, Міхаська, пра Настачкіна хобі? У яе дома цудоўны выбар хатніх рыбак! Табе абавязкова трэба іх паглядзець! Патрон не стане абы-каму даручаць жывых істот! Не ляпні тварам у гразь! — Аліна, здаецца, была на вышыні свайго поспеху, гэта рабіла яе шчаслівай. І яшчэ больш шчаслівым пачуўся Міхась, калі заўважыў прыязную ўсмешку Насты.

— Ну, калі так, то далажу Патрону, што заўтра ўвечары мы ідзём да Насты ў госці. А вы, дзяўчаткі, падрыхтуйце да сустрэчы ўсё неабходнае!

З гэтымі словамі целаахоўнік накіраваўся да Аляксандра Віктаравіча. Ад "легенды" можна было адмаўляцца.

Аляксандр Віктаравіч уважліва выслухаў, прыжмурыў вочы. Гэта азначала: навіна яму прыйшлася па душы. Аднак, каб не паказаць сваю радасць, узяў памочніка за плячо і па-філасофску зазначыў:

— Перанач уем — болей пачуем. Хадзем дадому, Міхась. Дзень скончаны, трэба да заўтра крыху адпачыць. Тым больш, што збіраемся ў госці!

"Прадбачлівы! Так яно і будзе: шмат чаго ты яшчэ пачуеш! Заўтра дзень, калі Аліна павінна сказаць сваё апошняе слова пра работу", — падумаў Міхась, злавіўшы сябе на думцы, што ён таксама не ведае добра, якім будзе адказ.

Яна, сапраўды, ніколі не працавала на прыватных фірмах.

Назаўтра раніцай, яшчэ без пятнаццаці дзевяць, Аляксандр Віктаравіч увайшоў у прыёмную з галоўнымі на гэты дзень словамі. Ён хоча, каб Галіна Сяргееўна згадзілася стаць спецыялістам у аддзеле. Яе аналітычны розум скарыстоўваць толькі для працы ў прыёмнай надта шыкоўна. Сюды знойдзецца іншая асоба. Напрыклад, Таццяна. Аляксандр Віктаравіч цяпер не баяўся яе. Таму што навідавоку цяпер іншая дзяўчына. А калі Таццяна так прагнула быць у прыёмнай, то цяпер і назаўсёды яе месца будзе там! Пры ўмове, што Галіна Сяргееўна будзе не супраць.

— Не, я не супраць. І яшчэ: мяне завуць А-лі-на! Калі ласка, паспрабуйце абысціся без Сергееўны. Для мяне гэта вельмі важна!

— Як і акварыум? — запытаўся задаволены Аляксандр Віктаравіч.

**Фота П. КАСТРАМЫ**



*Аднаму з іх летась споўнілася б 90, а другому — 80. Вядомаму заходнебеларускаму паэту Анатолю Іверсу (Івану Дарафеевічу Міско) і знакамітаму даследчыку заходнебеларускай літаратуры, таленавітаму крытыку і літаратуразнаўцу Уладзіміру Калесніку. Абодва яны любілі сваю зямлю і людзей на ёй, жыццё і літаратуру, абодва годна прайшлі нялёгкімі жыццёвымі шляхамі-дарогамі, да канца выканаўшы сваю гуманістычную місію.*

***Цягам дзесяцігоддзяў А. Іверса і У. Калесніка звязвалі цёплыя і трывалыя сяброўскія ўзаемадачыненні. Пісьменнікі шукалі духоўна-псіхалагічны мацунак у перыядычных сустрэчах і даверлівых гутарках, падтрымлівалі лістоўную лучнасць, абмяркоўвалі актуальныя грамадска-сацыяльныя і літаратурна-творчыя праблемы, знаходзячы ўсё новыя і новыя аспекты цікавасці адзін да другога. Іх сяброўства жвавілася ўзаемнай шчырасцю і дабрынёй, вернасцю духоўна-чалавечаму і літаратурнаму абавязку і прызванню, прынцыпам і нормам, першакаштоўнасцям народнага жыцця.***

***Як вядома, чалавечая доля А. Іверса была дужа нялёгкаю. У скрутную часіну, журблівую для свайго старэйшага таварыша і калегі па пяры У. Калеснік нязменна падстаўляў яму сваё надзейнае плячо, саграваў увагаю і клопатам, натхняў на жыццёвы аптымізм і творчасць.***

***Прапаную ўвазе чытачоў "ЛіМа" жменьку ўспамінаў Анатоля Іверса пра Уладзіміра Калесніка, напісаных па маёй просьбе яшчэ на пачатку 1995 года, адразу па смерці выдатнага крытыка і літаратуразнаўцы. У ёй — колькі эпізодаў сустрэч паэта і даследчыка ў Слоніме.***

**Мікола МІКУЛІЧ**

# «БУДЗЕМ ТРЫМАЦЦА БЕСКАРЫСЛІВАЙ ПРАЎДЫ...»

Добрага чалавека людзі павінны помніць вечна. Ды не толькі добрага, але сусветных злачынцаў, як Гітлер і Сталін, — таксама. Калі мы, людзі, дакладна ўсвядомім, што такое дабро і зло, то гэта будзе важным дасягненнем у жыцці чалавецтва. Перада мной ляжыць унікальная кніга "Я з вогненнай вёскі...", якую напісалі-склалі выдатныя беларускія пісьменнікі Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік. Так, у парадку алфавіта, па-дэмакратычнаму, яны паставілі свае подпісы пад гэтым веkапомным творам. І не трэба гадаць, хто з іх больш выдатны. Не трэба. Толькі дазвольце зазначыць, што здымкі людзей з вогненных вёсак па-мастацку зрабіў Уладзімір Андрэевіч у той час, як два другія майстры слова рабілі іншыя важныя справы для будучай кнігі.

І вось у 1994 годзе двух аўтараў ужо не стала. Алесь Адамовіч памёр 26 студзеня, а Уладзіміра Калесніка смерць вырвала з нашых радоў 15 снежня.

Гэтая сумная вестка застала мяне знянацку 20 снежня, калі разгарнуў "Народную газету". Ударыла як абухом. Хоць ведаў з ягонага апошняга ліста, што чалавек дагарае. Гэта розум не хоча мірыцца са смерцю, адкідае яе страшную касу як мага далей.

З Уладзімірам Калеснікам пазнаёміўся я больш за сорак гадоў таму назад, калі ён вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. Аднойчы летам завіталі да мяне ў Слонім два веласіпедысты. Гэта былі землякі Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Знаёмства адбылося вельмі хутка. Нам, як былым партызанам, было аб чым успомніць. Крыху перакусіўшы і доўга не думаючы, паехалі ў калгас імя Леніна, дзе старшынёй працаваў Іван Якаўлевіч Дабрыян, мой былы камісар атрада імя Дзяржынскага слонімскай брыгады імя Ракасоўскага.

Гэтыя два карэліцкія хлопцы збіралі матэрыял для сваіх будучых твораў і, відаць, ужо раней былі знаёмыя з Іванам Якаўлевічам. Але матэрыял матэрыялам, а на знакамітым на Слонімшчыне Бяздонным возеры грэх не пабываць, тым больш, што стаяла ціхае сонечнае надвор'е. І мы паехалі на возера. Цудоўная пагода, цудоўная беларуская прырода і не менш цудоўнае возера паклікала гасцей у ваду, каб змыць дарожны пыл і пот.

Такія сустрэчы карэнных беларускіх партызанаў, якія маглі аддаць маладое жыццё ў барацьбе за свабоду Бацькаўшчыны, пакідаюць моцнае ўражанне. Так, гэта не "казённыя", а свае хлопцы, якіх выгадавала шматпакутная родная старонка. Пра Калесніка я мог бы сказаць без засцярогі, што гэта мой родны малодшы брат, тым больш, што брат Міця загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў як народны мсцівец. Даруй, Андрэевіч, за такое смелае, аднабаковае выказванне!

Чулае сэрца мае прыцягальную сілу. Так і хацелася бачыцца з Валодзем, слухаць яго аповеды пра родную прыроду і родную заходнебеларускую літаратуру, якая дзякуючы яго намаганням, нястомнай працы ярчэй пачала праяўляцца на фоне нашага сучаснага жыцця. Я ведаў паэтаў-заходнікаў па іх вершах у тагачаснай нашай нешматлікай прэсе, але тое, што адкрываў У. Калеснік, уражвала трагічнай нечаканасцю, трагічнасцю жыцця знаёмых людзей. Паэт Алесь Салагуб, які ў Польшчы падвяргаўся рэпрэсіям, пайшоў на Усход, дзе, як пісалі левыя газеты, "будаваўся Беларускі Дом". Скажу папраўдзе, мы зайздросцілі хлопцу, што вырваўся з кіпцюроў пілсудчыкаў. Даследчык адкрыў нам камуністычную таямніцу. У Мінску Салагуба арыштавалі і ў маі 1934 года расстралялі. Засталася адна добрая памятка па Алесю — у Мінску ў 1929 годзе выйшаў яго зборнік вершаў "Лукішкі".

Уладзімір Калеснік, як ніхто іншы, фундаментальна займаўся даследаваннем заходнебеларускай літаратуры. З гэтай нагоды ў 1964 годзе ён і наведаў мяне ў Слоніме, калі я працаваў загадчыкам смалакурнага завода "Іса", што ў шаснаццаці кіламетрах ад горада.

Цяпер мой госць прыехаў на Слонімшчыну не на дапатопным ровары, а на легкавушцы невыразнага колеру, якая называлася "Масквіч-412". І гэта давала яму права адчуваць сябе больш паважным і самастойным у паводзінах. Аднак, не. Гэта быў той самы, што і раней, вясёлы і гаваркі Валодзя.

Спачатку мы агледзелі двор, агарод, а потым зайшлі ў нашу драўляную хату, у якой і зараз з жонкай жывем, у якой выгадаваўся сын і пайшоў "у людзі". На стале ўжо стаялі сціплы пачастунак з традыцыйнай беларускай чаркай...

— Ведаеш, што? — прамовіў дарагі падарожнік, — я тут адчуваю сябе так, як у роднай Сіняўскай Слабадзе.

Мне і маёй Ніне Паўлаўне вельмі спадабаўся просты і шчыры субяседнік. Аж на душы павесялела. У той падвячорак нават забыліся пякучыя словы сакратара Баранавіцкага абкама партыі Ажгірэя "Не внушаете политического доверия", якія ён сказаў па повадў звальнення з рэдакцыі раённай газеты.

З добрым чалавекам забываецца гора, павышаецца настрой. Вось з такім настроем я паклаў перад Калеснікам некалькі дзесяткаў лістоў з вершамі. Ён выбраў каля трыццаці вершаў для будучага калектыўнага зборніка твораў паэтаў былой Заходняй Беларусі "Сцягі і паходні".

— Больш не трэба, — зазначыў складальнік кнігі, — аб'ём не дазваляе. Мажліва, і гэтыя не ўсе ўвойдуць, бо кожнаму аўтару трэба даць месца.

Я як былы работнік газеты разумеў гэта і акрамя ўдзячнасці за ўвагу да маёй асобы не меў ніякіх прэтэнзій. Як выйшла з друку кніга, то ўбачыў, што там змешчана аж 19 маіх вершаў!

Позна ляглі спаць у той вечар. А заснулі толькі пад ранак — усё гаварылі. Валодзю цікавіла ўсё, што я мог расказаць пра жыццё і вучобу ў Віленскай, Клецкай і Навагрудскай беларускіх гімназіях, пра паліцэйскія праследаванні на вёсцы. І не дзіва, што цікавіла, бо хацеў падняць вялікі пласт нашай духоўнай культуры.

Раніцай, падбавіўшы ў калясо паветра ("нешта спускае"), шафёр сказаў:

— Ну, а цяпер давай пабачым, дзе там твая смольня.

Смалакурны завод "Іса" тыпу "Мінская рэторта" знаходзіўся прыблізна ў адлегласці аднаго кіламетра ад шашы Слонім — Баранавічы, калі ехаць пад прамым вуглом, а калі ехаць праз лес па дыяганалі, то крыху больш за кіламетр. Мы паехалі па прамой, па высечанай дзялянцы, на якой сям-там раслі стройныя сосны, спецыяльна пакінутыя для самаабсявання вызваленай ад лесу плошчы. Пры гэтым хачу зазначыць, што такі спосаб аднаўлення лесу не даў жаданага эфекту, бо вакол насеннага дрэва паднімаўся густы, як шчотка, сасоннік, а далей распаўсюджваўся малавартасны хмызняк.

Вось мы едзем па гэтай дзялянцы з адзінокімі хвоямі. Раптам Валодзя крычыць: "Стой!" І спыняе машыну. Я аж устрапянуўся: што здарылася? А ён выходзіць з "Масквіча", бярэ фотаапарат, выбірае пазіцыю, каб лепш сфакусіраваць і зняць тры сасны. Сапраўды цудоўна. А я амаль кожны дзень тут праходжу і не заўважыў такой прыгажосці. Вось што значыць сапраўднае вока фатографа!



На смолзаводзе ён зрабіў яшчэ некалькі фотаздымкаў, ставячы мяне ў кадр.

Назад, на шашу мы вярталіся, як я казаў, "па дыяганалі" праз лес розных пародаў лісцвяных дрэваў. І тут зноў шафёр крычыць: "Стой!" Ды на гэты раз я не спалохаўся.

— Гэта ж — прыгажосць, якую не ў кожным лесе ўбачыш, — тлумачыць Уладзімір Андрэевіч. — Ідзі па дарозе, а я падхаплю цябе на плёнку.

Неўзабаве пасля гэтага візіту У. Калеснік з Брэста прыслаў мне серыю здымкаў, зробленых у Слоніме і на смольні. Здымак з трыма соснамі "натхняў" мяне напісаць верш пад загалоўкам "Тры сасны", які разам з фатаграфіяй быў змешчаны ў раённай газеце. Сам жа Уладзімір Андрэевіч увекавечыў мяне на фатаграфіі, дзе я сяджу на калодцы каля складзеных каля плота дроў. Гэтую ілюстрацыю пісьменнік змясціў у сваёй кнізе "Лёсам наканаванае", якая выйшла ў 1982 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Там жа змешчаны партрэт маладога Гальяша Леўчыка па ўручанай мною фатаграфіі, якая вельмі спадабалася аўтару кнігі.

Нядаўна яшчэ адным вершам ("Лясныя дарогі") я адгукнуўся на здымак Калесніка, які зрабіў ён у лесе ў 1964 годзе.

Вядома, не ўсе аўтары заходнебеларускай паэзіі былі прадстаўленыя ў кнізе "Сцягі і паходні", якая пабачыла свет у 1965 годзе. Таму нястомны збіральнік не мог на гэтым спыніцца. У адным з лістоў да мяне прасіў даслаць яму, калі маю, малавядомыя творы заходнебеларускіх паэтаў для больш аб'ёмнай кнігі, якую ён рыхтуе. Тут, на жаль, я не мог нічым дапамагчы, бо прыйшоўшы з партызанскага лесу, застаў на хутары пустую хату з выдранымі на бункер вокнамі. Фашысты арыштавалі бацьку, забралі каня, карову, іншую маёмасць да апошняй паперкі.

Збіральнік дасягнуў сваёй мэты. Даволі салідная другая кніга з заходнебеларускай паэзіі "Ростані волі" выйшла ў 1990 годзе. Кнігу можна лічыць анталогіяй, дзе сабраны творы каля сарака паэтаў, у тым ліку знайшлі месца і мае восем даверасьнёўскіх вершаў. І ўсё гэта дзякуючы няўрымслівасці Уладзіміра Андрэеевіча Калесніка!

Шчырага патрыёта, выдатнага пісьменніка не пакідала думка аб выкрыцці злачынстваў, зробленых на Беларусі гітлераўскімі акупантамі. Таму і падабралася тройка энтузіястаў Алесь Адамовіч, Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Яны пабывалі ў многіх мясцінах рэспублікі, дзе фашысты акрывавілі і спапялілі Бацькаўшчыну. Пабывалі пісьменнікі і на Слонімшчыне ў пачатку сямідзесятых гадоў, гутарылі з жывымі сведкамі, якім пашчасціла ўстаць з кучы трупаў аднавяскоўцаў. Адзін дзень на рэдакцыйнай машыне я суправаджаў трох следапытаў у паездцы ў вёскі Ніз, Паўлавічы і інш.

Яшчэ адзін раз наведаў наша сціплае жытло ў Слоніме Уладзімір Андрэевіч Калеснік, на гэты раз са сваёй сяброўкай жыцця Зосяй Міхайлаўнай. Здаецца, гэта было не так даўно. Для пэўнасці прачытаў надпіс у кнізе "Янка Брыль. Нарыс жыцця і творчасці", якую тады ж падарыў мне дарагі госць. Пастаўленая дата пад надпісам сведчыць, што было гэта 21 жніўня 1991 года. Ах, як хутка бяжыць час!

Усе мы радаваліся жыццю, цудоўнаму сонечнаму дню. Жанчыны пайшлі ў агарод, каб паглядзець, што там і як расце. А мы, мужчыны, працягвалі размову, як быццам яна перапынілася ўчора. Гаварыць пра нашу Бацькаўшчыну, пра яе цяжкае становішча, пра літаратуру і мову можна бясконца. Валодзя раіў пісаць добрыя і цікавыя вершы, апавяданні і друкаваць іх хоць у раённай газеце. Праўдзівы мастацкі твор і зробіць больш, чым прапагандысцкі артыкул нядобразычліўца.

Літаратуразнавец тонка адчуваў і добра разумеў значэнне мастацкага слова. Таму і прысвяціў сваё жыццё выяўленню, даследаванню і паказу шырокаму чытачу тых скарбаў нашай пісьменнасці, якія параскіданыя па розных выданнях або знаходзяцца ў музеях і сховішчах, што недаступна шырокаму чытачу. Напісаў, акрамя падручнікаў па гісторыі літаратуры, каля пятнаццаці цікавых літаратуразнаўчых кніг. Апошняя з іх, якую мне даслаў з аўтографам, называецца "Усё чалавечае" (1993).

Перапрашаю чытача за нясціпласць. Прывяду некалькі слоў з гэтага аўтографа, у якім шмат цёплых слоў напісана мне, "ля якога я не раз грэўся душою". Думаю-думаю і не магу даўмецца, чым я мог абаграваць яму душу. Хутчэй — наадварот. Уладзімір Андрэевіч абаграваў мяне сваімі зычлівымі словамі, парадамі, папулярызацыяй маіх вершаў.

Увесь час мы перапісваліся па поваду і без повада. Асабліва ўразіў яго апошні ліст, напісаны 29 кастрычніка 1994 года. Вось што пісаў Валодзя:

"Даруй, што так доўга не адказваў табе на твой ліст і цікавую для мяне пасылку — вельмі цяжка хварэю, але ўсё ж адчуваю табе ўдзячнасць за зычлівыя словы, за тое, што ты такі ўстойлівы маральна, не паддаешся павевам усялякіх згодніцкіх і ўгодлівых уступак, якія такою лёгкаю рукою робяць за грамадскі кошт розныя вёрткія камбінатары, што і з маралі і патрыятызму робяць разменную манету і гатовы рабіць героямі ўсіх калабарантаў і прадажнікаў... будзем трымацца сваёй бескарыслівай праўды і сваёй беларускасці да апошняга дыхання".

Я пісаў Калесніку, што падрыхтаваў новы зборнік, шукаю спонсара. І вось што ён гаварыў далей у сваім лісце:

"Прыкра мне, што не магу памагчы табе ў выданні новага зборніка. Паспрабую ўскосным спосабам падзейнічаць цераз сваіх берасцейцаў".

Каментарыі да такіх слоў, як кажуць, непатрэбныя.

"Лежачы лежнем у бальніцах, каб не ўпасці духам, папраўляю па абзацу ды па паўстаронкі за дзень сваёй кнігі "Ветразі Адысея. Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі". Мне там выразалі каля трох аркушаў, выдралі цэлы раздзел пра рэпрэсіі і пра паэму "Тэстамент", напісаную ў ссылцы. Усё гэта трэба вярнуць і ачысціць тэкст ад ідэалагічных схемаў і шаблонаў, якімі прыкрываў крытыку лявацтва ў камуністычным руху. Не ведаю, ці дайду да канца. Сіл няма".

Кожнага чалавека, які без пары пакідае гэты свет, шкада, а Уладзіміра Андрэевіча — надзвычайна. За яго нястомную працу, якую штодзённа, штогадзінна ён рабіў для адраджэння Беларусі. Гэта мы, ашаломленыя страшнай весткай, на скорую руку не можам ацаніць вялікай страты, што панесла наша краіна на шляху да поўнай незалежнасці. Яшчэ прыйдзе "мужны гісторык" і паставіць імя У. Калесніка ў шэраг слаўных імёнаў нашай Бацькаўшчыны.

У маім жыцці Уладзімір Калеснік зрабіў шмат дабра, якое я таксама яшчэ не ацаніў як належыць. Скажу толькі, што ў той час, калі мяне клеймавалі ганебным тады словам "нацыяналіст", казалі "не внушает политического доверия", выкідалі з работы ў рэдакцыі раённай газеты, а таксама з гарсавета, ён знаходзіў і друкаваў мае вершы, раіў не ўпадаць у здранцвенне. Таксама казаў не лезці на ражон, але і не збочваць з жыццёвай лініі.

Дзякуй табе за ўсё, дарагі таварыш! Хай родная зямелька будзе табе пухам!

**Анатоль ІВЕРС**

# ПОСПЕХ ЗА «P.L.A.N.» АВАНЫ?

Не так даўно на сцэне музычнага клуба "Алькатрас" адбылася прэм'ера першага беларускамоўнага альбома "Blues у канцы тунеля" мінскага гурта "P.L.A.N.", кіраўніком якога з'яўляецца вядомы мас-




так, музыкант і калекцыянер беларускага авангарднага жывапісу Андрэй Плесанаў. Цікава, але свой творчы шлях музыканта спадар Андрэй пачынаў недзе разам з легендарнымі "Лявонамі", "Дойлідамі" і "Шпакамі"...І вось пасля шматгадовага маўчання гурт "P.L.A.N." выйшаў да слухачоў: спачатку з канцэртнымі выступамі на "Рок-каранацыі-2001", а пасля – з новай студыйнай працай. Як адзначыў на прэс-канферэнцыі Андрэй Плесанаў, па музычнай стылістыцы новы музычны альбом з'яўляецца кансерватыўным, што на мове музычнага андэграўнда азначае – скіраваны на рок-музычныя асаблівасці мінулага стагоддзя. І сапраўды, музычныя трэкі поўняцца амаль натуральнымі гукамі блюзавых мелодый і сола, рок-н-рольных акордаў ды рыфаў.

Свае песні А. Плесанаў стварае на тэксты паэтаў А. Бурсава, В. Лойкі, М. Адама, творчасць якіх упадабаў музыка, як найбольш пасуючую для сваіх мелодый. Але не толькі вострыя вобразы маладых складаюць паэтычную палітру твораў альбома "Blues у канцы тунеля". Андрэй звяртае ўвагу і на творчасць вядомага беларускага журналіста Вітаўта Мартыненкі. Песні на яго словы "Даміно", "Цені гісторыі", нягледзячы на дэпрэсіўнасць, напоўнены кантраверсіўным аптымізмам і сапраўднымі пачуццямі чалавека, якому неабыякавы лёс краіны і народа.

Добрымі памочнікамі ў запісе дыска гурта "P.L.A.N." сталі вядомыя музыкі гурта – гітарыст Г. Станкевіч, бубнач А. Сапоненка (якія грае яшчэ і ў гурце "KRIWI", "Гарадскія"), басіст А. Стацэнка, які шмат гадоў працаваў у фальклорным ансамблі "Харошкі". Усім разам ім удалося аднавіць (у беларускім музычным кантэксце) акустычную атмасферу, якая панавала ў 60-70 гадах. Памятаеце, калі гарманічныя вынаходкі Дж.Лі Хукера, Дж. Хендрыкса, Б.Б. Кінга і К. Сантаны "пераплаўляліся" ў цудоўныя песні і альбомы "Led Zeppelin", "The Rolling Stones", "The Animals"... Для новай жа генерацыі слухачоў, незнаёмых з блюз-рокам ці рытм-энд-блюзам, новы дыск гурта "P.L.A.N." – своеасаблівы экскурс у музычную атмасферу эпохі хіпі і сталення рок-музыкі як жанру.

Цікава, што Андрэй Плесанаў з'яўляецца пляменнікам Паўліны Мядзёлкі – знакавай фігуры для ўсёй беларускай культуры, першай выканаўцы галоўнай ролі ў купалаўскай камедыі "Паўлінка". Як сцвярджае сам музыка, менавіта гэты факт паслужыў адпраўным пунктам для фарміравання асабістага беларускага светапогляду, які паспрабаваў адлюстраваць музыка ў сваіх песнях.

Таму і наступныя альбомы гурта "P.L.A.N.", якія ўжо маюць назвы – "Жахі навокал" і "Добры дзень, Беларусь!"—абяцаюць новыя песні на словы беларускіх аўтараў, альбо песні на беларускамоўныя пераклады, накшталт, кампазіцыі "Джон-ячмень" на верш Р. Бёрнса ў перакладзе Язэпа Семяжона. Дарэчы, гэты хіт хутка выйдзе на дыску,на якім будуць сабраныя песні, прысвечаныя беларускаму піву.

Вікторыя БАРТКЕВІЧ.



# ЧЫРВОНЫ СЛОН



# ФРАУ ФЕМІДА

***Тое, што вы прачытаеце, я пішу з адзінаю мэтаю: выказаць сваё стаўленне да недарэчнасцей, альбо дзівацтваў, мякка кажучы, нямецкіх крымінальных законаў. Я не крыважэрны чалавек, але тое, што назіраю тут, у Германіі, цягам вось ужо шасці гадоў, выклікае ў мяне недаўменне. Дзеля пацвярджэння сказанага — два факты гадавой даўнасці перад тым, як падрабязна распавесці колькі нядаўніх гісторый.***

Навум ЦЫПІС





Я разумею, што ў чужы манастыр непанадна патыкацца са сваім статутам, тым больш, што "манастыр" гэты — адна з еўрапейскіх цытадэляў дэмакратыі і адзін з непарушных слупоў прававога парадку на Зямлі. Але калі дэмакратыя, дык і я маю права выказаць сваё меркаванне. Тым больш, што меркаванне гэтае — не толькі маё, гэтак жа мяркуюць многія эмігранты, якія пагаджаюцца з пастулатам: "Злачынца павінен сядзець у турме", а таксама і самі немцы-тубыльцы.

Мноства злачынстваў звязана з вялікай колькасцю эмігрантаў у Германіі. Кожны сёмы жыхар краіны — іншаземец. І значная частка злачынстваў, далёка не прапарцыянальная 15-працэнтнай колькасці эмігрантаў, здзяйсняецца акурат гэтай групай людзей.

16-гадовы турэцкі падлетак, які ўчыніў 62 злачынствы — крадзяжы, рабункі, хуліганства — быў адпраўлены на радзіму ў Турцыю. Якая бура ўсчалася ў друку! Дзіця дыскрымінуюць! Суд мяняе рашэнне: "дзіця" накіроўваюць (які ўжо раз!) на курорт на востраве Крыт у суправаджэнні выхавальніка — лячыць нервы. На гэтае мерапрыемства было выдаткавана каля 50 тысяч марак (тады яшчэ марак). Шкоду ад 62 злачынстваў не падлічвалі...

Суайчыннік першага "героя", таксама старшакласнік, "пакрыўджаны" настаўніцай, дастаў нож і шпурнуў у яе. Добра — не пацэліў. Гэтым разам не пацэліў... Калі яго забірала паліцыя (каб праз два дні вярнуць у школу: ён жа яшчэ "хлапчук", на рахунку яго — 30 правапарушэнняў) — гэты хлапчук сказаў сваёй настаўніцы пры ўсім народзе: "Я цябе яшчэ дастану, сука!"

А цяпер колькі гісторый з імёнамі, але без прозвішчаў і гарадоў; гісторый, якія патлумачаць вам, чаму я "ў чужым манастыры" не задаволены ягоным "статутам". Але перш сціслае суб'ектыўнае тлумачэнне: я тут жыву, і мне, так бы мовіць, непажаданы сусед, які гвалтуе сваю дачку, альбо сусед, які душыць бабулю з-за спадчыны.

## АДЗІН З ТРОХ — ЗАБОЙЦА

Бабулю, якой было 82 гады, задушылі падушкай. А да гэтага марылі голадам, а яна аніяк не хацела паміраць. Гэта было даказана следствам і пацверджана судом: сёння экспертыза памыляецца рэдка.

Бабуля была самай багатай жанчынай у невялікім гарадку. Шэсць гадоў назад яна, удава багатага чалавека, завяшчала ўсё, што мела, сыну і ўнуку. Атрымаўшы спадчыну, сям'я, — далучыце туды ж і нявестку, — вырашыла пазбавіцца ад бездапаможнай старой. Голад яе не браў, скразняк — таксама, тады ў ход пайшла падушка.

Факт гвалтоўнай смерці ў пракуратуры і суда не выклікаў сумнення. Адзінае, чаго не змог высветліць суд: хто менавіта забіў. І ўсіх траіх — сына, нявестку і ўнука, — адпусцілі на волю. Хоць дакладна вядома, што адзін з іх — забойца.

Сын на апошнім пасяджэнні суда патрабуе ў суддзі выкрасліць з прыгавору словы аб тым, што забойства ўчынена з-за прагавітасці. "Гэта — вы просіце, — сказаў яму суддзя, — але не абвяргаеце галоўнага, — што ваша маці забіта..." — "Але ж вы ўсё роўна не зможаце даказаць: хто забіў. Тады навошта мне гэта абвяргаць?" — адказаў сын.

У гэтым выпадку я не кіну камень у нямецкае правасуддзе: няма забойцы —няма прыгавору. Але адзін з траіх... няма такога забойцы, які б не пакінуў слядоў. Думаю, што справу нельга было закрываць. Але гэта думка дылетанта. Ёсць нямецкі суд — увасабленне дэмакратыі, справядлівасці і гуманізму...

## ЗОНА ПАВЫШАНАЙ РЫЗЫКІ

У гэтым аповедзе, магчыма, будзе больш эмоцый, чым "належыць". І гэта проста растлумачыць: я шмат гадоў адпрацаваў настаўнікам і, само сабою, не магу раўнадушна распавядаць пра гэта, — як жывецца-дужыцца маім калегам, нямецкім настаўнікам. Не, не дома, у сям'і, у побыце і не па запробках (выкладчыкі тут лічацца ў пяцёрцы самых забяспечаных прафесій), — а ў школе, дзе яны служаць працоўнаму народу, рыхтуючы яму змену, а краіне грамадзян; у школе, на сваім рабочым месцы.

Год таму назад усю Еўропу скалануў выпадак у адной з гімназій Эрфурта, дзе вучань старшага класа расстраляў больш чым дзесяць сваіх настаўнікаў...

Я штодня пачынаю дзень з чытання газет, кожны вечар гляджу тэлебачанне — рэдкі тыдзень абыходзіцца без "неверагодных, але відавочных" школьных навін. Я сустракаўся з нямецкімі перасяленцамі і рускімі эмігрантамі, якім пашанцавала ўладкавацца на працу ў тутэйшыя школы. Рэальнасць, як кажуць, пераўзыходзіць усе чаканні-спадзяванні.

Да такога факта я быў не гатовы (мяркую, вы таксама): большасць настаўнікаў нямецкіх школ маюць патрэбу ў сістэматычнай падтрымцы псіхолага. Раз на тыдзень, менш — раз на месяц ідзе настаўнік у "псіхічны" кабінет і атрымлівае ўстаноўку: псіхолаг вяртае яму ўпэўненасць і ўмацоўвае яго мужнасць. Баксёр — на рынг, барэц — на дыван, дрэсіроўшчык — у клетку з ільвом, настаўнік — у клас... Не смешна. Хутчэй журботна. Бо тое, пра што я кажу, адбываецца ў самай "паслухмянай" і "акуратнай", а таксама ў адной з самых багатых краін свету.

Пісьмы, тэлефонныя званкі, інтэрнет-тэлеграмы: "Яшчэ раз зробіш заўвагу, і я цябе прыкончу", "Не прыходзь заўтра ў школу", "Сука, мы расцелем цябе ўсім класам, калі ты яшчэ раз паскардзішся дырэктару"... Усё часцей і ўсё больш настаўнікаў пакідаюць школу, не вытрымліваючы пагроз вучняў.

Па тэлебачанні была перадача на гэтую тэму. Трое настаўнікаў распавялі, чаму яны вымушаны былі сысці са школы. (А пенсія ж у іх магла быць такая, аб якой нашы настаўнікі могуць толькі марыць. Ды што пенсія — нашы аб такой зарплаце марыць не могуць, — гэткая тут пенсія настаўніка.) Не вытрывалі — сышлі...

Калі адзін з іх, між іншым, мужчына, першы раз зайшоў у "новы" клас, у яго паляцелі фламасцеры, ручкі, бутэрброды... А пасля здаравяк-васьмікласнік, падкраўшыся ззаду, стаў душыць настаўніка...

Другі настаўнік не мог знайсці агульнай мовы з адным з вучняў: той аніяк не ішоў на кантакт. Усе спробы наладзіць стасункі, якія не складваліся зусім не па віне настаўніка, канчаліся адным і тым жа: вучань пагрозліва шыпеў: "Я цябе зарэжу!" Аднойчы ён зайшоў ззаду і з усяе сілы выцяў настаўніка рабром далані па шыі...

Гэтым вучням за такія "жарты" нічога не пагражае. Зусім ні-чо-га! Чаму? А ім няма 18 гадоў! Многія настаўнікі і ненастаўнікі лічаць, што трэба мяняць не настаўнікаў (такія меркаванні таксама ёсць), а закон. І — адносіны бацькоў да школы і настаўнікаў. Бо атрымліваецца, што ў Германіі сёння, — вучні яе школ занялі 21 месца сярод вучняў іншых краін свету па сваіх ведах, а ў Еўропе — перадапошняе, — што настаўнік тут самая патрэбная прафесія, але і самая неабароненая. А школы, выходзіць, — зона павышанай рызыкі.

Паспрабуйце ў Германіі зняважыць паліцэйскага. Самае малое, чым гэтае вам пагражае, — гэта вялікі штраф. Настаўніка ж можна "бясплатна" не толькі аблаяць проста на ўроку, але і ўдарыць.

Забыліся, а, можа, й не ведалі ў Германіі такіх слоў: "Шануй настаўніка свайго, як бацьку свайго: бацька даў табе жыццё, настаўнік навучыў, як правільна яго скарыстаць". Гэта сказаў кіеўскі князь Яраслаў Мудры.

## ДАЧКА «Ў ПАДАРУНАК»...

У час арышту ён быў спакойны і ветлівы з паліцыяй. На судовыя пасяджэнні прыходзіў заўсёды пры гальштуку. Дактары вызначылі поўную псіхалагічную стабільнасць. Яму было 48 гадоў. Дачцы, якую ён гвалтаваў з шасцігадовага ўзросту, да моманту суда было 15 гадоў. Працаваў вадзіцелем аўтобуса. Калі дачцы споўнілася 8 гадоў, загадаў ёй запрасіць да іх дзвюх яе сябровак, якіх "упадабаў". Пад музыку і мільгаценне парнакадраў ён гвалтаваў усіх траіх. "Калі каму-небудзь раскажаце, я вырву вам языкі..." Бацькі даччыных сябровак былі яго даўнімі і блізкімі сябрамі. Яшчэ адна страшэнная "дэталь" гэтай справы: мачаха дзяўчынкі часам падглядвала, як яе каханы муж гвалціць сваю дачку...

Калі судовы разбор дайшоў да фактаў неверагодных нават на гэтым "фоне", — бацька прыводзіў дачку ў аўтапарк, дзе працаваў, і... "дарыў" яе калегам, — слабанервовыя сталі выходзіць з залы суда, сяму-таму спатрэбілася дапамога ўрача.

Толькі ў 15 гадоў дзяўчынка адважылася паскардзіцца, і тату арыштавалі. Пракурор з 20-цігадовым стажам працы сказаў, што не сутыкаўся ў сваёй практыцы са злачынцам больш жахлівым і агідным, чым гэты. Тэрмін, які ён запатрабаваў для бацькі-монстра, — ажно... 10 гадоў турэмнага зняволення. Але, выслухаўшы апошняе слова падсуднага, які паабяцаў "больш ніколі так не рабіць", знізіў тэрмін на 6 гадоў і 9 месяцаў. Ягоныя хаўруснікі і мачаха дзяўчынкі наогул не былі пакараны.

Гэта называецца дэмакратыя, справядлівасць і гуманнасць. Але ж любы бацька дзяўчынак ва ўзросце ад шасці гадоў да 15 можа спытаць: "Калі са сваёй гэтак, дык як жа з маёй?"

І яшчэ адзін факт, што адкідвае густы цень на ідэальна правапаслухмянае нямецкае грамадства: аб тым, што бацька шмат гадоў гвалціць сваё дзіця, ведалі, як высветліў суд, больш чым дзесяць чалавек... Як лёгка развеяць легенду!

## ЯНЫ ЯШЧЭ МАЛАДЫЯ

Яны вырашылі "адпачыць" на дыскатэцы. Я недарэмна ўзяў гэтае слова адпа-

чыць у двухкоссе. Ад якой такой святое працы гэтыя хлопчыкі адпачывалі — два ёлупні, што мелі статус палітычных бежанцаў. У іх, ці бачыце, не было грошай на дыскатэку (чытай: на выпіўку і на дзяўчатак — інакш палітбежанцы ў Германіі не жывуць!). А калі няма грошай, — іх трэба здабыць. (Заўважце: не зарабіць, а здабыць.) А як здабыць? А зусім проста: забіць таксіста і забраць ягоную выручку. Вядома, лепш быць хакерам і ціха "высечы" банк. Але тут мазгі патрэбны, а былі толькі рукі, што маглі толькі доўбняй махаць. Для іх нават нож быў занадта складаным інструментам.

...Шафёр раптоўна затармазіў, каб не задушыць ката. Акурат у гэты момант адзін з забойцаў, што сядзелі на заднім сядзенні, паласнуў нажом па горле, але з-за таго, што машына тармазнула, прамахнуўся і пачаў біць нажом па галаве. Таксіст цудам вырваўся з машыны. Прахожыя памаглі яму, яны ж выклікалі паліцыю.

Суд прыгаварыў 21-гадовага Манха Да Л. і 18-гадовага Хунха Н. да пяці і трох гадоў зняволення. "Яны яшчэ маладыя і па нямецкім заканадаўстве іх судзілі не як дарослых", — так вытлумачваецца такое "мяккае" пакаранне. Сядзець у турме доўга і даць людзям магчымасць бязбоязна жыць і працаваць — яшчэ маладыя, а забіваць — ужо не маладыя...

Як на мой суд, дык, прытрымліваючыся разумення нармальнага "сярэдняга" чалавека з нармальнай логікай, ніхто і нідзе не павінен мець прывілеі і льготы забіваць, гвалтаваць і рабаваць. Я хачу ездзіць у таксі, калі будзе чым плаціць, і ў Германіі, і ў роднай Беларусі без страху за сваё жыццё. Не трэба быць "добрай цёткай" за мой кошт.

Такія высновы майго асабістага суда. І геаграфія тут ні пры чым.

## ФАКТ

Больш за ўсё нямецкіх мільянераў жыве сёння ў Мюнхене. (Даўно заўважана, што грашавітыя людзі выбіраюць цяплейшыя мясціны.) Але і афіцыйных бедных у гэтым горадзе — рэкордная колькасць: кожны дзевяты, а ўсяго — 100 тысяч.

Рэзкі скачок у бок збяднення самага багатага горада Германіі і сталіцы баварскай зямлі адбыўся, як лічаць айцы Мюнхена, з увядзеннем еўра. Псіхалогія абарачэння новых грошай такая, што пры тым жа ўзроўні заробкаў яны "сыходзяць" хутчэй, чым маркі.

Горад чакае скарачэнне рабочых месцаў, а значыць, павелічэнне колькасці беспрацоўных і, у выніку, папаўненне арміі бедных. Дзе ўзяць грошай на дапамогі? Стары выпрабаваны і добра знаёмы метад: павышэнне коштаў на праезд, жыллё, электраэнергію. Дзеля чаго я вам пра гэта распавядаю? А дзеля таго, каб падкрэсліць, што ў сувязі з усім гэтым немінуча вырасце ўзровень злачыннасці. А гэта таксама дадатковыя выдаткі на патрэбы паліцыі. Злачыннасць — барометр сацыяльнага жыцця грамадства. А ў Мюнхене ж, калі вы не забыліся, гэтак шмат мільянераў...

•

Дык вось — пра слана. Ён стаіць у скверы непадалёку ад Брэменскага чыгуначнага вакзала. Слон складзены з чырвонай цэглы. Цагляная жывёліна — дзівоснае стварэнне, але больш за ўсё мяне прывабіў надпіс на пастаменце. У ім паведамляецца, што народ незалежнай Намібіі выказвае ўдзячнасць Германіі за гады яе цывілізаванага каланізатарскага кіравання, за тое, што навучыла намібійцаў цывілізаванаму жыццю, і просіць прыняць у якасці дарунка сімвал сваёй краіны — вось гэтага слана.

Як развіваліся адносіны гэтых дзвюх краін — былой метраполіі і былой калоніі — " не ёсць задача гэтага артыкула", як сказалі б немцы. Але, калі меркаваць па колькасці турыстаў з Германіі, якія штогод адпачываюць ў Намібіі, прыносячы немалы прыбытак "малодшай сястры", развіваліся яны, пэўна, няблага.

Вось і камісар мюнхенскай паліцыі і ягоная жонка таксама паехалі туды адпачыць. Трэба было камісару ўлічыць, што ў Намібіі моцны эканамічны крызіс, і ў сувязі з гэтым кіраўніцтва краіны правяло самаахоўную акцыю: аб'явіла, што ва ўсім — голадзе і беспрацоўі — вінаваты белыя каланізатары, якія абрабавалі краіну калісьці, і што зараз не будзе вялікім грэхам, калі народ Намібіі крыху паправіць свае справы за кошт унукаў тых каланізатараў, і адбярэ ў іх крыху таго, калісьці нарабаванага... Бандытызм у гарадах і на дарогах краіны расцвіў пышным кветам.

Няўжо камісар паліцыі такога вялікага горада, як Мюнхен, не ведаў пра гэта? Не, паехаў, ды яшчэ жонку з сабой узяў. Забілі жонку, цяжка паранілі самога камісара, багаж і грошы, вядома, забралі. Камісара выратавалі. Германскі Саюз турыстаў і мюнхенская паліцыя аб'явілі прэмію ў 30 тысяч еўра таму, хто назаве забойцаў. Ды за такую суму ў Намібіі!.. Праз некалькі дзён забойцы сядзелі ў кутузцы. Доказаў іх віны — вышэй галавы. Тыя ж рэчы камісара і ягонай жонкі.

Што пагражае бандытам? Па законах Намібіі, якую Германія калісьці навучыла жыць цывілізавана, самае большае — пажыццёвае зняволенне.

Днямі я быў у раёне брэменскага чыгуначнага вакзала. Чырвоны слон выглядаў неяк журботна... Можа, мне падалося, а можа — гэткая пара года.

**Брэмен**

---

**ДАНІНА ПАМЯЦІ**

***Афіша філармоніі паведамляла: "Вечар арганнай і вакальнай музыкі. Выканаўцы: Алег Янчанка (арган), Дзмітрый Зубрыч (барытон)"...***

*"Каб азорваць іншых, трэба насіць сонца ў сабе"*

**Р. Ралан**



# СПЯВАК І ЛЁС

Калі спявак з'явіўся на сцэне, зала выбухнула воплескамі: Дзмітрыя Зубрыча ведалі, яго любілі. Усё ў ім было гарманічна і натуральна, прыгожы, высокі, нават імпазантны, ён трымаўся проста, але артыстычна.

У цудоўным дуэце аргана і голасу загучалі Песні Вальфрама з оперы Р. Вагнера "Тангейзер" — своеасаблівыя гімны музыцы, мастацтву, каханню. Колькі ў гэтым выкананні было сапраўднай прыгажосці, глыбіні і свежасці пачуццяў! Голас спевака, напоўнены шчырасцю, кранаў, як сапраўдны голас душы.

Выпускнік Харкаўскай кансерваторыі Дзмітрый Зубрыч прыехаў у Мінск па запрашэнні легендарнага Іосіфа Жыновіча. З таго часу Беларусь зрабілася для спевака "Другой Радзімай". Тут ён сустрэўся з цудоўнымі музыкантамі, тут знайшоў сваё каханне (жонкай яго стала музыказнаўца Іна Зубрыч). Лёс Дзмітрыя Зубрыча — гэта адлюстраванне лёсу нашай краіны, цэлай эпохі ў жыцці пакаленняў мінулага стагоддзя.

Міця Зубрыч нарадзіўся 1 чэрвеня 1922 г. у вёсцы Дзергачы, блізу Харкава. З маленства застаўся ў яго памяці голас бацькі — Івана Іванавіча, рабочага-малатабойцы, які цудоўна спяваў дома, у царкоўным і аматарскім хорах. Як зачараваны, хлапчук і ў сабе адчуваў унутраную музыку, і яго сэрца спявала. Але пра музычную прафесію ён і не марыў. Як і бацька, Дзмітрый пайшоў рабочым на завод.

Усё змяніла вайна. Жудасныя баі, пераправа праз Днепр, раненне, шпіталь... У свае 20 ён стаў інвалідам, страціўшы кісць правай рукі. Як было жыць, што рабіць? І вось аднойчы, (як гэта, згадзіцеся, часта бывае ў жыцці таленавітых людзей), вяртаючыся з Харкава пасля дарэмных пошукаў працы, Дзмітрый заспяваў у прыгарадным цягніку. "Місяц на небе", "Ніч яка місячна...". Вакол юнака ў салдацкім шынялі сабраліся захопленыя пасажыры. Адзін з іх звярнуўся да спевака: "Вам абавязкова трэба вучыцца, у вас сапраўдны і прыгожы голас." Чалавек той напісаў маленькую запіску (своеасаблівую рэкамендацыю для звароту ў кансерваторыю). Выпадак на жыццёвым раздарожжы аказаўся знакам лёсу.

Кажуць, талент, як і дыямент, вымагае тонкага, дбайнага агранявання. Дзмітрыю Зубрычу пашанцавала: ягоны голас, пастаўлены ад прыроды, згадзіўся "шліфаваць" знакаміты спявак, прафесар Харкаўскай кансерваторыі, спанатраны Маэстра Павел Голубеў. Але спачатку юнак мусіў атрымаць адукацыю ў музычным вучылішчы, бо нават не ведаў нот.

Перад ім адкрываўся зусім не вядомы раней свет музычных гукаў. Праца па 10—12 гадзінаў на дзень, урокі вакалу, наведванне канцэртных залаў, тэатраў... За два гады (замест чатырох') ён скончыў вучылішча і стаў студэнтам кансерваторыі. У класе прафесара П. Голубева раскрываўся яркі талент, музычнасць і артыстызм маладога вакаліста. Яго дыпломная праца — партыя Анегіна ў оперы П. Чайкоўскага і вялікая камерная праграма. Дзяржаўная камісія вызначыла Д. Зубрычу кваліфікацыю "Оперны і канцэртна-камерны спявак".

Творчы шлях спевака на Беларусі быў цікавы і плённы. Ён выступаў з лепшымі аркестрамі краіны, са славутымі музыкантамі, канцэртмайстрамі, чые імёны і сёння сімвалізуюць духоўнае жыццё і росквіт нацыянальнай музычнай культуры. Гэта — таленавітыя дырыжоры В. Дуброўскі, Б. Афанасьеў, Т. Каламійцава, І. Жыновіч, Б. Райскі, В. Мартынаў, А. Майзлер. Партнёры па сцэне — Т. Ніжнікава, С. Друкер, М. Зюванаў, В. Глушакоў, Т. Шымко, Л. Шубіна, У. Вепрык, А. Астрамецкі; канцэртмайстры: Г. Пятроў, Т. Міянсарава, Е. Эфрон... Якія імёны!

Амаль 12 гадоў разам з Д. Зубрычам працавала таленавітая салістка-піяністка, удумлівы і мудры канцэртмайстар і вялікі сябра Ева Эфрон. Колькі было падрыхтавана праграм, зроблена запісаў на радыё і тэлебачанні! Іх творчы саюз крытыкі называлі "натхнёным дуэтам". Асабліва блізкія былі музыкантам буйныя творы, своеасаблівыя лірычныя "раманы ў гуках": вакальныя цыклы Шуберта, Шумана, Равеля, Мусаргскага, Шастаковіча, Свірыдава, Кабалеўскага. Спяваў Д. Зубрыч і рамансы Барадзіна, Чайкоўскага, Рахманінава. Пры дапамозе тонкіх інтанацыйных штрыхоў артысту ўдавалася перадаць светлую мару і сапраўдную трагедыю, іронію і бестурботную весялосць, летуценнасць і хваляванне. На канцэртах Д. Зубрыча абыякавых і няўдзячных не было.

Ён спяваў многа. Гастролі ў буйных канцэртных залах Масквы, Ленінграда, Сібіры, Сярэдняй Азіі, Балгарыі, Польшчы. Па гарадах Беларусі, на Паўночным флоце, у вайсковых частках. Цесная творчая дружба звязала спевака з кампазітарамі У. Алоўнікавым (між іншым, Д. Зубрыч быў першым выканаўцам ("Песні пра Мінск" — цяперашняга гімна сталіцы), І. Лучанком, Д. Смольскім, Л. Абеліёвічам, Г. Вагнерам, Э. Тырманд...

Была і прэм'ера на сцэне нашага опернага ў партыі Жэрмона ("Травіята"), сольны канцэрт у Доме мастацтваў, запісы і перадачы на радыё, тэлебачанні... Спяваў, быццам спяшаўся...

У 1967-м за выдатныя поспехі ў галіне музычнага мастацтва Дзмітрый Зубрыч быў ганараваны званнем заслужанага артыста БССР.

Сябры запомнілі яго добрым, чулым, прыгожым, абаяльным, клапатлівым, здатным не толькі спачуваць, але і старацца дапамагчы ў бядзе. (Ці не таму ён 12 гадоў быў нязменным старшынёй прафкама філармоніі.) Як дзіця, ён радаваўся поспеху сяброў, мог заразліва смяяцца, дарыць любімай жонцы букецік ландышаў, гуляць у снежкі з маленькімі сынамі...

Жыццё Дзмітрыя Зубрыча абарвалася, калі яму толькі-толькі споўнілася 46 гадоў...

Калі адыходзіць спявак, свет сірацее на адзін гук. Але, кажуць, што святло далёкіх зорак яшчэ доўга ззяе і пасля таго, як яны згасаюць. Дзмітрый Зубрыч спяваў дзеля людзей, каб слухачы маглі атрымаць асалоду ад сустрэчы з цудоўным, каб музыка кранала сэрцы. Нізка пакланімся Артысту, Воіну, Чалавеку...

**Міхась СОЛАПАЎ,**
**прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі**

*НА ЗДЫМКУ: Сустрэча з беларускімі кампазітарамі Я. Цікоцкім, А. Багатыровым, Ю. Семянякам у "жывым" эфіры. Першы справа (стаіць) Д. Зубрыч. Белтэлецэнтр, 1.XI. 58 г.*

**ФОТА З АРХІВА І. ЗУБРЫЧ**



**Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі літаратурны фонд выказваюць шчырыя спачуванні сям'і ПАНЧАНКАЎ з прычыны смерці Зоі Кірылаўны, жонкі Пімена Емяльянавіча Панчанкі, і смуткуюць разам з роднымі і блізкімі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае шчырыя спачуванні паэту Міколу КАСЦЮКЕВІЧУ з прычыны трагічнай гібелі яго роднай сястры.**

**ПАДЗЕЯ!**



# ЗАПРАШАЕ «ЦЭНТРАЛЬНЫ»

**29 красавіка** ў Мінску пасля рамонту адкрыўся кінатэатр "Цэнтральны". Інтэр'ер кінатэатра і унікальную ляпніну архітэктары ўзнавілі па архіўных чарцяжах. З гэтага часу ў "Цэнтральным" усталявана і сістэма долбі-гука, але пасля рамонту зменшылася колькасць месцаў у зале (з 450 да 240).

Плануецца, што рэпертуар кінатэатра на 40 % будзе складацца з новых расійскіх фільмаў (на адкрыцці "Цэнтральнага" дэманстравалася новая стужка Б. Худайназарава "Шик", якую называюць працягам знакамітага "Месяцовага таты"), а таксама з галівудскіх, еўрапейскіх карцін (з 12 мая ў кінатэатры ідзе амерыканская стужка "Таксі—3") і ўсемагчымых фестывальных фільмаў (у "Цэнтральным" маюць намер праводзіць кінафэсты).

**В. Б.**

**ФЭСТ**



# БУДЗЬМА З МУЗАМІ!

**780-ГОДДЗЮ** нашай некаранаванай сталіцы прысвячаецца сёлетні фестываль "Музы Нясвіжа". Ладкуюць яго, як заўжды, Міністэрства культуры РБ, Мінскі аблвыканкам, Нясвіжскі райвыканкам, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі ды Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры. Мастацкі кіраўнік фэсту — маэстра М. Фінберг.

**Сёння, 16 мая,** — пачатак фэсту. Раённы Цэнтр культуры і адпачынку запрашае на спектакль "Помнік каханню" (п'еса К. Шышыгінай у пастаноўцы В. Мароза).

**17 мая** а 10-й гадзіне ў Нясвіжскім краязнаўчым музеі распачнецца Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Культура Беларусі: новыя далягляды". Апроч айчынных удзельнікаў будуць госці з Летувы ды Польшчы. Навуковы кіраўнік канферэнцыі — заслужаны дзеяч мастацтваў РБ, кандыдат філасофскіх навук, прафесар У. Скараходаў.

А палове шостай вечара ў раённым Цэнтры культуры і адпачынку ладзіцца вернісаж работ мастакоў — стыпендыятаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, а таксама выхаванцаў ужо знаёмай заўсёднікам нясвіжскага фэсту дзіцячай мастацкай студыі пад кіраўніцтвам С. Купрыянавай з Мазыра.

У фае РЦК будзе граць, як і ў мінулыя гады, народная інструментальная капэла з Чэрвеня "Ігуменскія крыніцы" пад кіраўніцтвам Г. Шпакоўскага. А 18-й гадзіне — урачыстае адкрыццё фэсту. Канцэрт "Музычная спадчына М. Кл. Агінскага" рыхтуюць калектывы, што працуюць у складзе Дзяржаўнага канцэртнага: Камерны аркестр з дырыжорам В. Сарокам, Ансамбль выканаўцаў на драўляных духавых інструментах (мастацкія кіраўнікі Б. Нічкоў ды Г. Гедыльтар), ансамбль трубачоў "Інтрада" (маст. кір. М. Волкаў) і суполка флейтыстаў "Сірынкс" (маст. кір. Н. Аўраменка).

**18 мая** апоўдні ў Нясвіжскай дзіцячай школе мастацтваў мае адбыцца прэзентацыя CD. Якіх — няхай гэта будзе сюрпрызам. А ў запланаванай тут канцэртнай праграме возьмуць удзел музыканты — стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі.

Закрыццё фестывалю плануецца на 17.00. "Мелодыі роднага краю" — такая назва заключнага канцэрта з удзелам Акадэмічнага народнага аркестра РБ імя І. Жыновіча (мастацкі кіраўнік М. Казінец, дырыжор А. Высоцкі) ды Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы на чале з Л. Яфімавай. Удзельнічае ў сёлетнім фэсце і Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі (маст. кір. В. Дудкевіч). Заўсёдная вядучая і каментатар імпрэзаў — музыказнаўца В. Дадзёмава.

**С. Б.**

**КІНА WEEKEND**



# ШОУ ЗАБОЙЦАЎ

Пераможца сёлетняга "Оскара" — фільм "Чыкага" рэжысёра Р. Маршала здзіўляе перадусім адным: тут няма ніводнага станоўчага героя! Музычная стужка, пастаўленая на аснове знакамітага мюзікла Б. Фоса (а мюзікл — паводле п'есы М. Уоткінс, якую да напісання твора падштурхнулі гучныя судовыя працэсы 20-х гадоў), уяўляе сабой сапраўдную оду ў гонар шоу-бізнеса. Вясёлае, забаўляльнае шоу, цырк можна стварыць нават у судзе, — даводзіцца ў фільм, — бо людзям непатрэбна чорная праўда аб тым, хто каго забіў і навошта. Ім хочацца быць шчасліва падманутымі. І пра гэта цудоўна ведае адвакат (Р. Гір), які з лёгкасцю, маніпулюючы судом прысяжных, выцягвае з пятлі дзвюх прагажунь-забойцаў: танцаўшчыцу Вэлму (К. Зэта-Джонс) і беспрацоўную Роксі (Р. Зелвегер), якая марыць выступаць у кабарэ. Дзве жанчыны (шыкоўныя брунетка і бландзінка) ствараюць сваё незабыўнае шоу "Роксі і Вэлма", шоу забойцаў, апраўданых хітрыкамі і падманам. Бо жыццё — гэта цырк, адно вялікае, неверагоднае шоу, дзе многае прадаецца і купляецца, дзе людзі — марыянеткі...

Фільм складаецца з адметных музычных нумароў, у якіх бліскуча спяваюць і танчаць галівудскія акцёры (асабліва хочацца адзначыць фантастычную пластычнасць К. Зэты-Джонс). У кінааповедзе яны адкрываюць гледачу сапраўдныя думкі і памкненні герояў, музыка тут выступае ў ролі душы персанажаў. Крыўдна толькі, што мінчукі пазбаўлены магчымасці атрымаць асалоду ад спеўных здольнасцей амерыканскіх акцёраў: рускі дубляж цалкам перакрывае іх галасы (нагадаю, што Р. Гір спявае галасам Ф. Кіркорава). Хаця ў Маскве "Чыкага" дэманструецца ў дзвюх копіях, адна з якіх — арыгінальная версія фільма з рускамоўнымі субцітрамі.

**Кінатэатр "Піянер": 16—18 мая, сеансы: 17.00, 19.00, 21.00**

**В. Б.**



**АФІША МАЯ**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**16** — П. Чайкоўскі "Спячая прыгажуня"
**18 (раніца)** — Б. Паўлоўскі "Беласнежка і сем гномаў"
**23** — А. Пятроў "Стварэнне свету"
**25 (раніца)** — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
30 — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**18** — Д. Расіні "Севільскі цырульнік"
**25** — В. А. Моцарт "Вяселле Фігара"
**29, 31** — М. Мусаргскі "Хаваншчына" (прэм'ера)

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл. 220-81-26, 220-92-54**

**16, 31** — А. Рыбнікаў "Юнона" і "Авось", рок-опера
**17** — Ф. Легар "Вясёлая ўдава", аперэта
**18 (раніца)** — І. Левін "Айбаліт—2002", мюзікл
**18 (вечар)** — Ц. Хрэннікаў "Даратэя"
**29, 30** — І. Кальман "Каралева Чардаша" (прэм'ера)

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

**16** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя (прэм'ера)
**17** — А. Курэйчык "Згублены рай", драма
**18** — Далецкія, М. Чарот "Ажаніцца — не журыцца", беларускія вадэвілі
**19** — У. Шэкспір "Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета", камедыя
**21, 22** — В. Дунін-Марцінкевіч "Ідылія"
**23** — М. Манохін "Парфён і Аляксандра", пастараль
**26** — А. Дзялендзік "Смак яблыка"

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

**17** — Я. Баршчэўскі "Беларусь у фантастычных апавяданнях" (прэм'ера)
**23** — А. Аверчанка "Мы і яно", "машынальная" камедыя
**24** — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя
**26** — М. Сайман "Я не пакіну цябе..." (прэм'ера)

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

**16** — А. Астроўскі "Ваўкі ды авечкі"
**17, 27** — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца", камедыя
**18, 30** — Г. Гауптман "Перад заходам сонца", гісторыя дзіўнага кахання
**20, 29** — А. Папова "Сняданак на траве" (прэм'ера)
**21** — І. Губач "Ад'ютанШа яго Вялікасці"
**22** — А. Дудараў "Люці"
**23** — М. Горкі "Дзівакі", (прэм'ера)
**24** — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"
**25** — У. Шэкспір "Гісторыя пра Гамлета, прынца дацкага"
**28** — А. Камю "Калігула", у стылі "HARD"

**Малая сцэна**

— І. Бар-Іосеф "Цяжкія людзі, альбо Жаніх з Іерусаліма"

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

**24** — А. Шчуцкі "Каласнікі", трагікамедыя (прэм'ера)
**25** — С. Кавалёў "Стомлены д'ябал"
**27** — Д. Альмагор "Толькі дурні сумуюць"
28 — А. Курэйчык "Понцій Пілат"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даўмана,1, тэл.289-32-62**

**16, 24** — Ж. Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна", камедыя
**17, 28** — І. Б. Зінгер "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя
**18** — А. Астроўскі "Позняе каханне"
**22, 29, 30** — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара"
**23** — Б. Шоу "Пігмаліён", раман
**25, 31** — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11**

**16** — Е. Міровіч "Тэатр купца Япішкіна", сатыра
**17, 18** — Л. Вернейль "Выкраданне Алены", французскі ад'юльтэр
**20, 21** — С. Бартохава "Поле бітвы", камічная драма
**22, 23** — Д. Кілці "Мілы хлус" (прэм'ера)
**24, 25** — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя
**27, 28** — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**У СТАЛІЦЫ**



**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**
**(пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**16 — Дуэт: Л. Андрадэ (віяланчэль, Партугалія) і А. Бяляеў (фартэпіяна).** У праграме творы Чайкоўскага, Шуберта, Паганіні, Капыцько, А. Бяляева.

**17 — Трыо "Кансананс":** Т. Шумакова (цымбалы), Н. Аруцюнава (цымбалы), В. Баравікоў (фартэпіяна). Музыка Баха, Куперэна, Бернстайна, Цыганкова, Жывалеўскага ды інш.

**19 — "Голас душы"** — парафіяльны хор касцёла св. Сымона і Алены. Мастацкі кіраўнік і дырыжор Т. Гажэўская. Удзельнічае Мінскі струнны квартэт. Першае выкананне "Сакраментальнай паэмы" А. Атрашкевіч, творы іншых кампазітараў.

**20 — Выступаюць навучэнцы** аддзяленняў фартэпіяна, спеваў, струнных смыковых інструментаў Мінскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. Глінкі.

**22 — Старадаўні рускі раманс.** Спявае І. Краснадубскі (барытон), партыя фартэпіяна Т. Вішнякова. Музыказнаўца В. Савіцкая. Творы Булахава, Фаміна, Абухава, Харыто, Абазы ды інш.

**23 — Санатны вечар.** Студэнт Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П. Чайкоўскага А. Хаскін (флейта), І. Сцепанцоў (фартэпіяна), з удзелам П. Студзеннікава (флейта). Музыка Баха, Муке, Пуленка, Санкана, Пракоф'ева, Доплера ды інш.




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**







**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 264-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-85-25**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1655
Нумар падпісаны ў друк 14.05.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1165

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12